














**ЛЕНІН.**
Слова, псеўданім, імя.
Самае галоўнае слова планеты.
Псеўданім выдатнага рэвалюцыянера, мысліцеля.

Імя—сказана паэтам дакладна—самага чалавечнага з людзей. І самага любімага людзьмі працы.

Мы помнім яго запаветы.

Мы вучымся, працуем, ствараем дзеля міру. І называем імем Леніна лепшыя універсітэты, заводы, гаспадаркі... А яшчэ—вуліцы, плошчы, праспекты.

Гэтыя вуліцы і праспекты даволі падобныя. Зразумела, справа не ў іх шырыні, чысціні, мнагалюднасці і архітэктурнай забудове. Тут, хутчэй, падабенства ў іншым:

— Рытм, атмасфера руху, дзелавітасці. І разам з тым—урачыстасць, упэўненасць і гордасць,—сказаў мінчанін Іван Якаўлевіч Мадэкін.

Ён—палкоўнік у адстаўцы. Вызваляў сталіцу рэспублікі. А ваяваць пачаў у сорак першым. Лейтэнантам, артылерыстам. Удзельнічаў у Сталінградскай бітве і баях пад Курскам. Стваральнікам музея-панарамы «Сталінградская бітва» вельмі спатрэбіліся яго кансультацыі, успаміны.

— Нядаўна зноў быў у горадзе на Волзе: сустракаўся з франтавымі сябрамі. Хадзілі глядзець месцы, дзе раней былі пазіцыі. А іх многа схавала імклівая і прамая стужка праспекта. Праспекта Леніна.

Люблю ўглядацца ў твары валгаградцаў. Таму, што... Аднак, і так павінна быць ясна—чаму. Сярод іх амаль няма карэнных: вайна. Рускія, многа ўкраінцаў і беларусаў, казахаў. Гавораць, тутэйшыя жыхары—прадстаўнікі каля ста нацыянальнасцей і нацый. Як у Мінску. І як у Мінску гэта—трактарабудаўнікі, вучоныя, студэнты, сталявары, кандытары, ткачы, будаўнікі...

Дарэчы, спаборніцтва гарадоў-герояў і пачалося са спаборніцтва будаўнікоў. Яны аднаўлялі з руін (дакладней, адбудоўвалі нанава) галоўныя плошчы, вуліцы сваіх гарадоў і спаборнічалі. І дзяліліся ўсім, чым маглі.

І. Я. Мадэкін—адзін з 16 чалавек, з якімі я гутарыў у дзень падрыхтоўкі гэтага рэпартажу на праспекце.

Усе 16 кароткіх інтэрв'ю на нашай галоўнай вуліцы аказаліся даволі падобнымі. Але тут нельга напісаць: надзіва. Ці многа дзіўнага ў тым, што людзі да асаблівай магістралі сталіцы і адносяцца асабліва?

І абавязкова прыходзяць сюды з сябрамі, якія прыехалі здалёк. І з гатоўнасцю бяруць на сябе абавязкі экскурсаводаў.

А іх расказы, дарэчы, заўсёды падобныя. Як узятыя мной інтэрв'ю.

Можа, толькі «прафесіянальны ўхіл» уносіць некаторую разнастайнасць.

Супрацоўнік ДАІ МУС БССР С. П. Цітавец падкрэслівае:

— Тут самыя культурныя пешаходы. Ленінскі праспект Мінска—узорная магістраль нават не рэспублікі—краіны.

А намеснік дырэктара Дзяржэнерганагляду Мінэнерга М. В. Лысенкаў звярнуў увагу на ілюмінацыю:

— Мы навучыліся асвятляць вячэрні праспект і прыгожа, і эканамічна.

Дырэктар аднаго з агароднінных магазінаў М. І. Бабіка прапануе пачаставаць у спякотны поўдзень сокам:

— Агародніння і фруктовыя сокі прадаюць па ўсім праспекце. І ў якім асартыменце!

Праспект Леніна ў Мінску. Вуліца Леніна ў Баранавічах і Оршы, Віцебску і Салігорску. Ленінскі праспект Гомеля, Ленінская вуліца Магілёва... Крыху розныя назвы галоўных вуліц. Але названы яны адным імем.

Сярод іх ёсць вуліцы, якія помняць калоны дэманстрантаў часоў Асінбуда, уводу ў дзеянне Гомсельмаша, стварэння першай у БССР стаханаўскай брыгады на абутковай фабрыцы ў Мінску. І адкрыццё 7 лістапада 1933 года помніка У. І. Леніну ля Дома ўрада.

Памятаюць яны і чэрвень сорак першага, і май сорак пятага. Памятаюць подзвіг савецкага салдата, які вярнуў свабоду народам Еўропы і сотням вуліц Леніна—вярнуў ці даў магчымасць называцца так.

Мы цвёрда ведаем: чым больш на картах гарадоў розных краін плошчаў, праспектаў, вуліц імя Леніна—тым мацнейшы мір. А такія вуліцы сёння ёсць і ў Заходняй Еўропе, і ў Афрыцы, і ў Азіі, і на Амерыканскім кантыненце.

Цяжка нават уявіць—не тое, каб падлічыць—іх агульную працягласць. Касмічныя кіламетры!

Пасляваенная рэспубліка...

Раслі новыя гарады. І з'яўляліся новыя вуліцы Леніна. Яны пачалі свой разбег у гады першых ЭВМ «Мінск-1», юнацтва гродзенскага азотнага, навапалацкага хімічнага, салігорскага калійнага камбінатаў.

І разбег гэты і сёння—толькі разбег. Няма фінішу. Няма канца ў вуліц, праспектаў Леніна. І зноў жа не таму, што ўсе яны прыгажэюць, будуюцца. А таму, што магістралі гэтыя—магістралі нашага жыцця. Нашых планаў і спадзяванняў.

Валерый ЛАРЫН.

# У НУМАРЫ



**Рэдакцыя прымае і разглядае апавяданні, нарысы, урыўкі з аповесцяў і раманаў памерам да 14 старонак.**
**Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы ў двух экземплярах.**
**Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.**

**На першай старонцы вокладкі — плакат Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**




**Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!**

# БЕЛАРУСЬ

**ШТОМЕСЯЧНЫ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС**

**№7 (571) ЛІПЕНЬ 1986 г.**

ОРГАН САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР
Заснаваны ў 1930 годзе.

**Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск.**
















**Галоўны рэдактар А. А. ШАБАЛІН.**

**Рэдкалегія:**
**Т. М. БОНДАР (намеснік галоўнага рэдактара), Вера ВЯРБА (Г. П. САКАЛОВА), А. І. ВЯРЦІНСКІ, В. М. ЖУК (адказны сакратар), М. І. КАЛАЧЫНСКІ, А. М. КАШКУРЭВІЧ, У. М. КОНАН, А. А. ЛОЙКА, Х. А. ЛЯЛЬКО, А. І. МАЛЬДЗІС, Ю. У. СЕМЯНЯКА, В. А. ЯНОЎСКІ, М. М. ЯРОМЕНКА.**



**Мастацкі рэдактар Н. І. БАГАМОЛАВА. Карэктар М. У. ВАСІЛЕЎСКАЯ. Афармленне Л. А. КАРНЕЕВАЙ.**

Журнал «Беларусь» на белорусском языке.
Здадзена ў набор 14.05.86. Падпісана да друку 26.06.86. АТ 01122. Фармат $70 \times 108^{1}/_{8}$. Глыбокі друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 10,9. Ум. фарбаадб. 12,6. Т 13 383 экз. Зак. 965.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.

220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



© «БЕЛАРУСЬ», 1986 г.

**«КПСС НАДАЕ ВЯЛІКАЕ ЗНАЧЭННЕ БОЛЬШ ПОЎНАМУ І ГЛЫБОКАМУ АСВАЕННЮ ПРАЦОЎНЫМІ МАСАМІ БАГАЦЦЯЎ ДУХОЎНАЙ І МАТЭРЫЯЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ...»**

**З Праграмы КПСС у новай рэдакцыі, зацверджанай XXVII з'ездам КПСС.**

# НА ПАДМУРКУ БЫЛОГА

**Уладзімір ГІЛЕП,**
**першы намеснік міністра культуры БССР**

Рака нараджаецца з ручаінкі, дрэва расце з кораня, чалавек жывы памяццю, і так, як рацэ, каб разліцца ў шырокіх берагах, трэба сабраць сотні, тысячы ручаёў, так, як дрэву, каб зашумець магутнай кронай, трэба доўга ўрастаць у вятры, у дажджы — у гады, чалавеку, каб адчуць сябе сынам сваёй зямлі, трэба ведаць, уведаць яе гісторыю — гісторыю свайго роду, свайго народа. Вытокі, карані чалавечай памяці — у мінулым, і чым глыбей у мінулым знаходзім мы іх, тым больш магутным, тым больш жыццядзольным уяўляецца носьбіт гэтай памяці — народ, тым больш важкай, тым больш каштоўнай з'яўляецца пакінутая ім спадчына.

Таму так беражна захоўваюцца помнікі даўніны, што засталіся нямымі, але такімі красамоўнымі сведкамі тых далёкіх часоў, калі самабытныя майстры краю ўзводзілі храмы, замкі, крэпасці. Таму так беражліва збіраюцца крупінкі старажытнай культуры народа — народныя песні і абрады, фрагменты, сколкі насценных роспісаў, творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, археалагічныя знаходкі, першыя творы пісьменнасці і кніжныя гравюры. А яшчэ — радкі біяграфій і ўспаміны, людскія сведчанні пра лепшых з лепшых, што не толькі любоў сваю, не толькі талент — жыццё аддалі за народ, за Радзіму.

Шмат можна было б называць імён тых, хто талентам сваім, самім жыццём сваім уславілі спрадвечнае імкненне беларусаў да свабоды, да шчасця, да светлай будучыні,— а не ўсе ж імёны мы ведаем! Ды калі і страчаны імёны — не страчаны шлях, які прадоўжылі тыя, хто ўстаў на барацьбу супраць прыгону, супраць прыгнёту барацеяў у 1863 годзе, і ў 1905 годзе, і ў 1917. Не страчаны, і прадаўжаецца, імкліва набліжае да нас будучыню, у якой павінна знайсці і абавязкова знойдзе месца кожнае сведчанне гісторыі, кожная згадка даўніны. Гэта наш агульны нацыянальны здабытак, гэта той падмурак, на якім упэўнена і цвёрда стаіць сённяшняя Савецкая Беларусь, на якім будуць гэтак жа шчасліва і вольна будаваць сваё жыццё новыя і новыя пакаленні.

Прыгадваюцца словы Уладзіміра Ільіча Леніна, які літаральна на другі дзень пасля гістарычнай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў рэвалюцыйным заклiку да пераможшага народа гаварыў: «...Грамадзяне, старыя гаспадары адышлі, пасля іх засталася велізарная спадчына. Цяпер яна належыць усяму народу... Грамадзяне, беражыце гэту спадчыну, беражыце карціны, статуі, будынкі — гэта ўвасабленне духоўнай сілы вашай і продкаў вашых...»

Асновы ленінскіх адносін да аховы і выкарыстання гістарычнай і культурнай спадчыны свята праводзяцца ў жыццё Камуністычнай партыяй і ўрадам БССР. Яны знайшлі практычнае ўвасабленне ўжо ў першых дэкрэтах Савецкай улады ў Беларусі. Так, 20 студзеня 1919 года Часовы ўрад БССР прыняў пастанову «Аб перадачы культурных каштоўнасцей навукі і мастацтва, якія знаходзяцца ў сядзібах і розных установах, Камісарыяту асветы і аб арганізацыі іх уліку, аховы і збору».

У галіне, звязанай з аховай і выкарыстаннем гістарычнай спадчыны, значнае месца адводзіцца ахове архітэктурных помнікаў, якіх у нашай рэспубліцы налічваецца больш як 1,2 тысячы. Іх навуковае даследаванне і рэстаўрацыя звязана з іх далейшым актыўным выкарыстаннем у культурна-асветніцкіх мэтах, у патрыятычным і эстэтычным выхаванні працоўных. Так, у рэстаўрыраваных гістарычных збудаваннях створаны: музей народных рамёстваў і промыслаў у Заслаўі, музей беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, мастацкі музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве, Літаратурны музей Э. Ажэшкі ў Гродне, ваенна-гістарычны музей імя А. В. Суворава ў Кобрыне, музей атэізму і гісторыі рэлігіі ў Гродне, канцэртная зала ў Мінску, сельскі Дом культуры ў вёсцы Варняны Гродзенскай вобласці; аб'яўлены запаведнымі мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа,— Вязынка, Ляўкі, Мікалаеўшчына.

Найбольш цікавай работай уяўляецца работа беларускіх мастакоў у самым старажытным горадзе рэспублікі — Полацку. У Сафійскім саборы ўжо дзейнічае канцэртная зала, дзе з поспехам праходзяць шматлікія канцэрты вядучых майстроў мастацтва краіны. У Багаяўленскім саборы размешчана карцінная галерэя. На базе гэтых і іншых помнікаў і музейных экспазіцый створаны самастойны Полацкі гісторыка-археалагічны запаведнік. Рэстаўрыруецца Узвіжанскі сабор, у якім будзе размешчаны планетарый.

І яшчэ адзін помнік архітэктуры будзе далучаны да запаведніка. Гэта Спаса-Ефрасіннеўская царква, дзе пачаліся падрыхтоўчыя работы для кансервацыі унікальных фрэсак XII стагоддзя.

Усеагульную вядомасць набыла рэканструкцыя Троіцкага прадмесця ў Мінску. Важнасць гэтай работы надзвычайная яшчэ і ў тым плане, што пры рэстаўрацыі кварталаў гістарычнай забудовы, як Мінска, так і іншых гарадоў, патрабуецца новы падыход да правядзення даследчай работы і навуковых абгрунтаванняў прымаемых практычных рашэнняў.

Патрэбны вопыт у нас ёсць, і немалы. Калі ў Брэсце, да прыкладу, у выніку археалагічных раскопак быў знойдзены вялікі фрагмент забудовы старажытнага Бярэсця, якая мае унікальную гістарычную і навуковую каштоўнасць, адразу было прынята рашэнне ўрада БССР аб стварэнні на яго базе археалагічнага музея «Бярэсце» — музей карыстаецца цяпер вялікай папулярнасцю.

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў БССР ад 9 снежня 1976 года ў акрузе вадасховішча Пціч, каля вёскі Строчыца Мінскага раёна, будуецца Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і быту. Да адкрыцця музея, якое плануецца на 1987 год, на яго тэрыторыі плошчай больш за 100 гектараў, будзе сканцэнтравана каля 200 помнікаў народнай драўлянай архітэктуры, якія адлюструюць найбольш характэрныя структуры беларускіх вёсак, распаўсюджаныя жыллёвыя і гаспадарчыя будовы.

Апошнім часам вядуцца работы па рэстаўрацыі унікальных помнікаў беларускай культуры ў Міры і Лідзе, царквы ў Сынковічах, рэстаўрыруецца будынак езуіцкага калегіума ў Пінску, у якім будзе адкрыта экспазіцыя Беларускага дзяржаўнага музея сацыялістычнага пераўтварэння Палесся.

Аб'ём рэстаўрацыйных работ у рэспубліцы штогод павялічваецца. Улічваючы гэту акалічнасць, урад рэспублікі прыняў рашэнне аб стварэнні аб'яднання «Белрэстаўрацыя» і ў яго складзе — трох міжабласных спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрань.

Што ж, калі на працягу многіх гадоў пасля вайны ў рэспубліцы вяліся аграмадныя работы па аднаўленню прадпрыемстваў і гаспадарак, па аднаўленню жылля і дарог, што патрабавала вялізных сродкаў, то сёння задача стаіць — аднавіць, рэстаўрыраваць каштоўныя архітэктурныя і мастацкія помнікі. Вядома ж, што варварская нашэсце фашысцкай Германіі абярнулася для Беларусі не толькі сотнямі тысяч ахвяр, нанесла каласальную страту не толькі нашай эканоміцы, але і нашай культурнай спадчыне. Гітлераўскі рэйх свайго аддаваў загады разбураць на захопленых тэрыторыях гістарычныя помнікі, вывозіць у Германію шэдэўры мастацтва. Асабліва жорсткаму разграбленню падвергліся Мінск, Магілёў, Віцебск, Полацк, Бабруйск, многія іншыя гарады і вёскі Беларусі.

Аднак ужо ў 1942 годзе Саветам Народных Камісараў БССР была створана Камісія па ўліку і ахове помнікаў пры Камітэце па справах мастацтваў СНК БССР, якая ў перыяд з 1942 па 1943 год зрабіла значную работу па ўліку разбураных помнікаў у

прыфрантавой паласе. 14 красавіка 1945 года СНК БССР прыняў пастанову «Аб ахове і адраджэнні архітэктурных помнікаў, увекавечанні знамянальных месц і падзей, якія звязаны з вызваленнем Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».

У першыя ж пасляваенныя гады пачалася работа па ўзвядзенню помнікаў і абеліскаў. На месцах дзеянняў воінскіх часцей і партызанскіх злучэнняў, баёў Вялікай Айчыннай вайны, на магілах воінаў Савецкай Арміі і партызан.

Найбольш значныя архітэктурна-мастацкія ансамблі і помнікі, прысвечаныя гераізму нашага народа, былі збудаваны ў Беларусі ў 60—70-я гады. Гэта — вядомыя сёння далёка за межамі рэспублікі мемарыяльныя комплексы «Брэсцкая крэпасць-герой», «Хатынь», «Прарыў», «Савецка-польскай баявой садружнасці», «Курган Славы», «Кацюша», «Віцебска-Суражскія вароты», помнікі «Мацеры-патрыётцы» — у Жодзіне, «Воінам-камсамольцам» — у Гомелі, «Партызанам Вілейшчыны» — на возеры Нарач, экіпажу Мікалая Гастэлы — у Радашковічах.

У гэты ж перыяд ствoff беларуская ленініяна. Пабудаваны помнікі У. І. Леніну ў Лепелі, Бабруйску, Пінску, Пружанах, Століне, Салігорску, Нароўлі, Маларыце. Устаноўлены помнікі саратнікам У. І. Леніна, відным дзеячам Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада Ф. Э. Дзяржынскаму ў Івянцы і на яго радзіме ў Дзяржынаве, М. І. Калініну ў Мінску; беларускім асветнікам Францыску Скарыне ў Полацку, Сымону Буднаму ў Нясвіжы, народным паэтам Я. Купалу, Я. Коласу і М. Багдановічу ў Мінску і іншыя. У дзень 40-годдзя Вялікай Перамогі ў Мінску адкрыты помнік «Мінск — горад-герой».

Шэраг пастаноў Савета Міністраў БССР 1950—1975 гадоў уключыў у дзяржаўныя спісы 1031 помнік гісторыі, археалогіі і архітэктуры рэспубліканскага значэння. Каля 10 тысяч помнікаў узялі пад сваю ахову абласныя выканаўчыя камітэты народных дэпутатаў.

Значны ўклад у справу захавання, прапаганды і выкарыстання гістарычнай і культурнай спадчыны нашага народа ўносіць Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў. Яно шырока выкарыстоўвала свае сродкі на рэстаўрацыю Сафійскага і Багаяўленскага сабораў у Полацку, былых касцёлаў у Мінску і Раўбічах, аб'ектаў у Вілейцы і Мсціславе, замка ў Міры.

У адпаведнасці з законамі СССР і БССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» і артыкулам 27 Канстытуцыі БССР аб ахове, прымнажэнні і шырокім выкарыстанні духоўных каштоўнасцей для маральнага і эстэтычнага выхавання савецкіх людзей, урад рэспублікі вядзе актыўную работу па знаходжанню, вывучэнню і ўліку гістарычнай і культурнай спадчыны рэспублікі. У ёй прымаюць удзел Міністэрства культуры, Акадэмія навук БССР, Беларускае добраахвотнае таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры, мясцовыя Саветы народных дэпутатаў. Як вынік — узяты пад улік 15200 помнікаў, падрыхтаваны да выдання сямітомны «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі».

Спадчына... Бацькаўшчына... Памяць... Сёння ўсім відавочная неабходнасць адвесці ёй пэўнае месца ў новым матэрыяльным і эстэтычным асяроддзі, задача фарміравання якога ляжыць на нашых архітэктарах, рэстаўратарах, будаўніках. Спадчына павінна быць арганічна ўключана ў сучаснае жыццё як істотны элемент сацыялістычнай культуры. «Не ведаючы мінулага,— гаварыў Максім Горкі,— нельга зразумець сучаснае і пабудаваць будучае».




# ГАНАРУСЯ БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ

Ад бацькоў і дзядоў нам засталіся ў спадчыну іх вялікая працавітасць, іх майстэрства, іх адказнасць за сваю работу. І гэта не проста словы. Многія мае аднагодкі, з якімі я працую поплеч, вучыліся ў сваіх бацькоў вялікай і пачэснай справе — быць рабочым. І я таксама вучыўся гэтаму ў свайго бацькі Аляксандра Іванавіча, які з самага першага дня існавання ліцейнага цэха працаваў тут сталяварам. За сумленную працу Радзіма ўзнагародзіла бацьку ордэнам Леніна і іншымі ўзнагародамі і аказала высокае давер'е, выбраўшы яго членам ЦК КПБ, а затым і дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Успамінаю незабыўныя дні, калі бацька прыходзіў дамоў з сябрамі-сталяварамі, радаснымі, узрушанымі. З якім гонарам гаварылі яны пра завод, што набіраў сілу, набываў размах, выходзіў на перадавыя пазіцыі беларускай індустрыі! Не ўсё я, хлапчук, разумеў тады, гэта прыйшло пазней, але іх палымяныя словы, зіхоткія, як расплаўлены метал, вабілі мяне, прыцягвалі. «Глядзі, хлопча, калі хочаш быць ліцейшчыкам, не бойся работы, а ўзятую справу давядзі да канца, каб не было сорамна перад людзьмі»,— гаварыў мне бацька. Гэтыя словы я помню. І вось ужо дзевятнаццаць гадоў працую электрыкам у сталеліцейным. Тут я стаў членам Камуністычнай партыі, тут мой дом і маё жыццё. Падрастае сын Жэня. І я ўжо ведаю, што, як і бацька некалі браў мяне ў цэх, буду браць сына ў ліцейку, прывучаць да работы, таму што лічу: праца — гэта аснова жыцця чалавека, а званне працоўнага чалавека — самае ганаровае і пачэснае ў нашым грамадстве.

Гавару гэта з поўнай перакананасцю. Хто, як не рабочы, стаіць каля магутных канвераў, доменных пячэй, станкоў. Хто, як не рабочы, выкарыстоўвае тэхніку, з дапамогай якой ён стварае матэрыяльныя даброты для ўсяго нашага грамадства. Менавіта ад яго настойлівасці, натхнення, працоўнай дысцыпліны, умення залежыць сёння поспех нашага далейшага развіцця.

У ініцыятыве, энергіі, жывой творчасці мас, іх свядомых зацікаўленых адносінах да задач стварэння новага ладу — вось у чым бачыў Ленін найважнейшы выток сілы і жыццяздольнасці сацыялізму. Сёння, калі наша краіна ўступіла ў адказны этап інтэнсіўнага эканамічнага развіцця, калі нам за бліжэйшыя пятнаццаць гадоў трэба зрабіць столькі, колькі зроблена за ўсе гады Савецкай улады, нам проста неабходна працаваць з такім працоўным энтузіязмам, з якім калісьці нашы дзяды і бацькі стварылі асновы сённяшняй эканомікі, узводзілі магутныя сацыялістычныя прадпрыемствы. Нам неабходна выкарыстаць магутны духоўны патэнцыял, які застаўся ў спадчыну ад тых, хто будаваў Днепрагэс, Магнітку, выдаваў вугаль на-гара, асвойваў бязмежныя арктычныя прасторы і цалінныя землі, хто штурмаваў космас і пракладваў БАМ. У нас ёсць чым ганарыцца, ёсць чаму вучыцца, ёсць з каго браць прыклад. Мы здабылі магутную сілу адзінства. І з ёю мы смела крочым у будучыню.

**Анатоль АЗАРАЎ,**
**брыгадзір брыгады электрыкаў**
**сталеліцейнага цэха**
**вытворчага аб'яднання**
**«Мінскі трактарны завод**
**імя У. І. Леніна»,**
**ударнік адзінаццатай пяцігодкі,**
**патомны рабочы.**

# «МЫ, БЕЛАРУСЫ, З БРАТНЯЮ РУССЮ...»




Каціліся пад гару зімовыя тыдні 1836 года... Пушкін настойліва працаваў над матэрыяламі першага тома часопіса «Современник», на выданне якога нарэшце атрымаў дазвол. На паэтавым стале кніга, нядаўна надрукаваная ў Пецярбургу,— «Збор сачыненняў Георгія Каніскага, архіепіскапа беларускага». Пушкін рыхтуе рэцэнзію на гэта выданне для свайго часопіса. Асоба Каніскага даўно прыцягвала ягоную ўвагу. Высокаадукаваны вучоны (настаўнікам якога быў сам Феафан Пракаповіч), бліскучы палеміст і прамоўца, самаадданы абаронца нацыянальных інтарэсаў беларускага народа, Каніскі, на думку Пушкіна, «адзін з самых векапомных дзеячаў мінулага стагоддзя».

Думкі пра Каніскага натуральна пацягнулі за сабой развагі аб лёсе Беларусі не толькі на працягу XVIII стагоддзя, на другую палавіну якога прыпала дзейнасць «айца Георгія», але і больш шырокага плана. Пушкін піша аб пакутах «народа, спрадвеку нам роднага...» Спрадвеку, значыць, беларусы былі родныя рускім, Расіі. Так лічыў Пушкін, гістарычныя веды якога былі глыбокімі, рознабаковымі. Таму як заканамерную з'яву гаворыць ён у той жа рэцэнзіі аб уз'яднанні беларускіх зямель з Расіяй у канцы XVIII стагоддзя: «Сем вобласцей, старажытны набытак нашай айчыны, былі ёй вернуты...»

У пушкінскіх словах пра еднасць і крэўнасць беларускага і рускага народаў асабліва спыняе на сабе ўвагу гэта «спрадвеку» («издревле»). Да якіх жа часоў мінулага сягала думка паэта?

Безумоўна, карціны жыцця Кіеўскай Русі паўставалі перш за ўсё перад ягоным мысленым паглядам. І садзейнічала гэтаму ў першую чаргу «Гісторыя дзяржавы Расійскай» Карамзіна, тамы якой сталі вялікай падзеяй у духоўным жыцці рускага грамадства першай чвэрці XIX стагоддзя. Нездарма ж Пушкін сказаў, што «старажытная Расія, здавалася, знойдзена Карамзіным, як Амерыка Каломбам». Працягваючы думку паэта, можна сцвярджаць, што ў той жа «карамзінскай «Гісторыі» былі «знойдзены» — у рэчышчы старажытнай Русі — і старажытная Беларусь і старажытная Украіна. Кіеўская Русь, старажытнаруская народнасць — выток і пачатак гісторыі рускіх, украінцаў, беларусаў — была адноўлена ў працы Карамзіна з дапамогай летапісаў, якія ўпершыню раскрылі перад чытачом багацце, складанасць айчыннай гісторыі. Адсюль, ад летапісаў, дакументаў, прасякнутых гісторыяй мастацкіх сведчанняў,— цвёрдая ўпэўненасць Пушкіна ў роднасці, гістарычнай лучнасці беларусаў і рускіх. Побач з «Гісторыяй» Карамзіна выдатныя помнікі, мастацкая выразнасць якіх не магла не хваляваць уяўленне паэта. «Повесть временных лет»... «Слово о полку Игореве»... Можна ўявіць сабе, як уголас паўтараў Пушкін велічна-трагічныя радкі з апісаннем бітвы на Нямізе: «На Немизе снопы стелют головами, молотят чепи харалужными, на тоце живот кладут, веют душу от тела». Як вымаўляў ён беларускія словы славутага помніка — «палон», «аксаміты», «смага», «туга»,— захапляючыся прыгажосцю, глыбокай унутранай выразнасцю старога славянскага слова, якое перайшло і гучыць зусім натуральна ў ягоных паэмах, казках, нават у прозе...

І бітва на Нямізе, і гісторыя Усяслава Полацкага (Чарадзея) — для Пушкіна гэтыя беларускія рэаліі «Слова» неад'емныя ад агульнай гісторыі Кіеўскай Русі, разам з іншымі фактамі і падзеямі яны фарміравалі гістарычную самасвядомасць паэта.

Беларусь займала ў ёй месца краю роднага, блізкага Расіі і несправядліва адчужанага ад яе. Пушкін так і піша пра сярэдзіну XVIII стагоддзя»: «...Беларусь знаходзілася яшчэ пад ярмом Польшчы». Гэта ўсё ў той жа рэцэнзіі на творы Георгія Каніскага, дзе гаворыцца пра долю «народа, спрадвеку нам роднага, але адчужанага ад Расіі лёсам вайны». Лёсам («жребиями») вайны, безумоўна, лічылася падпарадкаванне беларускіх зямель Вялікаму княству Літоўскаму, што аслабіла сувязі з Расіяй (асабліва ў XIII—XIV стагоддзях).

Так, на вельмі ж малой плошчы — усяго некалькі старонак займае пушкінская рэцэнзія, а з яе не болей дзесятка радкоў займаюць выказванні пра Беларусь — узнаўляем, выяўляем мы адносіны Пушкіна да нашага краю. Адчуванне ягонай гістарычнай злучнасці з Расіяй несумненнае. Яно выказана прама, эмацыянальна, горача.

А што думаў Пушкін пра нацыянальную самастойнасць, своеасаблівасць беларусаў? У тых жа радках мы знаходзім адказ і на гэта пытанне. Ён не сфармуляваны з такой катэгарычнасцю як думка пра блізкасць рускіх і беларусаў. І ўсё ж чытаецца недвухсэнсоўна. Перш за ўсё таму, што Пушкін гаворыць не пра насельніцтва асобных (заходніх) абласцей ці губерань, а пра «**народ,** спрадвеку нам родны». Размова, такім чынам, ідзе пра **цэлы народ.** У розных творах Пушкіна мы сустракаем такі выраз — «дух народа». У рэцэнзіі на творы Каніскага адчувальны «дух» беларусаў, якіх «гвалтам гналі... ва уніяцкія касцёлы... білі... кідалі ў турмы, марылі голадам», у якіх «адбіралі дзяцей» і якія ўсё ж не сталі на калені, не адцураліся ад саміх сябе. Нягледзячы на самыя цяжкія гістарычныя выпрабаванні, беларусы засталіся народам. Амаль праз трыццаць гадоў пушкінскую думку падхопіць Фёдар Дастаеўскі: «Без гэтай веры ў сябе не ўстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі...»



У адным з сваіх запісаў Пушкін абураецца: «Расія надта мала вядомая рускім». Гэта погляд за межы рускіх губерань, на ўскраіны імперыі, у тым ліку і ў бок Беларусі.

Традыцыя менавіта пушкінскіх уважлівых і спачувальных адносін да лёсу народаў Расіі была прадоўжана рэвалюцыйнымі дэмакратамі, атрымала новае развіццё ў часы пралетарскага перыяду вызваленчага руху. «Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы» — сапраўдным прароцтвам прагучалі гэтыя словы Дабралюбава. Творчыя сілы ўзняўшага галаву народа ўбачылі Горкі і Брусаў. Супраць рэпрэсій ўрада пад час паўстання 1863 года горача пратэставаў Герцэн... Леў Талстой напісаў усхваляваную прадмову да споведзі маладой беларускай сялянкі Агаф'і Цішковай, у якой адзначыў «жывое ўсведамленне несправядлівасці свайго стану».

А колькі сюжэтаў, тэм, вобразаў дала Беларусь рускай літаратуры! Можна пачаць з пушкінскага «Дуброўскага»... Можна звярнуцца да часоў Фанвізіна і Дзяржавіна... У любым выпадку пералік будзе доўгім. У ім знойдуць сваё месца і паэмы Лермантава, і творы Гогаля, Някрасава, Караленкі...

Калі ж мы пойдзем з іншага — беларускага — боку да фактаў і падзей супольнасці рускага і беларускага народаў, то колькі ўбачым, адчуем, прачытаем знакаў, сведчанняў, шчырых слоў павагі і любові! Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч і ці ж толькі яны адчулі на сваёй творчасці жыватворнае ўздзеянне рускай класікі... Брацъ ад іншай культуры, але захоўваць свой твар — гэта праблема хвалявала Багдановіча. Нездарма ў артыкуле «Забыты шлях» ён пытаецца: «...што з песень, каторыя пяюцца ў нас, належыць да беларусаў, а што ўзята ад велікарусаў, украінцаў, нават у палякаў?» І адначасова папярэджвае: «...Мы зрабілі б цяжкую памылку, калі б кінулі тую вывучку, што нам давала сусветная (найчасцей еўрапейская) паэзія. Гэта апошняя праца павінна ісці поўным ходам. Было б горш, чым нядбайства, нічога не ўзяць з таго, што сотні народаў праз тысячы гадоў сабіралі ў скарбніцу сусветнай культуры».

У гэтым жа артыкуле Багдановіч разважае пра «народны дух», ягоную сутнасць. Успомнім прыгаданы вышэй пушкінскі выраз «дух народа». Пушкін і Багдановіч шукалі дакладнейшага вобраза народнай стыхіі, найлепшых магчымасцей нацыянальнага самавыяўлення. І абодва разумелі неабходнасць і ўзаемазалежнасць культурна-гістарычнага развіцця народаў Расіі.

Гэта развіццё, на думку Багдановіча, павінна было садзейнічаць стварэнню «нацыянальнай літаратуры Расіі». У 1916 годзе ён пісаў у адной са сваіх рэцэнзій пра «магутны фактар, які гуртуе разнастайныя плямёны Расійскай імперыі, менавіта рускую культуру. Яе пячаць ляжыць на духоўнай творчасці любога народа Расіі, яна з'яўляецца для іх агульнай глебай, збліжаючы змест іх культур, іх ідэйных і літаратурных плыняў».

Як і Пушкін, Багдановіч быў заклапочаны духоўнай гісторыяй свайго народа, ягонай нацыянальна-культурнай самасвядомасцю. Нездарма ён заклікаў «стаць бліжэй да душы роднага народа, лепей наталіць яе духоўную смагу...» Яны глядзелі далёка наперад, геніі рускай і беларускай літаратур. Таму не толькі да Пушкіна, але і да Багдановіча можна аднесці словы Вяземскага аб «правільным разуменні гісторыі, якасці, якой адораны не ўсе гісторыкі».

**Сямён БУКЧЫН.**

# БУРАВЕСНІКІ РЭВАЛЮЦЫІ

**Першая расійская рэвалюцыя эпохі імперыялізму «...абудзіла да палітычнага жыцця шырокія масы рабочых і сялян, іншыя слаі насельніцтва, азнаменавала пачатак новага гістарычнага перыяду — перыяду глыбокіх сацыяльных узрушэнняў і рэвалюцыйных бітваў... Узмацніліся рэвалюцыйныя выступленні ў арміі і на флоце»,— адзначаецца ў Пастанове ЦК КПСС «Аб 80-годдзі рэвалюцыі 1905—1907 гадоў у Расіі».**

Сярод матросаў Чарнаморскага флоту рэвалюцыя наспявала даўно. Яшчэ ў красавіку 1904 года ў Севастопалі сфарміраваўся кіруючы цэнтр ваеннай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі — Цэнтральны ваенна-марскі камітэт пры Севастопальскім камітэце Крымскага саюза РСДРП, які атрымаў назву «матроскай цэнтралкі». Праз «цэнтралку» бальшавікі Севастопаля мелі вялікі рэвалюцыйны ўплыў на матросаў Чарнаморскага флоту і войскі гарнізона.

Сярод кіраўнікоў «матроскай цэнтралкі» былі перакананыя і адданыя рэвалюцыі матросы-бальшавікі Аляксандр Пятроў, Рыгор Вакулянчук, Іван Сіраценка, Іван Чорны, Мікіта Антоненка, Сямён Дайнега, Дарафей Кашуба, Іван Адаменка і іншыя. Пад уплывам рашэнняў III з'езда РСДРП «цэнтралка» распрацавала план усеагульнага паўстання матросаў Чарнаморскага флоту з наступным распаўсюджваннем яго на ўзбярэжжа Чорнага мора — Каўказ, Адэсу, Нікалаеў — і ўдзелам у ім рабочых і сялян поўдня Расіі. З гэтай мэтай на караблях былі створаны асобныя групы з партыйных работнікаў, загартаваных бальшавікоў, якія павінны былі ўзяць на сябе кіраўніцтва паўстаннем, намечаным на восень, у момант найвышэйшага рэвалюцыйнага ўздыму ў краіне. Цікава, што паўстанне павінна было супасці з заключнай стадыяй флоцкіх вучэнняў, калі караблі пойдуць у Тэндраўскі заліў для артылерыйскіх стрэльбаў, маючы на борце поўны камплект боепрыпасаў. Згодна плану, пачаць паўстанне павінны былі каманды эскадраных браняносцаў «Кацярына II» і «Расціслаў», дзе былі найбольш падрыхтаваныя каманды. Але здарылася непрадбачанае: у Тэндраўскі заліў для вопытных стрэльбаў пайшоў адзін толькі браняносец «Пацёмкін». Плану «цэнтралкі» пагражаў правал.

І ўсё ж паўстанне пачалося. 14 чэрвеня 1905 года стыхійна паўстала каманда «Пацёмкіна».

Браняносец «Пацёмкін»...

Гэтыя два словы імгненна абляцелі Расію, затым увесь свет, і назаўсёды засталіся ў памяці народнай як сімвал мужнасці і гераізму прыгнечанага народа, які ўзняўся на ўзброеную барацьбу за сваю свабоду. Чырвоны сцяг залунаў не над калонай дэманстрантаў і нават не над барыкадай, а над царскім браняносцам, апорай самадзяржаўя, натхняючы на барацьбу не толькі расійскіх пралетарыяў, але і працоўных многіх краін свету.

За «Пацёмкіным» пайшлі каманды эскадранага браняносца «Георгій Пабеданосец» і вучэбнага судна «Прут».

Паўстанне на «Пруце» ўспыхнула раніцай 19 чэрвеня на пяты дзень пасля паўстання на «Пацёмкіне». Судна поўным ходам ішло ад Тэндраўскага маяка на злучэнне з эскадрай. У 9.30 па камандзе «Да зброі!» матросы разабралі вінтоўкі, адкрылі патронны склеп і, узброіўшыся, авалодалі суднам.

Паўстанцы павярнулі судна курсам на Адэсу, да «Пацёмкіна». Выступаючы на мітынгу, матрос Аляксандр Пятроў гаварыў:

— Таварышы! Я член Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Наша партыя бальшавікоў на чале з Леніным заклікае да паўстання, да рашучай барацьбы з царызмам і яго прыхвяснямі. І вось мы падняліся, мы ідзём на дапамогу «Пацёмкіну»... У нас ёсць зброя, але мацней за любую зброю — наша згуртаванасць, стойкасць, вера ў перамогу!

Увечары «Прут» прыбыў у Адэсу, але «Пацёмкіна» там ужо не было — ён пайшоў у Румынію. Запас паліва не дазваляў шукаць яго ў моры, таму вырашылі ісці пад чырвоным флагам у Севастопаль і там падняць на паўстанне караблі эскадры. Але «Прут» быў слабаўзброеным вучэбным суднам. На падыходзе да рэйда яго сустрэлі мінаносцы і прыканваіравалі да флагманскага карабля вучэбнага атрада браняносца «Чэсма».

Паўстанне на «Пруце» пацярпела паражэнне, упісаўшы гераічную старонку ў рэвалюцыйную барацьбу маракоў Чарнаморскага флоту.

Як вынікае з абвінавачага акта, паўстанне на «Пруце» рыхтавалі і кіравалі ім матросы А. Пятроў, І. Адаменка, Д. Цітоў, Г. Чувільскі і І. Чорны. Што яны на судне прадстаўлялі тую партыю, якая асуджае існуючы дзяржаўны лад і «заклікалі ўсіх дзейнічаць заадно з рэвалюцыянерамі сацыял-дэмакратамі, якія дамагаюцца звяржэння ўрада і ўстанаўлення ў Расіі дэмакратычнай рэспублікі», відаць з таго ж абвінавачага акта. І ў гэтым жа дакуменце чытаем: «Матрос 2-й стацці вучэбнага атрада Франц Паўлавіч Цяслюк, 23 гадоў, паходзіць з сялян Гродзенскай губерні, на службе з 1905 года, прымаў найбольш актыўны ўдзел у паўстанні».

З самага пачатку ўзброенага паўстання на «Пруце» Франц заклікаў матросаў браць вінтоўкі, натхняў таварышаў асабістым прыкладам: быў сярод тых, хто захопліваў камандны мосцік, нёс вахту каля памяшкання, дзе знаходзіліся арыштаваныя афіцэры. Так у баявых дзеяннях сталеў і загартоўваўся характар маладога беларуса, якому ўдзел у першай рускай рэвалюцыі дапамог стаць бальшавіком — свядомым барацьбітом за шчаслівую будучыню народа.

Мужна і стойка трымаліся 43 прутаўцы на судзе. Ленінская газета «Пралетарый» пісала: «Усе на судзе трымаліся непахісна, ніякіх тайнаў ні суд, ні следства не змаглі выведаць».

30 ліпеня 1905 года ў 12 гадзін апоўначы суддзі аб'явілі прыгавор: матросаў А. Пятрова, Д. Цітова, І. Чорнага, І. Адаменку — да расстрэлу, астатніх — да катаржных работ і турэмнага зняволення на розныя тэрміны. Франца Цеслюка суд прыгаварыў да пазбаўлення ўсіх правоў грамадзянскага стану і маёмасці і ссылкі на катаржныя работы на 15 гадоў.

Рэвалюцыйная хваля, узнятая «Пацёмкіным», ускалыхнула ўсю чарнаморскую эскадру. 17 чэрвеня 1905 года, у час манеўравання практычнай эскадры Чарнаморскага флоту паблізу Адэскага рэйда, дзе знаходзіўся паўстанец «Пацёмкін», каманда эскадранага браняносца «Георгій Пабеданосец» выйшла з паслушэнства, захапіла браняносец і, аддзяліўшыся ад эскадры, адкрыта перайшла на бок «Пацёмкіна».

Актыўны ўдзел у паўстанні каманды «Георгія Пабеданосца» прымалі матросы — выхадцы з Беларусі Міхаіл Каменеў, Міхаіл Лоха і Іван Хадароўскі. Як вынікае з абвінавачага акта, «Стралок-інструктар Міхаіл Захаравіч Каменеў паходзіць з сялян Гродзенскай губерні, 23 гадоў, на службе з 1903 года, прымаў удзел у адкрытым паўстанні супраць свайго карабельнага начальства, дзейнічаў у накірунку рэвалюцыйных партый, якія імкнуцца да звяржэння існуючага ў Расіі дзяржаўнага ладу... Агітаваў маладых матросаў удзельнічаць ва ўзброеным паўстанні браняносца, і яны слухалі яго як свайго непасрэднага начальніка, і ён кіраваў імі ў час паўстання».

26 жніўня 1905 года ваенна-марскі суд Севастопальскага порта прыгаварыў кіраўнікоў паўстання на «Георгіі Пабеданосцы» матросаў Сямёна Дайнегу і Дарафея Кашубу да расстрэлу, матрос Міхаіл Каменеў тым жа судом быў прыгавораны да пазбаўлення ўсіх правоў грамадзянскага стану і маёмасці і ссылкі на катаргу на 14 гадоў.

Паўстанне на «Пацёмкіне» атрымала такі вялікі рэзананс, што перапалоханыя царскія адміралы з «найвысачэйшай» згоды паспешна пачалі забіраць з караблёў эскадры рэвалюцыйна настроеных матросаў для адпраўкі ў дзеючую армію.

Пад узмоцненай вартай усіх «сакрэтных» сабралі ў казармах вучэбнага атрада, а ўначы пасадзілі на караблі і тайна адправілі ў Адэсу.

Па дарозе матросаў пераапранулі ў армейскае абмундзіраванне і начамі 27 і 28 жніўня пагрузілі ў цягнікі, а потым двума эшалонамі адправілі ў аддаленыя гарнізоны імперыі, бо руска-японская вайна на той час ужо скончылася.

Самых актыўных чарнаморцаў, якія складалі ядро легендарнай «матроскай цэнтралкі», грузілі ў вагоны не толькі ўначы, але і пад прыцэламі карабельных гармат.

Сярод гэтых 1055 матросаў, пераапранутых у армейскія шынялі, быў яшчэ адзін наш зямляк з вёскі Вроцэні Ясвінскай воласці Гродзенскай губерні — матрос 2-й стацці эскадранага браняносца «Георгій Пабеданосец» Уладзіслаў Міхайлавіч Краеўскі. Трапіўшы ў лістападзе 1904 года на браняносец, вясковы хлапец, вядома ж, не вельмі разбіраўся ў палітычных пытаннях, не разумеў напачатку, як трэба змагацца супраць несправядлівасці і дэспатызму царскіх афіцэраў. Але з цягам часу пад уплывам карабельных агітатараў далучыўся да падпольнай сацыял-дэмакратычнай арганізацыі, створанай на браняносцы, а пазней прымаў актыўны ўдзел у паўстанні на «Георгіі Пабеданосцы».

11 ліпеня 1905 года, згодна «сакрэтнаму прадпісанню», Краеўскага схапілі і на караблях асобага атрада адправілі ў Адэсу, адкуль ён трапіў у самы ізаляваны гарнізон крэпасці Кушка. Аднак моцныя крапасныя сцены не змаглі ўстаяць супраць рэвалюцыйнай хвалі. У лістападзе 1905 года гарнізон Кушкі, куды былі сасланы многія рэвалюцыйна настроеныя матросы, паўстаў і запатрабаваў замены ваенных рэакцыйных улад выбарнымі.

Па-рознаму склаўся далейшы лёс удзельнікаў рэвалюцыйных падзей 1905 года.

Перад намі «Спіс катаржан Акатуйскай турмы для дзяржаўных злачынцаў, вызваленых 20 снежня 1905 года». У ім пятнаццаць былых матросаў вучэбнага судна «Прут», актыўных удзельнікаў першай рускай рэвалюцыі. Сярод іх і Франц Цяслюк, які паступіў у Акатуйскую турму 1 лістапада 1905 года.

Як жа здарылася, што царскія ўлады вызвалілі пасля месяца турэмнага зняволення небяспечных злачынцаў, якія рабілі замах на самадзяржаўе?

У снежні 1905 года, калі ўлада ў Чыце апынулася ў руках Саветаў, Чыцінскі камітэт РСДРП разам з Саветам салдацкіх і казацкіх дэпутатаў прыняў рашэнне: вызваліць з турмаў Нерчынскай катаргі палітычных зняволеных. Вызваляць іх з Акатуя паехалі кіраўнік Чыцінскага камітэта РСДРП В. К. Курнатоўскі і члены гэтага камітэта, прадстаўнікі казацкіх войск Забайкальскай вобласці Чысцякоў, Лапацін, Бялякоў і Палубаяраў. Калі начальніку Акатуйскай турмы было прад'яўлена пісьмовае патрабаванне Чыцінскага камітэта РСДРП аб вызваленні палітычных зняволеных, ён неадкладна яго выканаў.

Былых вязняў пасадзілі на фурманкі і прывезлі на станцыю Борзя, а адтуль — у Чыту, дзе іх сустракалі з пашанай. Частка прутаўцаў вярнулася на радзіму, працягваць рэвалюцыю, некаторыя ж засталіся ў Чыце, дзе працавалі ў падполлі, бо царскі урад неўзабаве падавіў рэвалюцыйнае паўстанне ў горадзе. Тайна вярнуўся ў Гродзенскую вобласць і Франц Паўлавіч Цяслюк, дзе прымаў актыўны ўдзел у рабоце бальшавіцкага падполля.

У паліцэйскай перапісцы часта сустракаецца імя актыўнага падпольшчыка, матроса з Гродзеншчыны Івана Хадароўскага, які таксама прымаў удзел у рэвалюцыйных падзеях 1905 года на Чарнаморскім флоце і пасля адбыцця тэрміну пакарання працаваў у Пецярбургу.

Па дакументах, якія захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве ваенна-марскога флоту, можна прасачыць лёс многіх рэвалюцыйных матросаў-чарнаморцаў, і сярод іх мужных прадстаўнікоў беларускага народа. Радзіма памятае і шануе імёны тых, хто пракладваў шлях Вялікаму Кастрычніку.

**Аляксандр БЛІЗНЮК,**
**ветэран Чырванасцяжнага Чарнаморскага флоту,**
**удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.**

Алесь САВІЦКІ

# ЗЯЛЁНА-ЗЯЛЁНАЯ РУНЬ



д гулкай, працятай раннім кастрычніцкім прымаразкам шашы з Панявежыса на Шаўляй я марудна падыбаў усцяж шырокай палосы густой руні на пакаты ўзгорак, парослы маладым бярэзнікам і гонкім, быццам з тонкіх верацёнцаў састаўленага, алешнікам. Наблізіўся да першай бярозкі і спыніўся, стаяў, азіраючыся наўкола. Па шашы праносіліся машыны, чырванелі непадалёк за парасніком блішчастыя ад расталай намаразі дахі недалёкага селішча. Гуд матораў, набліжаючыся, быццам даваў нырца пад чорныя камлі дрэў, і, выдраўшыся адтуль, раставаў у замглёнай далечы, дзе, калі крыху праяснялася час ад часу, цьмяна акрэсліваліся жылыя гмахі і коміны Шаўляя — да яго адсюль крыху болей за пяць кіламетраў. Яны, гэтыя гмахі і коміны, нібыта выраслі на далягладзе з зялёна-кім цяпер днём — ноч нашай атакі. Танкі спыніліся, чакалі дазапраўкі гаручым і папаўнення боекамплекта, і дэсантнікам быў аддадзены загад, каб ўкліліліся ў варожую абарону як мага глыбей, замацаваліся і чакалі — на світанні пойдзе ў наступ браня.

Нам, былым партызанам брыгады імя Варашылава, якая, пасля злучэння з рэгулярнай арміяй, папоўніла склад дзевятай брыгады корпуса, які меў немалыя страты ў баях на правым беразе Дзвіны пад Полацкам, загад гэты быў па душы. Ноч заўсёды была партызану як маці родная: яна і схавае, і след змые, і ад прыцэльнай кулі ўратуе, і арыентавацца ў начной цемры пад варожым агнём не ў навіну.

Але цемра стаяла даволі кароткі час тады. Па правы бок за дарогай, ледзь узняліся на схіл пагорка, чырвонымі жарынкамі засвіціліся спаленыя танкі, недзе далёка наперадзе крэслілі далягляд барвовыя

Вочы толькі зафіксавалі гэта, і ўжо значна пазней я даведаўся, што адзін мой добры партызанскі сябар, украінец Іван Пеліпенка, быў паранены ў нагу асколкам міны, а другі сябар па атраду, Уладзімір Сальнікаў з Масквы, быў забіты імгненна — куля прабіла яму грудзі. А тады, ахоплены жахлівым і дзікім шалам наступальнага бою, я імчаў разам з усімі наперад, нешта крычаў і страчыў па салдатах у мышастых мундзірах з аўтамата, і адчуваў дрогкае трымценне аўтаматнага прыклада, і трэск аўтаматных чэргаў глух у грымоцці выбухаў мін і снарадаў, у грукаце танкавых матораў і скрыгатанні сталёвых гусеніц...

Памяць аднавіла ўсё гэта, і я, слухаючы гул машын, што праносіліся непадалёк па шашы — адны на Панявежыс, другія на Шаўляй,— з хваляваннем азіраў зялёнае жытняе поле, углядаўся ў зялёна-зялёную рунь, нібыта павінен быў убачыць няроў-

зялёнага, як бы навюсенькага, не чапанага нікім і нічым аксаміту густой і рослай руні.

Шмат разоў збіраўся прыехаць я сюды, да гэтых разлогаў, дзе ўлетку сорак чацвёртага года ў складзе Другога Беларускага фронту вяла наступальныя баі і наша дзевятая гвардзейская брыгада Сталінградскага танкавага корпуса.

Шмат разоў прыходзіў да мяне ў снах і мроях той далёкі цяпер дзень, калі быў я тут паранены. Шмат разоў у мроях і згадках блукаў я па тым полі, і яно заўжды паўставала перад вачамі ў аднолькавых фарбах і паслядоўнасці: у густой і рудаватай ад дыму імгле вісіць прыгаслае, быццам з латуні, сонца, чорныя грывастыя султаны дыму вецер круціць над нізкім парасніком, і зямля наўкола стракатая ад снарадных варонак, і сярод іх гняды, не дужа ўкормлены конь, мокры ад поту і ашалелы ад грукату выбухаў, у дзікім галопе імчыць гарматны перадок, на якім, ухленчыўшы, прыціснуўшы мае плечы да гарачай ад сонца жалезнай бакавіны снараднай скрыні, прыкіпеў да блішчастых гузаватых лейцаў ездавы, без пілоткі, у разадранай гімнасцёрцы. Галава мая матлялася нізка ля зямлі, з-пад капытоў ляцеў на твар колкі гарачы жвір, і я закрываў вочы, і калі адплюшчваў іх, бачыў жоўта-белыя камякі агню, што раптоўна ўзнікалі і гэтак жа раптоўна знікалі ў рудаватай імгле — нашы гаўбіцы прамой наводкай садзілі па фашысцкіх танках, што паўзлі ўсцяж дарогі...

Мінула болей як сорак гадоў, і нічога, выяўляецца, не выветрылася з памяці. І мне зноў у гэты халаднаваты восеньскі дзень згадалася ноч, што была перад тым далё-маланкі выбухаў, і пад нагамі жыў невыводны гул то вельмі блізкай, то зглухлай кананады, ланцугі якой, здавалася, чапляюцца за боты.

Ракеты ўзляцелі нечакана, і гэтак жа нечакана панесліся нам насустрач бляклыя ленты трасёраў. Але яны тут жа зніклі, як адсечаныя моцным аўтаматным агнём нашага левага фланга. Грымнулі гранатныя выбухі, высвеціўшы звілістыя лініі акопаў, вузкія і чорныя байніцы бліндажоў і маленькія, зусім неглыбокія, варонкі ад мін.

Першую лінію акопаў адолелі параўнаўча хутка і амаль без страт. Спыніліся на другой, не адолелі яе да канца, не замацаваліся і адкаціліся назад, да першай лініі фашысцкіх акопаў, і на працягу кароткай летняй ночы адбілі дзве варожыя атакі.

Бой узгарэўся з новай сілай ранкам. Пайшлі ў наступ нашы танкі, і следам за імі рушылі дэсантнікі.

Удзень не бачыш лёту трасірак, і куля ўдзень дзумкае ля галавы зусім не так, як уночы — працягла чамусьці і напеўна. Але валіць яна салдата, калі трапляе, з аднолькавай бязлітаснай сілаю, і цяжка ўбараніцца ад яе ў чыстым полі. Сагнуўся і асеў на зямлю Іван Пеліпенка, курчыўся, абцiскаючы рукамі правую нагу. А Уладзімір Сальнікаў грымнуўся на спіну. Але грымнуўся не адразу, а спачатку неяк дзіўна пацягнуўся ўверх, быццам сіліўся нешта ўхапіць рукамі ў паветры над сабою, і аўтамат, быццам быў прывязаны да рукі рэменем, слізгануў да пляча і, калі Сальнікаў бразнуўся плячамі на дол, таргануўся і зваліўся яму на грудзі.

ную лінію акопаў, што была тут у сорак чацвёртым годзе; углядаўся і адзначаў у думках, што знаёмае гэтае поле зусім не такое, якім яно прыходзіла ў снах і мроях, зусім жа не такое, якім было тады, болей як сорак гадоў назад; углядаўся і разумеў, што гэта зусім натуральна, ведаў, што поле бою не магло застацца ранейшым, а вочы ўпарта шукалі гарбатыя брустверы акопаў, адкуль ляцеў знішчальны свінец, шукалі мясціну, дзе зваліўся на зямлю паранены Іван Пеліпенка, дзе грымнуўся на дол забіты Уладзімір Сальнікаў, шукалі і гатовыя былі спыніцца на нейкай пэўнай і дакладнай кропцы...

Вецер паварушыў тонкае голле бяроз, на якіх дзе-нідзе яшчэ рудзела жаўтлявая лістота, і пошум пасохлых лісцінак быў журботны і тужлівы; вецер хваляю прабег па полі, і па левы бок ад чатырох маладых бярозак, што вострым клінам выбіліся з алешніку, рунь прыгнулася, у ёй акрэслілася няроўная палоса заінелай зямлі, і адразу дзіўны халадок асеў у плячах.

«Там, дзе гэтая заінелая зямля, і былі тады яны, фашысцкія акопы...»

І ногі неяк самі па сабе зрушыліся з месца, і я зрабіў адзін крок наперад, потым другі, і потым зноў спыніўся, узіраючыся ў зялёны аксаміт жытняга поля. Новы подых ветру залізаў тую заінелую палоску зямлі, і зялёны аксамітны полаг памалу пагойдваўся, ствараючы ўражанне, што маладая рунь не трымаецца на месцы, а памалу спаўзае з пакатага ўзгорка і памалу сунецца ўсцяж гулкай шашы, туды, дзе ў попельнай смузе акрэсліваліся гмахі Шаўляя.

Памалу зноў дыбаў усцяж зялёнага жытняга поля. Мігнулася і зноў знікла няроўная заінелая палоска зямлі на руні, і замест яе паплылі па густой шчотцы руні плямы, густа-зялёныя, драныя па краях, увесь час зменлівыя, як вада ў віры, і я, прыглядзеўшыся, зноў спыніўся ад таго, што гулка забухала ў грудзях сэрца.

«Іван Пеліпенка грымнуўся на зямлю вось тут, дзе гэтая гарбатая пляма... А Уладзіміра Сальнікава падсекла бліжэй да шашы, дзе трымціць і вагаецца асабліва густое і цёмнае зяленіва азіміны... А мяне параніла крышку далей, дзе рунь ільсніцца і дрыжыць пакрысе...»

Драбніца за драбнічкаю, памяць аднаўляла падзеі таго бою, і поле бачылася ўжо не зялёным, а чорным, пераараным выбухамі снарадаў і мін, і трава тады на ім выдавала попельнай і нежывой, парэзанай глыбокімі каляінамі ад танкавых гусеніц.

Баі пад Шаўляем на згоне лета сорак чацвёртага года былі дужа крывавыя і доўгія. Але Шаўляй быў вызвалены, і фронт пакаціўся далей, а я застаўся ў франтавых шпіталі, іх было шмат тады ў гэтых мясцінах па лясах і зацішных кутках.

З франтавога шпіталя, пасля аперацыі, мяне перавезлі ў прыфрантавы, у Паневежысе. І калі месца, дзе загінулі ў час атакі мае блізкія партызанскія сябры,— а загінула на тым полі ля шашы нашых салдат тады багата,— я вызначыў на зарунелым полі, мабыць, крыху прыблізна, дык месца, дзе стаяў прыфрантавы шпіталь, вызначыў дакладна і адразу ж, хоць і змянілася яно непазнавальна, змянілася гэтак жа, як і змянілася тое поле. Замест зялёна-зялёнай руні былі тады на полі варонкі і каляіны ад танкавых гусеніц, акопы і бліндажы, а тут, на высокім беразе ракі, дзе зараз прыгожы будынак паліклінікі, быў пустыр і абшарпаныя, абабітыя выбухамі і кулямі дрэвы.

Пад імі, тымі дрэвамі, і месціліся тры доўгія, як стадолы, армейскія брызентавыя палаткі. Параненыя ляжалі ў іх цесна даволі, і, каб не было душна, сцені палатак, скручаныя ў рулоны, падвязалі да металічных, увагнаных у зямлю расцяжак, і таму глядзець можна было на ўсе чатыры бакі свету.

Помніцца, што я — ляжаў жа ля самецькага краю палаткі, пры дарозе, што вілася па-над берагам ракі — глядзеў часцей на пабітыя будынкі гарадка, на пустыя вуліцы, задымленыя коміны на папялішчах. Іх, праўда, было не вельмі багата, бо гарадок быў вызвалены імкліва, фашысты ўцякалі паспешліва і не супраціўляліся гэтак зацята, як пад Шаўляем. Але разбурэнняў хапала, і агульная панарама за рэчкай была не вельмі радасная на першы погляд. Аднак жа там ішла зусім іншая плынь жыцця, жыцця мірнага і вольнага, і яна вабіла вока і прыцягвала думкі незвычайна.

Цяпер я таксама, стоячы на беразе ракі, глядзеў на горад, пазнаваў яго і не пазнаваў. Новы! Зусім жа новы і надзіва прыгожы горад! Абводны канал, адведзены ад ракі, і зялёная дамба, над якой схіляюцца кудлатыя вербы, а з-пад іх, гэтых вербаў, цягнуцца белыя прыступкі, што вядуць да прыгожага будынка тэатра, слава аб якім далёка сягнула за межы горада і ўвогуле нашай братняй Літвы. А далей — чыстыя плошчы, роўныя прыгожыя вуліцы, лёгкая арка моста і высокія жылыя гмахі, з лоджыямі, шырокімі вокнамі...

Я крочыў потым і па гэтых вуліцах, і па гэтых плошчах, і ўглядаўся ў твары людзей, з дзіцячым наівам разлічваючы, што стрэну знаёмых, стрэну тых, хто прыходзіў тады да брызентавых палатак прыфрантавога шпіталя, прыносіў параненым яблыкі, маленечкія згортачкі з чырвонымі парэчкамі, і парэчкамі белымі, празрыстымі, быццам сляза, хто прыносіў кветкі, дапамагаў урачам, якія з ног валіліся ад стомы. Мажліва, я страчаў гэтых людзей, страчаў, але не пазнаваў, не пазнаваў гэтак жа, як і яны не пазнавалі мяне. Але сэрца маё, душа ўся цалкам і дарэшты, дазвання і кожнай часцінаю сваёю знаходзіла на тварах стрэчных людзей знаёмыя, як мне падавалася, абрысы, і з таго ўся істота мая поўнілася цеплынёю і павагаю да кожнага стрэчнага.

Непадалёк ад таго месца, дзе былі ў сорак чацвёртым годзе палаткі прыфрантавога шпіталя, гарыць Вечны Агонь ля строгага абеліска, і ад яго ў два канцы разыходзяцца вузкія мармуровыя пліты з надпісамі — прозвішчы тых, хто загінуў на зямлі братняй Літвы ў тыя спякотныя і незабыўныя дні сорак чацвёртага. Я шукаў на гэтых плітах прозвішчы знаёмыя, і знаходзіў іх. Але большасць з іх былі незнаёмыя мне — прозвішчы рускіх і казахаў, украінцаў і беларусаў, таджыкаў і літоўцаў, латышоў і эстонцаў... Бачыў я, як падкатвалі да невысокай агароджы экскурсійныя аўтобусы, як выходзілі з іх людзі розных узростаў, слухалі, узняўшыся па прыступках да абеліска, экскурсавода, а потым моўчкі клалі кветкі на бліскучы мармур, і гэтак жа моўчкі кранулі ўсцяж мемарыяльнага строю таблічак з прозвішчамі, глядзелі і на іх, і на дрэвы высокіх тапаляў і клёнаў, што падступаюць да самай агароджы, быццам у жалобе звесіўшы доўгае голле, слухалі тужлівае галёканне гракоў, і ў вачах людскіх адбівалася чарната кляновых галін, яшчэ не прасохлых пасля ранішняга дажджу, адбівалася жорсткасць часу, што скамянеў тут, у мармуровых плітах і водбліску агню, адбіваліся сполахі полымя, што зжэрла чалавечыя жыткі, пакінуўшы жывым толькі памяць і суровы напамінак, мужную веру ў жыццё і любоў да яго.

Даўжэй, чымся там, на полі, дзе стыла пад восеньскім небам зялёна-зялёная рунь, даўжэй, чымся там, на беразе ракі, дзе некалі стаялі палаткі салдацкага шпіталя, глядзелі мае вочы наўкола і міжвольна вярталіся да зямлі, да вузенькіх мемарыяльных плітак з прозвішчамі людзей, якія жылі на зямлі і зрабілі ўсё, каб жылі мы ўсе, каб на месцы былых акопаў зазелянела густая аксамітная рунь, што падорыць людзям хлеб, каб на месцы закопчаных і знявечаных комінаў паўсталі прыгажуны-гмахі, у якіх звініць дзіцячы смех і добрыя матчыны песні, дзе жыве любоў і радасць. І кожнае з іх, гэтых прозвішчаў, не проста напамінак пра чалавечы боль, назаўжды скамянелы, не проста даніна павагі да мужнасці герояў, якія сваімі грудзямі разарвалі ланцуг гора і бяды людской... Кожнае з гэтых прозвішчаў — яшчэ і адзін погалас праклёну фашызму і чорнай сіле знішчэння, погалас гэткі ж па сіле, што ідзе ад кожнага абеліска і помніка, якіх гэтак багата і тут, на літоўскай зямлі, погалас праклёну фашызму і жахліваму агню, што нішчыў людскія мары, спадзяванні і прагу жыць і ствараць на зямлі толькі добрае; ён, гэты погалас, яшчэ — і несуменна ж гэта ў першую чаргу! — і сцверджанне таго, што, насуперак агню і знішчэнню, святкуе заўжды перамогу светлае на зямлі, святкуе перамогу жыццё, святкуе няўмольна гэтак жа, як няўмольна прабіваецца з россыпу маленькіх зернетак зялёна-зялёная, густая і ласкавая, бы аксаміт, добрая рунь дабрыні і надзеі людской, яго, чалавека, глыбокай веры ў тое, што на зямлі для чалавека няма нічога найлепшага, як будаваць дамы, сеяць хлеб, гадаваць дзяцей і штодня сустракаць усход сонца ў блакітнай прасторы неба.

Гэты верш быў напісаны да 500-годдзя Астраўца, якое адзначалася ў 1974 годзе. Уладзімір Караткевіч, наш найпершы знаўца мінулага, не раз ездзіў на Астравеччыну. Гасцяваў там у сяброў, захапляўся прыгажосцю краявідаў, помнікамі архітэктуры — комплексам XVIII стагоддзя ў Варнянах, барочным аздабленнем касцёла ў Міхалішках. Варнянскую «вежу на востраве» ён уласнаручна, не давяраючы апаратару, здымаў для дакументальнага фільма «Памяць», прысвечанага тым жа помнікам. Караткевіча захапілі мясцовыя паданні пра прыезд сюды Кастуся Каліноўскага, «светлага чалавека», і аўтар «Каласоў», заснаваўшыся на іх, пачаў пісаць апавяданне «Крыж Аняліна», якое, на жаль, засталося няскончаным. Верш «Дом сябра» часткова быў надрукаваны ў юбілейным нумары газеты «Астравецкая праўда», а потым цалкам запісаны аўтарам у мой альбом «усялякай усялячыны». Публікацыя робіцца з гэтага дарагога для мяне запісу.

**Адам МАЛЬДЗІС.**



**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## *Дом сябра*

Маленькі астравок маёй зямлі —
Зялёны Астравец над срэбнай Лошай,
Такі прытульны і такі харошы,
Як сонца, бор і родныя палі.

Дом друга. Не, дом тысячы сяброў.
Не ведаю, што можа звацца раем?
Хіба мароз і піва ў Гудагаі,
І галасы далёкіх цягнікоў?

Маё другое сэрца. Год пяцьсот
Адлічваеш ты мне гады на свеце,
І кожны дзень аблокі, верас, вецер,
І сонца неўміручага ўзыход.

І твой святы і светлы чалавек,
Твой дым, і крыж магутны Аняліна,
Твой лубін залаты, твой лес
на ўзгорках сініх,
І стронгі ў крышталі
маленькіх рэк.

Сто тысяч год няхай
вакол шумяць палі,
Сто тысяч год няхай
вакол гудуць дубровы,
Пакуль гучыць вакол
святая наша мова,
Пакуль ёсць беларусы на Зямлі.

АНКЕТА

ШТО ПАКІНЕМ У СПАДЧЫНУ?



# КАБ ЛЮДЗЬМІ МІЖ ЛЮДЗЕЙ ПАЧУВАЦЦА

Што мы пакінем у спадчыну нашчадкам — наступным пакаленням?..

Як добра, што гэта пытанне стукаецца ў нашы сэрцы ўсё мацней, што размова пра гэта набывае востраактуальнае гучанне! А калі ж бы ды гадоў трыццаць назад яно было пастаўлена што называецца рубам і — усенародна, у агульнадзяржаўным маштабе? Які неацэнны быў бы выйгрыш для грамадства — сённяшняга і заўтрашняга! Наколькі больш матэрыяльных і духоўных багаццяў мы змаглі б захаваць, зберагчы, перадаць у спадчыну, і наколькі б менш мы тымчасове гэтых багаццяў загубілі, зліквідавалі, знішчылі, наколькі б менш мы і нашы нашчадкі страцілі!

Пра спадчыну, якая дасталася і якую трэба перадаць наследнікам, чалавек думаў спакон веку. Апрацоўваў зямлю, даглядаў жывёлу, будаваўся, гадаваў і выхоўваў дзяцей, наладжваў узаемаадносіны з суседзямі і з усім навакольным светам, святкаваў святы, весяліўся або смуткаваў — і пастаянна думаў, турбаваўся: а што ад яго пяройдзе, перадасца ў спадчыну? Чалавек хацеў, каб яго дзеці былі шчаслівыя, шчаслівейшыя, чым ён сам, і ён стараўся пакінуць ім як мага больш: і таго, што стварылі рукі, і таго, што напрацавала душа. Само сабой зразумела — і ўсё тое, што дала яму для карыстання і для душы прырода, зямля, на якой ён нарадзіўся і жыў.

Цягам стагоддзяў чалавек думаў і дбаў пра гэта галоўным чынам сам, хаця і раіўся, вядома, і дзяліўся сваімі клопатамі з людзьмі. Але жыццё развівалася так, што гэты клопат усё ў большай меры рабіўся клопатам грамадскім. Рост сацыяльнай і нацыянальнай самасвядомасці пашыраў пагляд на праблему спадчыны як на дзяржаўна-народную. Сапраўды такою, сапраўды грамадскаю гэта праблема стала ў нас пасля перамогі Кастрычніка, з пераходам на новыя эканамічна-сацыяльныя і палітычныя асновы жыцця, з усталяваннем сацыялістычных прынцыпаў ва ўсіх сферах чалавечай жыццядзейнасці. Спадчына — вялікая, галоўная спадчына,— не перастаўшы быць «маёй, уласнай, асабістай», стала «нашай, агульнай, усіхнай». І наша адказнасць за яе, не перастаўшы быць асабістай адказнасцю кожнага, стала нашай адказнасцю агульнай, грамадскай. Вось чаму грамадскасць гэтак нераўнадушна ставіцца да лёсу матэрыяльнай і духоўнай спадчыны сваёй зямлі, сваёй Бацькаўшчыны, чаму яна гэтак зацікаўлена ў па-гаспадарску мудрым вырашэнні ўсіх датычных яе задач.

Каб адказаць на пытанне, што мы пакінем-перададзім наступнікам нашым, трэба, па-першае, добра ведаць, якая спадчына дасталася нам з мінулага, з вякоў, ад продкаў, а па-другое, трэба бачыць і цвяроза цаніць тое, чым мы гэту спадчыну ўзбагацілі самі (калі ўзбагацілі), што дададзі-дапрынеслі са свайго ўласнага працоўнага, сацыяльнага, маральнага і эстэтычнага вопыту. На мой погляд, наша бяда якраз і пачынаецца з таго, што мы ўсё яшчэ слаба ведаем сваё мінулае, цьмяна і часам нават вельмі цьмяна ўяўляем, што за багацці маем у сваім распараджэнні, да чаго мы павінны прыкласці душу і рукі, каб творча развіць далей, узмацніць, узбагаціць, упрыгожыць. Чаму слаба і цьмяна — гэтаму ёсць сваё вытлумачэнне. У свой час мы далі сябе здорава запалохаць мінулым — мінулым як сімвалам усяго цяжкога, змрочнага, нядобрага. Але ж у мінулым было не толькі зло. Мінулае — гэта наша гісторыя, а ў ёй было і шмат высокага, прыгожага, гераічнага; увогуле яе рухаючай, вядучай сілай была плынь прагрэсіўная, гуманная; гісторыя не спынілася, яна развівалася і развіваецца,— мы працягваем яе развіваць, мы — яе сённяшнія творцы. Як бы бедна, гаротна, цяжка ні жыў у мінулым народ — ён быў народ, ён быў вялікі веліччу творчага духу, высакароднасцю маральнай сілай і хараством таленту, дужасцю веры сваёй, крылатасцю мар і спадзяванняў. Як бы шмат у яго мінулым ні было забабонаў, прымхаў і ўсякага іншага дзікунства — непараўнана больш было мудрасці і святла, шчодрасці і дабрыні,— усяго таго, што склала змест несмяротнай, неўвядальнай і неперараўзыдзенай у сваім хараства народнай паэзіі — фальклору.

Запалохаўшы,— па наіўнасці, па недасведчанасці, каб не сказаць мацней,— саміх сябе, мы было пачалі цурацца і пазбягаць мінулага цалкам, без разбору, толькі таму, што яно мінулае; пачалі чужацца яго, ігнараваць і грэбаваць ім, адыходзіць ад разумення, што спадчынай — духоўным вопытам і культурным набыткам народа — трэба даражыць як самім жыццём. Расплата за такую бяздумнасць не магла быць лёгкай — мы гэта бачым і адчуваем ужо даўно. Як ні горка прызнавацца, але многія з нас урэшце зусім адарваліся ад духоўнай глебы стагоддзяў, ад народных традыцый і звычаяў, ад літаратурнай і мастацкай класікі, і поўнасцю перайшлі на спажыванне сучаснага культурнага ширспажыву, прывучылі сябе да эрзац-мастацтва, якое — падобна ўсякай бяздарнай пошасці — ідзе ў наступ на чалавека, страшна нахабна, ваяўніча, агрэсіўна. У роздумах і клопатах пра спадчыну, якую мы хочам пакінуць для душы патомкаў, трэба абавязкова помніць пра гэту злую небяспечную сілу, імя якой — антыкультура,— і няспынна, на кожным кроку, абвяшчаць ёй смяротны бой. Многія,— і гэта бачыць асабліва горка,— не падняліся да элементарнага разумення, што самым вялікім і неацэнна каштоўным скарбам у духоўнай спадчыне народа з'яўляецца яго мова, і ставяцца да гэтага скарбу абыякава, раўнадушна, а то і зусім нігілістычна. Гэта датычыць і тых, што прэтэндуюць, між іншым, на годнасць творцаў нацыянальнай культуры. Якое вартае жалю заблуджэнне! Удумацца толькі: таварышы хочуць тварыць нацыянальную культуру ў адрыве ад першаасновы гэтай культуры, ад яе першага і галоўнага элемента — мовы!

Вось і прыкінем цяпер: колькі ж работы чакае ўсіх і кожнага, хто сур'ёзна, не на словах, а справе хоча клапаціцца пра вялікую і прыгожую спадчыну для нашчадкаў. Работы — непачаты край! Але гэта нікога з нас не павінна палохаць. Калі пра спадчыну думаў і пісаў — на заранку сацыялістычнай эры — Янка Купала, хіба гэтай работы было менш і хіба яна ўяўлялася яму і яго сучаснікам лягчэйшай? Вялікая работа ў імя вялікай мэты абуджае вялікае натхненне. Яно і дапаможа! Мы будзем рабіць гэту работу дзеля таго, каб спадкаемцы нашы, наследнікі нашы, людзьмі між людзей пачуваліся,— гэтак жа, як пачуваемся сёння мы; каб радаваліся багаццям-скарбам роднай зямлі і думалі з удзячнасцю, што гэта іхнія продкі для іх зраблілі, зберагли, захавалі,— гэтак жа, як радуемся і думаем пра сваіх папярэднікаў мы; каб ганарыліся тым, што яны не абы-чые наследнікі і належаць не да абыякога прапашчага, безыменнага роду,— гэтак жа, як ганарымся за сваё імя і свой род мы.

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы,**
**заслужаны дзеяч навукі БССР.**



**Данута БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР**
**імя Янкі Купалы**



# Шукаю скарб

Вандравала па Гродзеншчыне. Сустракалася з настаўнікамі, якія збіраюць музеі сваіх землякоў-пісьменнікаў. Гэткія настаўнікі слывуць сярод мяшчан дзівакамі, таму што ў збіральніцкім энтузіязме забываюць пра блізкіх, набываючы экспанаты за ўласныя грошы, ездзяць у архівы ў час адпачынку... Настаўнікі — мае шчырыя дарадцы. Збіраюся паехаць у Астрына. У гэтым мястэчку некалі перажыла найшчаслівейшую вясну. Са сквера на мяне паглядала Цётка (помнік скульптара А. Заспіцкага выкананы з любоўю і натхненнем). Вандравала па Гродзеншчыне ў 1983 годзе. Хаджу і зараз.

Ніхто мне не падказваў, сама натрапіла на кватэру Эдуарда Сямёнавіча Корзуна ў Гальшанах. Краязнаўчы музей, які гасцінна адчыніў Эдуард Сямёнавіч, мог бы стаць і дзяржаўным. Будынак францысканскага касцёла, пабудаванага ў 1618 годзе ў стылі барока, якраз адпавядае збудове для музея, а спусцелы будынак былога манастыра падыдзе пад фонды музея. Гальшаны — унікальная вёска з сярэдневяковай плошчай, з летапіснай, з хронікі Быхаўца, ракой Карабель, з Гарой паўстанцаў 1863 года, з хрыбетнікам замка Сапегаў — хоць бы законсервавалі яго! — з пагоркамі, на адным з якіх у даўніну ўзвышаўся палац Гальшанскіх. Эдуард Сямёнавіч ратуе, што яму пад сілу...

У вёсцы Баруны натрапіла на кнігалюба — рабочага мясцовага саўгаса Станіслава Ясевіча, які шукае бібліятэку польскага паэта, сябра Адама Міцкевіча і Яна Чачота, ураджэнца вёскі Гейстуны, былога вучня славутай Барунскай школы А. Адынца (1804—1885 гады). С. Ясевіч упэўнены, што хоць частка бібліятэкі павінна захавацца ў навакольных вёсках. Аб кнігах трэба клапаціцца, як і аб дзецях...

Лёс беларускай кнігі зайздросны, таму што ў кожнай адзінкі было шмат чытачоў, але лёс беларускай кнігі і сумны, таму што яе выкарыстоўвалі на падпал, на папяросу, проста нішчылі ад несвядомасці. І нішчылі таксама воргі. Беларускія кнігі афармляліся сціпла, але з густам. Выдаваліся яны найчасцей на дрэннагатунковай паперы, таму і не маюць доўгага жыцця. Яны трухлеюць, развальваюцца ў руках. Яны, кнігі, смяротныя, нібы людзі.

І ўсё ж — якая сіла выпраўляла настаўніка Рыгора Аляксандравіча Жывалеўскага з вёскі Агароднікі, што недалёка ад Гродна, у Вільню на веласіпедзе па беларускую кнігу, па часопіс і каляндар? А пасля ён будзе хаваць свой скарб у зямлі, на гарышчы, у сене, у падстрэшшы ад фашыстаў і здраднікаў. Пад старасць Рыгор Аляксандравіч прынясе свае кнігі ў музей. Тут можна ўспомніць Новікава Дзям'яна Раманавіча, загадчыка бібліятэкі ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, які ў канцы вайны пазнаў свае кнігі ў Германіі і вярнуў іх у родны дом, дзе яны былі прыпісаны да вайны.

Музей беларускага вучонага-лінгвіста Яфіма Фёдаравіча Карскага ў Лашы створаны ў 1964 годзе. А стварыў яго Апанас Пятровіч Цыхун. Ён працаваў у школах Гродзенскага раёна і збіраў экспанаты сваёй аднавяскоўца. Падрыхтаваў альбом аб дзейнасці і жыццёвым шляху Я. Ф. Карскага. У музеі Карскага ёсць пажыццёвыя выданні, рукапісы, асабістыя рэчы вучонага, перададзеныя дачкой і ўнучкай, мікрафільмы дакладаў прыслала Пражская акадэмія навук. Але музей Я. Ф. Карскага ў Лашы рэдка адчыняецца, на ўсім ляжыць слой пылу. Школа ў Лашы фармальна беларуская, ніякай мовазнаўчай работы ў ёй не праводзіцца. Адтуль павінна пачынацца навуковая дзейнасць па даследаванню беларускіх дыялектаў, праграмы якой стварыў ажно ў 1897 годзе Яфім Фёдаравіч, адтуль павінна ісці хваля моўных шуканняў, там павінны знайсці, выхаваць аднадумцаў студэнты і выкладчыкі Гродзенскага універсітэта. А там цішыня...

Стваральнік этнаграфічнай тэорыі паходжання беларускай народнасці і вызначальнік яе моўных граніц забяспечыў нацыянальную свядомасць не толькі інтэлігенцыі, але — падсвядома — і таму ж рабочаму і селяніну. Ад прац Карскага мы набліжаемся да сябе — у глыбіню гісторыі народа, да яго сэрца — да мовы... І таму я заклікаю пісьменнікаў і вучоных-лінгвістаў праводзіць кожны год у Лашы фальклорнае свята.

Канстанцін Аляксеевіч Кадырка, які стварыў у Жупранах музей Францішка Багушэвіча, памёр у 1978 годзе, ды не загінула яго праца. Там якраз праводзяцца літаратурныя мерапрыемствы, прыязджаюць туды пісьменнікі і літаратуразнаўцы, госцем школьнага музея ў 1972 годзе была ўнучка паэта Станіслава.

Над Жупранскім музеем шэфствуе старэйшая беларуская пісьменніца Зоська Верас. Але ў Кушлянах я не сустракала школьнікаў ні разу, хоць Міхаіл Сямёнавіч Ляпеха кажа, што яны яму дапамагаюць паліваць дрэўцы.

У Слоніме ёсць багаты (як на раённы цэнтр) краязнаўчы музей. Школа № 1 размешчана ў будынку кляштара бенедзіктынак (мураваныя забудовы з 1801 года), у ім у 20—30 гадах XX стагоддзя знаходзілася польская настаўніцкая семінарыя, а ў ёй нейкі час вучыўся Валянцін Таўлай. Тут вельмі сціпла аформлены адзін пакой пад музей паэта-змагара. Раіса Іванаўна Бурсевіч сама стварыла інтэр'ер, мэблю, план, экспазіцыю музея, вучні і іх бацькі ёй дапамагалі, а цяпер да яе прыязджаюць пераймаць вопыт земляка Піліпа Пестрака.

На днях атрымала ліст ад гудзевіцкіх школьнікаў. Просяць, пытаюцца, патрабуюць... Здавалася б, вось каму ўжо можна адпачываць на лаўрах — Алесю Мікалаевічу Белакозу. Яго стараннем створаны ў вёсцы два музеі: літаратурна-краязнаўчы і этнаграфічны музей-хата з 19-га стагоддзя. У маі 1984 года Гудзевіцкі музей святкаваў свой 15-гадовы юбілей. Ды збіральніцкая работа вядзецца там значна раней.

Старшыня калгаса імя Карбышава Міхаіл Сцяпанавіч Пронька лічыць, што вывучэнне гудзевіцкай моладдзю мінулага, пошукі роднага карэння ўмацоўваюць дысцыпліну ў калгасе і спрыяюць таму, што моладзь застаецца ў родных мясцінах. У 1984 годзе ў калгасе засталося 17 выпускнікоў, адсвяткавалі 8 навасельляў.

Музей у Гудзевічах самы адметны з усіх школьных музеяў. Найболей увагі там адводзіцца тым пісьменнікам, якія паходзяць або працавалі ў гэтым рэгіёне. Міхась Явар (1903—1933) нарадзіўся і жыў у вёсцы Мінявічы. Вершы ён хаваў у суседзяў, таму што паліцыя часта рабіла вобыскі. Баяліся іх трымаць і суседзі. Гудзевіцкія школьнікі знайшлі ўсяго шэсць вершаў і ўрыўкі з дзвюх паэм Міхася Явара. Ад Марыі Мікулы запісалі верш «О, мой Нёман мілы», які паэт напісаў у дзень самагубства. Пачуццё адчаю, расчаравання даведзена ў вершы да крэсу.

Ёсць у Гудзевічах і рукапіс верша Міхася Машары, прысвечанага М. Явару, які друкаваўся ў часопісе «Шлях моладзі» побач з некралогам; фатаграфія з аўтографам М. Явара.

Каб знайсці магілу паэта, некалькі разоў хадзілі ў паходы, уключылі ў пошукі сваякоў, сяброў. Найбольш дапамог Яўген Петрашэвіч з вёскі Падбараны, да якога звярталіся яшчэ ў 1968 годзе. Толькі ў 1971 годзе на магілу паставілі помнік, зроблены з дубу ў школьнай майстэрні, і правялі піянерскі збор, на якім прысутнічала сястра паэта, сваякі, калгаснікі. У музеі экспануецца шафа, упрыгожаная разьбой з пяцікутнай зоркай, якую зрабіў Міхась Явар.

Паэт і крытык М. Арол (сапраўднае прозвішча Сцяпан Пяцельскі) працаваў настаўнікам у вёсцы Струга ў 1911—1912 гадах. Іменна ў гэты час ён друкаваўся ў «Нашай ніве», у «Зборніку «Нашай нівы» № 1 як паэт, перакладчык Бялінскага, літаратуразнавец. Гудзевічане сабралі амаль усю спадчыну М. Арла і падрыхтавалі зборнік «Лірнік», які адаслалі ў выдавецтва «Мастацкая літаратура», даказалі літаратуразнаўцам, што М. Арол і Д. Янук розныя аўтары, маюць доказы, што М. Арол памёр не ў 1917 годзе, а ў 20-х гадах.

На фатаграфіі натхнёны твар сялянкі. Агата Анупрэўна Тарасевіч (1888—1948) — мясцовая песенніца, прыдумвала мелодыі і словы, сама і выконвала песні на вясковых вечарынках, на святочных зборах, а людзі навакольных вёсак пяюць іх і цяпер.

> **Засвяціла слоначка**
> **да ў маё сэрдачка,—**

так пачыналася песня «Калі вяртаўся сын з войска»...

Сюды прысылаюць свае кнігі, рукапісы, сувеніры, фатаграфіі беларускія пісьменнікі і мастакі. Ёсць ліст Браніслава Тарашкевіча да сына, асабістыя рэчы Ларысы Геніюш, аўтографы Мележа, Броўкі, Пысіна, Пестрака, Лобана, Дубоўкі, Буйло, беларускіх касманаўтаў Клімука і Кавалёнка. Адам Мальдзіс нядаўна прыслаў бандэроль з асабістымі рэчамі Уладзіміра Караткевіча, які пры жыцці трымаў сувязь з Гудзевічамі.

У Гудзевіцкім музеі справай заняты ўсе вучні школы ад першага класа да дзесятага. Пішуць лісты. Апрацоўваюць экспанаты, ткуць паяскі і гальштукі ў падарунак паважаным гасцям, праводзяць экскурсіі, выпускаюць часопіс «Праменьчык», самі пішуць вершы, п'есы і ставяць гэтыя п'есы перад педагогамі, хлебаробамі, на фермах. Збіраюць паданні, успаміны, біяграфіі людзей, што пасадзілі лясы ў наваколлі, апісваюць гісторыі дрэў і ўрочышчаў, выяўляюць тапонімы. Самі вучні перавезлі на тэрыторыю музея і паставілі хату 19-га стагоддзя. Гудзевіцкія школьнікі на ўсё жыццё застаюцца энтузіястамі свайго музея, вязуць экспанаты з усіх падарожжаў.

Мне пашанцавала быць госцем дзевятнаццатага ўсесаюзнага пушкінскага свята паэзіі ў Міхайлаўскім, наведаць музей-запаведнік А. С. Пушкіна, з густам і любоўю аформлены. Сюды са свету прыязджаюць прыхільнікі таленту вялікага генія. А яшчэ праз два тыдні я прысутнічала на адкрыцці Хаты-музея беларускага савецкага паэта Петруся Броўкі. І яшчэ праз тыдзень сэрца завяло мяне ў Ракуцёўшчыну, дзе два месяцы ўлетку 1911 года адпачываў і так плённа пісаў вершы Максім Багдановіч. У Ракуцёўшчыне няма музея. Ёсць сціплыя два валуны з мемарыяльнай дошкай, на другім канцы вёскі цячэ крынічка, над якой у гэтым годзе паставілі стрэшку, а побач паклалі камень, упрыгожылі яе такім чынам тыя, хто шануе памяць аб Максіме Багдановічу. А ў верасні мяне запрасілі на адкрыццё музея ў Крошыне, прысвечанага Паўлюку Багрыму.

Свята ў Ракуцёўшчыне і школьныя літаратурныя музеі на Беларусі падобны сваім сэнсам — яны вылучаюцца хатняй цеплынёй, утульнасцю, непадробнасцю, насычанасцю. Створаныя з любоўю каларытныя вобразы нашых песняроў на стэндах і на святочнай сцэне, як водсвет роднай печы, як простае аблічча маці, як слязіна. Іх не сорамна паказваць прыезджым з іншых краёў. Але галоўная іх вартасць ачышчаць і натхняць, вучыць любові да сваіх вытокаў, да родных крыніц, павазе да людзей, праўдзівасці, працавітасці.

Летняя ночка купальская, прасякнутая водарам кветак і траў, абмытая светлымі росамі... Яна авеяна сівымі легендамі, апета ў шматлікіх народных песнях. Калі верыць паданню, дзівосная кветка-папараць расцвітае ў ноч на Івана Купалу ў нетрах лясоў, прыносячы таму, хто знойдзе яе, нечуванае шчасце. Што прымушала нашых дзядоў і прадзедаў верыць у гэту прыгожую казку? Спрадвечная вера народа ў тое, што недзе ж павінна быць, і абавязкова знойдзецца, вялікае, сапраўднае шчасце? Або падсвядомае прадчуванне таго, што таямнічая кветка шчасця павінна расцвітаць менавіта ў гэту ноч, калі кожная кветачка на зямлі раскрывае свае пялёсткі насустрач ласкавым абдымкам неба, кожная травінка напаўняецца жыватворным сокам і радуецца жыццю і цяплу?!

Хіба ж можна спаць у такую ноч! Радасна звіняць цымбалы, сотнямі зорачак узлятаюць у вечаровае неба іскры кастра, абвяшчаючы пачатак самага паэтычнага народнага свята. Ноч расквечваецца шматлікімі агнямі, карагодамі, святочнымі строямі дзяўчат, напаўняецца песнямі, у якіх гучыць любоў да зямлі, прыроды, роднага краю. Узяўшыся за рукі, юнакі і дзяўчаты падыходзяць да ракі і кідаюць у ваду вянкі шчасця. І плывуць яны па серабрыстай рачной гладзі, нібыта светлыя дзявочыя мары аб каханні і шчасці.

А да кастра тым часам пад грукат бубнаў і спеў гармонікаў пешшу, конна, на драбінах, у лодках з факеламі і бенгальскімі агнямі ў руках спяшаюцца чэрці, лесуны і вадзянікі, ведзьмы і русалкі, казачныя і літаратурныя героі, персанажы беларускага фальклору. Пачынаецца купальскі карнавал.

Ударыў у струны Сымон-музыка, падхапілі мелодыю вясёлыя дудары, і закружыліся ў імклівым танцы Несцерка і вясковыя дзяўчаты, Машэка і танклявыя русалкі. Пад дружны рогат моладзі скача праз агонь услед за Паўлінкай няўклюдны пан Быкоўскі, хлопцы, пасадзіўшы ў фурманкі дзяўчат, імчаць па лясной дарозе, стараючыся абагнаць адзін аднаго. А тут ведзьма спрабуе ўкрасці купальскі агонь, але, пасаромленая, уцякае пад смех і свіст прысутных. Урачыстай музыкай і апладысментамі сустракаюць шчаслівчыка, якому ўдалося адшукаць схаваную ў траве, у дупле дрэва або ў кустах папараць-кветку... Гараць купальскія агні, вабяць да сябе старых і маладых, запальваюць у сэрцах людзей нязгасны агонь любві да Радзімы, да бацькоўскай спадчыны.

Старажытнае народнае свята летняга сонцастаяння, вызваліўшыся ад рэлігійнай і язычніцкай асновы, з кожным годам заваёўвае ўсё большую папулярнасць, ператвараючыся ў новае масавае свята, пабудаванае на народных традыцыях. Адраджэнню гэтага прыгожага паэтычнага рытуалу надаюць шмат увагі вучоныя і дзеячы культуры. 118 культурна-асветных устаноў Беларусі прымаюць штогод удзел у правядзенні купалля, пераасэнсоўваючы традыцыйныя элементы, прыўносяць у яго шмат новага. Так, у Гродзенскай і Мінскай абласцях у час свята арганізоўваюцца конкурсы на лепшы букет з кветак і галінак дрэў, у Брэсцкай — выстаўкі лекавых траў, у час якіх праводзіцца віктарына, прысвечаная гаючым уласцівасцям раслін. У Віцебскай вобласці ўдзельнікі купальскага абходу, шануючы старую традыцыю, прыбіраюць дзяўчыну «кустом» і спяваюць песню, якой абвяшчаюць аб пачатку свята і нагадваюць аб абавязку кожнага аддзячыць удзельнікаў падарункам. У вёсцы Рэмель Столінскага раёна яны віншуюць імяніннікаў, якія нарадзіліся ў гэты дзень, запрашаюць на свята.

Багатыя традыцыі правядзення купалля склаліся ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Тут да свята рыхтуюцца загадзя, бо ў час яго праводзіцца конкурс паміж брыгадамі калгасаў на лепшы карнавальны касцюм, песню, гульню, танец. Побач з традыцыйным фальклорам у рэпертуар свята ўключаюцца народныя песні і частушкі ў сучаснай апрацоўцы, песні беларускіх савецкіх кампазітараў, сучасныя рытмічныя танцы.

У якой бы форме ні праводзілася купалле — тэатральнага паказу, народнага гуляння або карнавалу — яго галоўная мэта — прывабіць як мага больш актыўных удзельнікаў. На гэтым свяце не павінна быць гледачоў, пасіўных сузіральнікаў. Кожны, хто прыйшоў да купальскага агню, павінен паказаць сваё майстэрства, спрыт і талент, каб у кожнага назаўсёды засталася ў памяці гэта чароўная ноч.

...Гараць агні купальскіх кастроў, вабяць да сябе тых, чыё сэрца адкрыта для хараства і паэзіі. Дзякуючы настойлівасці і творчаму пошуку энтузіястаў старажытнае свята зноў заззяла сваім першародным бляскам на нашай зямлі. І так хочацца, каб іскрынкі купальскага агню ніколі не патухалі, з пакалення ў пакаленне перадавалі любоў да роднай зямлі, павагу да звычаяў продкаў.

**Пётр ГУД,**
**старшы выкладчык**
**Мінскага інстытута культуры.**












**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, Яўгена КОКТЫША, Уладзіміра ЗІНІНА, Пятра КАСТРАМЫ.**



# ВОЛАТЫ

У 16—17 стагоддзях беларуская зямля спарадзіла і выхавала выдатных пісьменнікаў, мысліцеляў-асветнікаў, якія ўнеслі прыкметны ўклад у развіццё агульнаславянскай культуры. Сярод іх зоркамі першай велічыні былі беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар Францыск Скарына, новалацінскі паэт, аўтар славутай «Песні пра зубра» Мікола Гусоўскі, гуманіст і дзеяч рэфармацыйнага руху на Беларусі і ў Літве Сымон Будны і, урэшце, педагог і грамадскі дзеяч, паэт, драматург, прамоўца і публіцыст Сімяон Полацкі. Усе яны прадаўжалі асветніцкія і гуманістычныя традыцыі сваіх землякоў-беларусаў эпохі Кіеўскай Русі — Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Клімента Смаляціча. Але разам з тым яны стварылі новыя для свайго рэгіёна традыцыі свецкай духоўнай культуры, народжанай новай культурна-гістарычнай эпохай — Рэнесансам, або Адраджэннем. Найбольш важкімі яе дасягненнямі ў Беларусі было кнігадрукаванне на роднай мове, развіццё свецкага мастацтва і літаратуры (сілабічная паэзія, драматургія, тэатральнае і выяўленчае мастацтва, музыка), станаўленне нацыянальнай самасвядомасці — важнага фактару, які стабілізаваў цэласнасць народа і садзейнічаў фарміраванню нацыі.

Тыповыя дзеячы эпохі Адраджэння — высокаадукаваныя, з вышэйшай гуманітарнай адукацыяй, шчодра надзеленыя разнастайнымі талентамі, яны не «закапалі іх у зямлю», а без астатку аддалі свайму народу, прыкметна павялічыўшы сусветны аўтарытэт айчыннай культуры. Найбольш вядомы шырокаму колу чытачоў, безумоўна, Францыск Скарына — заснавальнік айчыннага кнігадрукавання. У 1990 г. у нашай краіне, а па рашэнню ЮНЕСКА і ва ўсім свеце, будзе адзначацца 500-гадовы юбілей з дня яго нараджэння. З гэтай нагоды ў нашай рэспубліцы рыхтуюцца цікавыя выданні, у тым ліку «Скарынінскі каляндар» і энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго эпоха».

Да эпохі Скарыны і яе непасрэднага прадаўжэння належаць Сымон Будны і Сімяон Полацкі — вельмі розныя па характару творчасці і светапогляду мысліцелі, але блізкія па гуманістычных вытоках, якія пачыналіся з кніг Ф. Скарыны. Кожны з іх па-свойму развіваў розныя бакі скарынінскай асветніцкай спадчыны: С. Будны развіў рэлігійнае вальнадумства аўтара першага перакладу Біблії на родную мову ў цэлую сістэму рацыяналістычнай крытыкі тэкстаў святога пісьма; а зямляк Скарыны, «ціхмяны іераманах Сімяон» наблізіў Беларусь і Расію да свецкай еўрапейскай культуры, садзейнічаў гуманізацыі грамадскай думкі сваёй другой бацькаўшчыны — Расіі, быў заснавальнікам рускай свецкай паэзіі і тэатральнага мастацтва, адрадзіў высокае аратарскае майстэрства. І, вядома ж, абодва прадаўжалі кнігавыдавецкую традыцыю Скарыны.

Выдатнай рысай асветніцкай дзейнасці нашых пісьменнікаў і мысліцеляў эпохі Адраджэння было непрыманне імі рэгіянальнай або нацыянальнай абмежаванасці, арыентацыя на адзінства славянскіх культур, дзякуючы чаму іх літаратурна-асветніцкая спадчына засталася агульным здабыткам культур брацкіх народаў. Сымон Будны амаль усё жыццё правёў у Беларусі і Літве, друкаваў кнігі на беларускай і на польскай мовах; яго ідэі пашыраліся на Украіне і ў Расіі, паўплывалі на ўзнікненне там рацыяналістычна-асветніцкіх вальнадумных філасофскіх плыняў. Нарадзіўся ён каля 1530 г. у Польшчы, там жа атрымаў вышэйшую адукацыю — закончыў факультэт свабодных мастацтваў у Ягелонскім універсітэце, а затым, як мяркуюць даследчыкі, прадаўжаў сваю адукацыю ў Заходняй Еўропе. Вядома, што ў 1558 г. ён выкладаў хрысціянскі катэхізіс па-беларуску ў Вільні. Праз два гады назаўсёды пераехаў на Беларусь: быў пратэстанцкім настаўнікам і прапаведнікам, разам са сваімі аднадумцамі заснаваў у Нясвіжы друкарню, дзе ў 1562 г. выдаў першы беларускі «Катэхізіс» і іншыя кнігі, якія, на жаль, пакуль што не знойдзены. Пазней С. Будны жыў і працаваў у розных маёнтках беларускіх магнатаў Кішкаў (Заслаўе, Лоск і Хохлава каля Маладзечна), усюды рассяваючы зярняты навукі і асветы: выдаў (на польскай і лацінскай мовах) Біблію (Нясвіж, 1572 г.), Новы запавет (Лоск, 1574) і іншыя кнігі са сваімі прадмовамі і каментарыямі, якія гісторыкі філасофіі ацанілі як першую ў сусветнай навуцы спробу рацыяналістычнай крытыкі раннехрысціянскай літаратуры. З пазіцый радыкальнага пратэстантызму Будны адмаўляў хрысціянскі дагмат святой тройцы, боскую прыроду Ісуса Хрыста, палемізаваў з ідэолагамі каталіцызму па філасофскіх і сацыяльна-палітычных пытаннях, спрачаўся ў Полацку з езуітамі, абвяргаючы дагмат пра бессмяротнасць душы.

Апошнія гады пражыў самотна ў Вішневе (Валожынскі раён), там жа і памёр 13 студзеня 1593 г. У багатым на помнікі гісторыі і культуры Нясвіжы, дзе Будны надрукаваў першую на тэрыторыі сучаснай Беларусі кніжку на роднай мове, узвышаецца помнік пісьменніку, створаны маладым беларускім скульптарам Святланай Гарбуновай.

Заслуга С. Буднага — пісьменніка і мысліцеля пераходнага перыяду ад сярэдневякоўя да новага часу — у паслядоўнай барацьбе за інтэлектуальную свабоду, за права на «іншадуманне». Разам з тым ён садзейнічаў развіццю беларускай літаратурнай мовы як выдавец і перакладчык. У прадмове да свайго арыгінальнага і смелага сацыяльна-філасофскага твора «Пра свецкую ўладу» Будны пакінуў нам узор свайго ўласнага вершаэпіграмы на польскай мове.

Сімяон Полацкі (1629—1680 гг.) быў адным з тых дзеячаў айчыннай культуры, жыццёвы і творчы шлях якіх увасобіў традыцыйныя ўзаемасувязі ўсходнеславянскіх народаў, якія садзейнічалі іх набліжэнню да здабыткаў заходнееўрапейскай культуры. Нарадзіўся Сімяон (сапраўднае імя Самуіл Пятроўскі-Сітняковіч) у старажытным Полацку, дзе з канца 16 ст. асветніцкую справу імкнуліся манапалізаваць езуіты: Полацкая езуіцкая

# ДУХУ

калегія была вядомым тады цэнтрам свецкай адукацыі (у 1618—1620 і 1626—1627 гг. універсітэцкія курсы паэтыкі, рыторыкі і антычнай міфалогіі тут чытаў выдатны літаратуразнаўца і новалацінскі паэт М. К. Сарбеўскі). Вучыўся будучы пісьменнік спачатку ў мясцовай брацкай школе, а затым ў Кіева-Магілянскай калегіі (1640—1650 гг.) і, мабыць, у Віленскай езуіцкай акадэміі. У 1656 г. пастрыгся ў манахі полацкага Багаяўленскага манастыра, выявіў сябе тут здатным педагогам брацкай праваслаўнай школы. У зацятай палітычнай і ваеннай спрэчцы паміж Рэччу Паспалітай і Масквой за Беларусь пісьменнік актыўнага ўдзелу не прымаў, зрабіўшы для сябе, як і яго зямляк Ф. Скарына, канчатковы выбар на карысць навукі, асветы і літаратуры. У гэты час маскоўскі ўрад на чале з царом Аляксеем Міхайлавічам узяў курс на збліжэнне з еўрапейскай свецкай культурай і ў мэтах разгортвання ў рускай сталіцы школьнай адукацыі і выдавецкай справы запрасіў двух найбольш адукаваных аднаверцаў Сімяона з Полацка і Эпіфанія Славінецкага з Кіева. Так у 1664 г. Сімяон назаўсёды пасяліўся ў Маскве, стаўшы там фактычным кіраўніком асветніцкай і кнігадрукарскай справы, настаўнікам царскіх дзяцей, уплывовым грамадскім і царкоўным дзеячам. Тут ён напісаў своеасаблівую энцыклапедыю ў сілабічных вершах — зборнікі «Вертоград многоцветный» і «Рифмологион», два зборнікі (кожны каля паўтары тысячы старонак) царкоўна-аратарскіх высокамастацкіх «слоў» і «павучанняў» (надрукаваныя пасля яго смерці пад назваю «Обед душевный» і «Вечеря душевная»), «стихотворил» (пераклаў сілабічнымі вершамі) і дапасаваў да свецкіх спеваў папулярны ў той час «Псалтыр», апублікаваў палемічную кнігу «Жезл правления», дзе абгрунтаваў прагрэсіўнасць царкоўнай рэформы, якая праводзілася ў Расіі па ініцыятыве патрыярха Нікана.

Літаратурна-эстэтычныя і філасофскія погляды Сімяона Полацкага садзейнічалі фарміраванню рэгіянальна своеасаблівага ўсходнеславянскага стылю барока, які склаўся ў выніку кампрамісу і частковага сінтэзу рэнесанснай, свецкай у сваёй аснове мастацкай культуры з сістэмай сярэдневяковых хрысціянскіх духоўных каштоўнасцей. Стылявыя рысы барока ў ягонай паэзіі і красамоўстве выявіліся ў пэўнай вытанчанасці і парадаксальнасці паэтычных вобразаў і рытарычных фігур, у спробах стварыць на глебе славянскай літаратуры жывапісную «графічную» паэтыку. У свецкай паэзіі беларускага і рускага пісьменніка прыкметны традыцыі рэнесанснай эстэтыкі, што выявіліся ў імкненні сцвердзіць прафесіяналізм і аўтаномнасць паэтычнай творчасці. Сімяон Полацкі бачыў у працы літаратара грамадскае служэнне, а не забаву. Яго ўплыў на айчынную літаратуру быў доўгім і плённым. Шмат што створанае ім не страціла мастацка-пазнавальнай вартасці і сёння заслугоўвае ўвагі чытачоў.

Сёлета выдавецтва «Мастацкая літаратура» запланавала да публікацыі першы ў гісторыі нашай літаратуры зборнік Сімяона Полацкага «Вііршы», які адлюстроўвае ўсе этапы творчасці паэта.

Літаратурна-асветніцкая спадчына Францыска Скарыны, Сымона Буднага, Сімяона Полацкага і іх паслядоўнікаў стала важкім укладам усходнеславянскіх народаў у развіццё культуры пераходнага перыяду ад сярэдневечча да новага часу. Натуры шматгранныя, адметныя творчыя індывідуальнасці, шчыра адданыя роднай зямлі, яны па характару свайго таленту і смеласці мыслення нагадвалі выдатных дзеячаў еўрапейскага Рэнесанса. Аднак было б памылкай лічыць іх толькі прапагандыстамі еўрапейскага гуманізму. Будучы на ўзроўні гуманітарнай навукі свайго часу, яны ўнеслі ў сусветную культуру нешта сваё, нацыянальна-непаўторнае, што непасрэдна вынікала з канкрэтна-гістарычных задач усходнеславянскага рэгіёна і духоўнага аблічча беларусаў. Канкрэтна гэта выявілася ў іх арыентацыі не на асабістыя ці вузкасаслоўныя, а пераважна на агульнанародныя інтарэсы; у пастаноўцы на першы план маральна-этычных і асветніцкіх праблем; у іх служэнні «простаму народу» і адсутнасці індывідуалістычных ці элітарных тэндэнцый, ад якіх не быў свабодны шмат хто з «волатаў думкі» тагачаснай раннебуржуазнай Еўропы. Ф. Скарына, В. Цяпінскі, Сімяон Полацкі былі першымі «будзіцелямі народа» і ў гэтым сэнсе — далёкімі папярэднікамі заснавальнікаў і класікаў новай беларускай літаратуры. Якраз іх меў на ўвазе Ф. Багушэвіч, калі звяртаў увагу чытачоў «Дудкі беларускай» на помнікі айчыннай літаратуры «па дзвесце, па трыста гадоў таму пісаныя». Пачынаючы з В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага і Ф. Багушэвіча, вялася гэтая «пераклічка» дзвюх эпох паскоранага развіцця беларускай культуры — народнага адраджэння другой паловы XIX—пачатку XX стст. і гуманістычнага Адраджэння XVI — першай паловы XVII стст. Паміж гэтымі дзвюма сіметрычна суаднесенымі эпохамі духоўнага пад'ёму народа — амаль два стагоддзі запаволенага развіцця нацыянальнай грамадска-філасофскай і літаратурнай думкі. Але ж ці было гэтае адноснае «зацішша» ўпадкам, як доўга лічылі некаторыя даследчыкі? Так, узніклі сур'ёзныя перашкоды станаўленню беларускай прафесійнай культуры ў гэты трагічны для народу перыяд сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. І ўсё ж грунтоўныя даследаванні, пачатыя ў 20-я гады і прадоўжаныя ў апошнія дзесяцігоддзі, пераконваюць нас: беларускі народ і тады стварыў значныя духоўныя каштоўнасці, якія адрозніваюцца ад здабыткаў папярэдняга і наступнага перыядаў творчага пад'ёму пераважна па структуры, а не па значэнню. Гэта перш за ўсё аўтэнтычны фальклор: яго вядучыя нацыянальныя жанры — чарадзейная казка і народная песня дасягнулі сваёй класічнай дасканаласці ў пачатку XIX ст. Затым прыкладное мастацтва і драўлянае дойлідства: як і ў фальклоры, тут выявіліся нацыянальна-непаўторныя рысы народнай філасофіі, эстэтыкі і маралі. А яшчэ лацінска-польская літаратура класіцызму і асветніцкая філасофія, якія хоць і не былі ў пераважнай большасці твораў беларускімі па мове, аднак пэўным чынам паўплывалі на беларускую культуру і выявілі яе некаторыя рэгіянальныя асаблівасці. Нямала рускіх і польскіх дзеячаў літаратуры, навукі, выяўленчага, тэатральнага і музычнага мастацтваў вядуць сваю радаслоўную з Беларусі. Сярод іх такія выдатныя вучоныя, як Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, геніяльныя пісьменнікі Адам Міцкевіч і Фёдар Дастаеўскі. Урэшце, ананімная літаратура на роднай мове — важнае творча-мастацкае звяно, што злучала фальклор з пісьмовай паэзіяй і прозай. Дасканалыя паэмы «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе» былі тут не выпадковымі ці адзінкавымі творамі, а вяршыняй шматгадовай літаратурнай традыцыі.

Усе гэтыя здабыткі прама ці ўскосна паўплывалі на паскоранае развіццё беларускай нацыянальнай культуры ў пачатку XX стагоддзя, сталі вытокамі творчасці волатаў нашай літаратуры — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Зразумела, яны былі не адзінокімі, мелі сваіх паслядоўнікаў і папулярызатараў. Аднак аб кожнай нацыянальнай літаратуры, іншых відах мастацтва і галінах культуры мяркуюць па іх вяршынных дасягненнях. Шлях да прызнання сусветнага значэння іх творчасці быў не з лёгкіх: спатрэбілася восем дзесяткаў гадоў з дня іх выхаду на літаратурную арэну, каб наша літаратура праз безліч цяжкасцей і перашкод данесла плён іх натхнення, вялікай душы і глыбокай думкі да айчыннага і замежнага чытача. Тут выдатныя сыны беларускага народа падзялілі гістарычны лёс сваёй бацькаўшчыны: прызнанне іх спадчыны як раўназначнай літаратурам іншых славянскіх і, калі гаварыць шырэй, еўрапейскіх народаў адбывалася паралельна з прызнаннем нацыянальнай самабытнасці беларускага народа і яго культуры. А той факт, што творы Купалы, Коласа, Багдановіча пакуль што менш ведаюць, чым, скажам, спадчыну І. Гётэ, В. Гюго, А. Пушкіна, Ф. Дастаеўскага і А. Міцкевіча, сведчыць пра незавершанасць уключэння нашай літаратуры ў скарбонку агульначалавечай культуры.

Але чаму ж якраз літаратуры наканаваў лёс быць у авангардзе духоўнага самавыяўлення беларускага народа да Кастрычніцкай рэвалюцыі і часткова пасля яе, «кампенсаваць» недастатковую выяўленасць другіх відаў мастацтва, сацыяльна-філасофскай думкі? Бо яшчэ і сёння арыгінальная беларуская школа жывапісу, графікі, скульптуры, архітэктуры, музычнага і тэатральнага мастацтваў, не кажучы ўжо пра кінематограф або, скажам, філасофскую думку, перажываюць перыяд дынамічнага развіцця і станаўлення. Ні ў адной з гэтых галін культуры беларусы не мелі творчых індывідуальнасцей такой велічыні, як Купала, Колас, Багдановіч.

Чаму так сталася? Бо, здаецца, ужо ў спадчыне Ф. Скарыны і Сімяона Полацкага былі ў наяўнасці самабытныя элементы, важныя не толькі для літаратурнага, але таксама выяўленчамастацкага і філасофскага развіцця. У свой час яшчэ Гегель заўважыў, што літаратура, асабліва паэзія, квітнеюць ва ўсіх народаў на аснове іх фальклору; у той час як умовай прафесійнага развіцця іншых відаў мастацтва, навукі і філасофіі з'яўляецца іх нацыянальнае самавызначэнне, развітая сістэма культурнага самакіравання і, урэшце, свая дзяржаўнасць. Развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў пачалося ў XIX стагоддзі, а іх дзяржаўнасці — толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Беларускі народ, такім чынам, належыць да адносна маладых нацый, і яму патрэбна значнае духоўнае напружанне, каб выявіць свае творчыя магчымасці. А гэта магчыма толькі на шляху творчага засваення найлепшых здабыткаў сусветнай культуры і развіцця нацыянальных мастацкіх і светапоглядных традыцый, сканцэнтраваных у айчынным фальклоры і класічнай літаратуры, якую заснавалі Купала, Колас, Багдановіч і іх паслядоўнікі.

Гэтая «траістасць» стваральнікаў нашай літаратурнай класікі, духоўна-нацыянальнае адзінства такіх непаўторных і ў нечым нават не падобных паміж сабою творчых індывідуальнасцей была гістарычнай неабходнасцю і разам з тым шчаслівай «выпадковасцю», якая прычынілася да паўнаты літаратурна-мастацкага самавыяўлення народа. Янка Купала найперш выявіў філасофска-прарочы і лірыка-драматычны аспект народнага духу, стварыўшы ўзоры ўсіх жанраў паэзіі і драмы — ад філасофска-медытатыўнай лірыкі, палітычнага верша-памфлета і трагедыі да лірыкі інтымнай, побытавай, камедыі і фарса. Ён быў знаёмы з асноўнымі філасофскімі ідэямі свайго часу — ад пазітывізму і экзістэнцыялізму да дыялектычнага матэрыялізму — філасофіі рабочага класа; аднак ніколі не дазволіў сабе палёгку эпігонскага наследавання, да ўсяго дайшоў уласным сацыяльным і духоўным вопытам, стварыўшы сваю нацыянальна-непаўторную філасофію жыцця.

Якуб Колас — стваральнік беларускага паэтычнага эпасу. Як у чароўным люстэрку, адлюстравалася ў ім шматграннасць някідкай, па-элегічнаму тонкай і далікатнай красы роднага краю, прыгажосць яго працоўных людзей, іх песень, звычаяў, абрадаў, стыхійная глыбіня і самабытнасць народна-сузіральнага погляду на сусвет і грамадства. Дзве выдатныя паэмы-эпапеі «Новая зямля» і «Сымон-музыка» ў высокамастацкіх вобразах раскрываюць два бакі народнага генія — працоўна-побытавага і творча-мастацкага. Зусім натуральным быў яго пазнейшы зварот да аповесці — мастацкага летапісу жыцця.

Агульнае для творчасці Купалы і Коласа — народная самабытнасць, арганічная фальклорнасць і жыццёвая моц творчай інтуіцыі, што дазваляла ім праз мастацкую стыхію раскрыць глыбіні быцця. Не хапала яшчэ аднаго важнага звяна творча-мастацкага генія народа — усвядомленай нацэленасці на майстэрства і прыроджанага артыстызму, неабходных для творчага засваення здабыткаў сусветнай паэтычнай культуры і пераўтварэння «кавалкаў грубага жыцця» ў жэмчуг паэзіі. І тады прыйшоў Максім Багдановіч, здзівіўшы чытачоў нацыянальнай арыгінальнасцю і глыбінёй мастацкага мыслення. Пра яго можна сказаць словамі з ягонага ж верша:

**Так свабодна, так ярка пражыць —**
**Лепшай долі няма на зямлі:**
**Усё кругом на мамэнт асвяціць**
**І пагаснуць у цёмнай імгле.**
**Усё знікае, праходзіць, як дым,**
**Светлы ж свет будзе вечна жывым.**

У творчай спадчыне Купалы, Коласа і Багдановіча, узятай разам, ёсць паўната народнага творчага духу. І трэба «прычасціцца» ім, каб сказаць нешта разумнае, добрае і прыгожае ў беларускай мастацкай культуры.

**Уладзімір КОНАН.**
**Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

## АНКЕТА

### ШТО ПАКІНЕМ У СПАДЧЫНУ?



# КАБ РАДЗІЛА І КАРМІЛА ЗЯМЛЯ

Чалавек жыве ў трох вымярэннях. Былое, цяперашняе і будучае. Мінулае нагадвае пра сябе то мыліцай інваліда, то смерцю салдацкай удавы, то светлымі расказамі пра тое, якою вясна была тады, калі яшчэ не было вайны. І мы шануем гэтую памяць і яе казачную радасць, і яе шчымлівы боль. Шануем памяць тых, хто загінуў, каб мы маглі здзяйсняць сваё сёння і думаць пра будучае.

Магчыма, гэта памяць і падштурхоўвае нас рабіць тое, што сёння мы робім. Колькі сябе памятаю, хацелася будаваць, упрыгожваць зямлю, ствараць найлепшыя ўмовы для жыцця і працы людзей. Можа, таму ўсё гэта, што балелі ў памяці асірацелыя, спаленыя, разбураныя, а потым сяк-так саматугам збудаваныя вёскі. І ад вёскі Асавец, дзе зараз цэнтр калгаса «Рассвет», заставалася мала што: пасярод вёскі, як свечка над ёй, стаяў абгарэлы, пяцісотгадовы дуб. Ацалелі бярозы паабапал дарогі — зялёны калідор вёскі. А гэтыя бярозы садзілі камсамольцы ў 30-я гады. Як шчымліва і балюча яны шумелі. Цяпер ужо састарэлі, а побач, крышку воддаль, пасадзілі мы новыя. Вось так будучае — пачынаецца з мінулага. І малады дубок у камлі былога дуба расправіў сваё голле.

І не толькі гэта. Адбудавалі мы, нанова пабудавалі вёску. Цяпер гэта цэлы горад. І цэлы дубовы гай мацуе свае карані на востраве сярод возера.

У нас створаны ўсе ўмовы для адпачынку: клуб, бібліятэка са светлай чытальнай залай, стадыён, санаторый, а яшчэ ж — Дом быту, пральня і многае іншае. Сёння ў нас ёсць такія спецыялісты, як выкладчыкі музыкі, інжынеры. А гэтыя ж спецыяльнасці некалі лічыліся гарадскімі.

Здаецца, усё зроблена. Але не. Нядаўна мы аб'ядналіся з калгасам «Іскра». Што і казаць, гаспадарка ў заняпадзе. І зноў усё нанава. Будуем там фермы, акультурваем палі, перазалужваем пашу. Словам, дбаем пра тое, каб радзіла і карміла зямля. Дбаем пра хлеб. У былым цэнтры калгаса вёсцы Пласток з'явілася новая вуліца — аднапавярховыя катэджы. Раней пасярод вёскі была пустка, куды звозілі ўсялякае смецце, з зімы працавалі тут бульдозеры, экскаватары. Вёску ўпрыгожыць возера. Азёр у нас стала многа, толькі ў вёсцы Асавец — чатыры. Усе яны рукатворныя.

Спытаеце: для чаго гэта ўсё робіцца? Дзеля прыгажосці? Так, і дзеля яе. Зямля, на якой мы жывём, павінна быць прыгожай. Прыгожую, утульную, урадлівую мы пакінем яе нашчадкам. Няхай жывуць і радуюцца. Але не толькі гэта мяне хвалюе. Сёння паўстае і новае пытанне: як палепшыць, прасвятліць і ачысціць чалавечую душу. Я казаў пра бярозавую алею паўз дарогу на Чабусы. А такія ж бярозавыя алеі камсамольцы і моладзь у 30-я гады пасадзілі ўздоўж дарогі на вёскі Крываль і Зялёнкі. Але вучні, якія ў той час хадзілі ў Асавецкую школу, паламалі іх, дзе-нідзе ацалела бярозка. Трэба сказаць, што чабускія таксама хадзілі, але бярозак не зачапілі. А маглі ж шумець бярозавыя алеі і на дарозе на названыя вёскі. Вось чаму я сказаў пра душу чалавека. Толькі тады падоўжыцца век усяму таму, што мы робім. Канечне, галоўнае нешта зрабіць — пабудаваць, пасадзіць, але ж не менш важна — зберагчы зробленае. Пакінуць яго нашчадкам.

**Віктар АРЦІМЕНЯ,**
**старшыня калгаса «Рассвет»**
**Любанскага раёна Мінскай вобласці.**

Наўрад ці хто ў колішнім сялянскім побыце карыстаўся большай пашанай, чым каваль. Падкаваць каня, назубіць серп, выкаваць завесу ці клямку — ішлі да каваля. Добрага майстра ведала ўся акруга, ім ганарыліся, яго шанавалі і цанілі. Кавальскае рамяство заўсёды было акружана арэолам таямнічасці і загадкавасці, а каваля параўноўвалі з чараўніком, які валодае цудадзейнымі сакрэтамі апрацоўкі такога непадатлівага матэрыялу, як жалеза.

Для занятку рамяством патрэбна было і спецыяльнае памяшканне, і цэлы набор прылад. Кузню ставілі наводдаль ад жылля, пажадана каля вады, бо сухому, прадымленаму дрэву загарэцца ад іскры нічога не абыходзіла. Адзін куток займала адкрытая печ (горан) са скураным мехам, пасярэдзіне стаяла тоўстая калода з кавадлам, побач — карыта з вадой. У добрага майстра-каваля меўся яшчэ і цэлы камплект розных іншых інструментаў: вялікія і малыя малаткі, некалькі клешчаў розных памераў, зубілы, насценны дрыль (бормашына), ціскі (шрубштак), маленькае кавадлачка (шпарак), гваздзільня, гладзілка, набор прабойнікаў, прылады для нарэзкі разьбы (вараток, шнайдэза). Амаль усё гэта выраблялася самім кавалём.

Цікава пагаварыць з колішнімі майстрамі пра сакрэты рамяства. Як вызначыць якасць матэрыялу, тэмпературу нагрэву, добра зварыць зламаную вось, перакаваць касу на серп — усяму гэтаму вучыліся не адзін год. Былі і свае крытэрыі ацэнкі майстэрства. Паколькі для вырабу рэчы загатоўку разагравалі ў горне, каваль спяшаўся зрабіць як мага больш, пакуль загатоўка не астыла. Чым больш дакладнымі, выверанымі і майстэрскімі былі ўдары молата, тым менш даводзілася паўторна разаграваць выраб. «Падкову я вырабляў, нагрэўшы загатоўку чатыры разы,— гаварыў Фларыян Грушэцкі з Баўтрамееўцаў Докшыцкага раёна.— Але былі майстры, што і за тры разы выраблялі...» Цанілася і ўменне выкаваць асабліва тонкую, адмысловую рэч. Адносна гэтага (а таксама ашчаднасці матэрыялу) на Мядзельшчыне бытаваў такі жарт. Прыходзіць да каваля чалавек: «Язэп, ці ёсць у цябе жалеза?» — «А вялікая работа патрэбна?» Здымае чалавек шапку, вымае з яе іголку са зламаным вушкам: «Ды вось, навары іголцы вушка...»

Аднак у такіх размовах з кавалямі цікавіў крыху іншы аспект іх рамяства — мастацкі ўзровень вырабаў. Так сталася, што на сённяшні дзень кавальства — ці не найменш вядомы і даследаваны від беларускага народнага мастацтва. Вядома, ёсць тут і аб'ектыўныя прычыны. Адна справа — аздабленне святочнай вопраткі, дэкор посцілак, ручнікоў, разьба. А тут — падковы, сярпы, завесы... Ці да мастацтва кавалю?

У размовах з большасцю майстроў можа скласціся якраз такое ўражанне. «Якое там мастацтва? Рабілі, каб было моцна, надзейна, зручна»,— звычайна кажуць яны. Але, навучаны шматгадовым вопытам даследчыцкай дзейнасці, не надта верыш такой будзённай, рацыянальнай практычнасці: добры майстар, чым бы ён ні займаўся, хоць падсвядома, але імкнецца да прыгажосці. Тое ж і ў кавальстве. Агледзіш уважліва сядзібу каваля — штосьці-небудзь ды знойдзеш: то клямка фігурная на дзвярах, то замок адмысловы, то нават арыгінальныя фігурныя вілкі ў качарэжніку. Вядома, прад'яўляць мастацкія патрабаванні да падковы ці нарога не станеш, але іншыя рэчы толькі выйграюць ад таго, калі зроблены не толькі зручнымі, практычнымі, але і прыгожымі, нават з нейкім дэкорам. Узяць той жа празаічны серп. На Маладзечаншчыне давялося адшукаць вырабы, аздобленыя ланцужкамі ўзору з кропак і дужак, выбітых спецыяльнымі паўкруглымі зубілцамі і прабойнікамі. «Возьмеш у рукі серп — і па ўзору адразу пазнаеш, чыя работа»,— казалі тамашнія майстры. Думаецца, што і жнеям было не ўсё роўна, якім сярпом жаць.

А якую цікавую калекцыю здымкаў дзвярных клямак удалося сабраць! Завяршэнні іх выкаваны то ў выглядзе лісточка, то завіваюцца двума парасткамі, то аформлены ў выглядзе конскай ці птушынай галоўкі. А на ўсходзе Беларусі можна адшукаць клямку, адкаваную ў выглядзе барановаЙ галавы. Старажытныя, яшчэ язычніцкія матывы...

Хоць і рэдка, але часам у калгаснай гаспадарцы на вочы трапіцца адмыслова вырабленая брычка ці вазок. У колішнім народным побыце такія рэчы лічыліся паказчыкам заможнасці і дабрабыту, і добрыя майстры-кавалі заўсёды мелі заказы на іх выраб. Тут ужо мастацкія запатрабаванні ставіліся свядома. Фігурныя вітыя падкосы, ручкі па баках лавак, аздабленне шчыткоў, бакавін, спінак рабіліся з любоўю і асаблівым стараннем, каб у людзі не брыдка было выехаць.

Не забывалі кавалёў і пры аздабленні мясцовых храмаў. Якія арыгінальныя ўзоры кавальскага майстэрства можна бачыць на купалах і шпілях цэркваў і касцёлаў! Хрысціянскі сімвал часамі цалкам раствараецца ў перапляценні парасткаў, лісточкаў, кветак, адкаваных з жалеза. Нібы нейкая дзівосная расліна квітнее высока ў паднябессі. Нярэдка кавальскі дэкор складае цэлы ансамбль: адмысловыя рашоткі, алтарныя перагародкі, аконныя краты, фігурныя завесы, клямкі, замкі. Нельга не падзівіцца перапляценню жалезных карункаў на дзвярах касцёла ў Слабодцы Браслаўскага раёна, якія ў пачатку нашага стагоддзя адкаваў мясцовы майстар Антон Петкун. Наўрад ці даведаемся мы прозвішчы кавалёў, якія ў канцы мінулага стагоддзя шчыравалі над аздабленнем старога драўлянага касцёла ў Цімкавічах на Капыльшчыне. Фігурныя замкі, клямкі з букецікамі кветак, дзівосныя завесы ў выглядзе дубовага вецця ці галінак яблыні ў квецені арганічна спалучаліся з роспісам на сценах, разьбой, тканымі рэчамі, утвараючы адзіны арганічны ансамбль. Цікавыя, тыпова мясцовыя ўзоры акоўкі дзвярэй сустракаюцца на Брэсцкім Палессі.

Вядома, мастацкія здольнасці меў далёка не кожны каваль. Як і ў любой іншай справе, імі валодалі натуры ўсебакова адораныя, цікаўныя, адным словам, майстры на ўсе рукі, у якіх ужо ад прыроды было закладзена імкненне да прыгажосці і ўмельства. Так, Іван Няхай з Лядаў Чэрвеньскага раёна быў не толькі выдатны каваль, але і набойшчык, сам выразаў драўляныя дошкі-штампы для набівання ўзораў на тканіне. Васіль Паўлючык з Багда-



наўкі на Піншчыне аздабляў разьбой жыллё, майстраваў веласіпеды, спрабаваў зрабіць нават... верталёт. А што ўжо казаць пра легендарнага Паўлюка Багрыма з Крошына Баранавіцкага раёна! Жырандоль, гэты шэдэўр кавальскага мастацтва, мог вырабіць не толькі першакласны майстар, але і паэт па натуры, кім ён і быў.

А такіх жа майстроў было шмат. Трэба толькі шукаць іх, збіраць, замалёўваць ці фатаграфаваць узоры кавальскага майстэрства. Няхай запаўняецца яшчэ адна старонка мастацкай спадчыны нашага народа.

**Яўген САХУТА.**

□ Над кавадлам чаруе каваль — Аляксандр Сяргей з вёскі Слабада Вілейскага раёна.

□ Завеса, вырабле
ная ў канцы XIX стагоддзя ў Цімкавічах Капыльскага раёна.

□ Крыж. Вёска Каралеўцы Вілейскага раёна, канец XIX стагоддзя.

□ Фрагмент агароджы з вёскі Прылукі Мінскага раёна, канец XIX стагоддзя.

□ Клямка. Вёска Слабада Вілейскага раёна, 1955 год.

□ Фрагмент жырандолі работы П. Багрыма. Вёска Крошын Баранавіцкага раёна, 1881 год.

Фота аўтара.



# КВЕТКІ З СЯЛЯНСКАЙ КУЗНІ











**Уладзімір**
**АРЛОЎ**

**Да людзей таленавітых і моцных духам лёс часта бывае жорсткім. Такім ён быў і да героя гэтага апавядання Аляксандра Незабытоўскага (1819—1849). Зусім кароткае жыццё, і потым доўгія гады поўнага забыцця. Трэцяе аддзяленне помсціла непакорлівым палітычным вязням нават пасля іх смерці. Рукапісы мужнага пісьменніка і публіцыста з рэвалюцыйнымі поглядамі надоўга трапілі ў жандарскія архівы, а некаторыя, магчыма, наогул былі знішчаны. Яго імя магло кануць у Лету. На шчасце, даследаванні вядомага беларускага літаратуразнаўца С. Х. Александровіча вярнулі Незабытоўскага нашай гісторыі. Трагічнае жыццё гэтага чалавека вартае памяці і захаплення.**

# Пакуль не згасла свечка

АПАВЯДАННЕ

Памяці Сцяпана **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

Хлопчык мой! Дарагі Ежы!

Здарылася амаль неверагоднае. Я зноў магу сказаць табе «Добры дзень!» Хачу верыць, што ён для цябе сапраўды добры. Я так даўно ў турме, што мне часам здаецца, быццам на волі ўжо нікога няма. Толькі пра цябе я ніколі так не думаю.

У гэтыя хвіліны я спрабую ўявіць, дзе ты цяпер, чым займаешся. Калі зімовыя вакацыі не скончыліся, ты, напэўна, дома, у нашым ціхім кутку, дзе так часта вандруе мая душа. Бачу, як ты лётаеш на галандскіх каньках па сажалцы, што за берастовымі прысадамі. Бачу, як ты, яшчэ расчырванелы ад марозу, сядзіш каля грубкі на плеценай канапцы з кнігаю на каленях. Мне хочацца зірнуць паўзверх твайго пляча: якая гэта кніга? Можа, том Плутарха? Твая маці пісала мне ў Парыж, што ты захапіўся гісторыяй...

З якім пачуццём чытаеш ты першыя радкі? Бадай, я згодны на любое, апрача страху.

Вырашай сам, ці варта паказваць гэты ліст маці, бацьку ці дзядзьку Канстанціну. Ты ведаеш іхнія адносіны да мяне пасля арышту. Але не будзем надта сурова судзіць іх: цяжка знайсці чалавека, якому сваяцтва з дзяржаўным злачынцам прынесла б радасць. Лепш за ўсё спалі гэты ліст.

Наогул маім адрасатам не шанцуе. Ліст да маёй сястры, а тваёй маці, сваё кароткае падарожжа закончыў у следчай справе. Нядаўна з літасцівага дазволу я пісаў да яго вялікасці. Здавалася, я быў сама добранамернасць (хіба што дазволіў сабе сказаць на адрас вялікасці два-тры словы, якія не рызыкну паўтарыць тут), але наш самадзяржац таксама не дачакаўся вестачкі ад аднаго са сваіх удзячных падданых.

І ўсё ж я жыву вераю, што ты прачытаеш гэты ліст. Ён пойдзе іншым шляхам. Мне выпала шчаслівая карта, Ежы. Сярод турэмшчыкаў з'явіўся наглядчык з незацверджанай дубейкаўскай шляхты, з тых самых Дубеек, што на паўдарозе паміж стольным Нясвіжам і маім маёнткам.

Калі бачыш гэтага чалавека ўпершыню, прыгадваюцца гісторыі пра ведзьмакоў і атручальнікаў, аднак у яго грудзях б'ецца шляхетнае сэрца.

— Пане,— ціха загаварыў ён да мяне аднойчы, паставіўшы на падаконец турэмную вячэру,— я памог бы вам уцячы, але вы ўжо не дойдзеце і да дзвярэй. Што я магу зрабіць дзеля вас?

Спачатку я вагаўся, але, калі ён сказаў, што ягоны бацька ваяваў пад штандарамі Касцюшкі, я даверыўся яму.

У яго вялікая сям'я, а я меў сто рублёў срэбрам: іх пераслаў нядаўна твой дзядзька Канстанцін (ці не ў якасці кампенсацыі за тое, што быў занадта гаваркі на допытах?). У рэшце рэшт мне ўдалося пераканаць свайго дабрадзея, што мне грошы ўжо не прыдадуцца, а павялічваць прыбыткі пана каменданта і ягонай хеўры я не імкнуся.

— Вашы грошы будуць апякаць мае рукі,— сказаў ён.

Я вельмі разлічваю на яго, бо нам з табою шмат аб чым трэба пагутарыць.

На Усходзе я чуў ад аднаго мудраца: калі хочаш доўга жыць, як мага больш глядзі на зялёную траву, на цякучую ваду і на прыгожых жанчын. Паўтара года я пазбаўлены ўсяго гэтага. Ці не таму я так хутка выпраўлююся ў апошняе падарожжа?

Не, гэта не пра мяне сказана: «Felix opportunite mortis»*, але, далібог, сёння я ў добрым гуморы. Я стаў такой важнаю птушкай, што мяне баяцца генералы. Аб маім лёсе рупіцца шэф жандараў, галоўнакамандуючы дзейнага войска і нават сам Нерон **, з якім я так няўдала спрабаваў наладзіць ліставанне.

Тут, у Вільні, ужо атрымаўшы прагонныя, другі тыдзень сядзіць сталічны фельд'егер, каб суправадзіць мяне ў слаўны горад Табольск. Кат павінен зламаць над маёй галавой шпагу ***, затым мяне чакаюць пазбаўленне маёмасных правоў і сібірскія капальні. Так у нашай імперыі судзяць самых небяспечных дзяржаўных злачынцаў. Ну як, табе яшчэ не захацелася схавацца пад ложак, як у той калядны вечар, калі я апрануўся ў мядзведзя?

Толькі гэтым разам кат, відаць, застанецца без работы (вядома, ненадоўга), а бравага фельд'егера пецярбургскія прыяцелі павіншуюць з predkim powrotem ****. Суддзі адмералі мне дваццаць гадоў катаргі, але і цяпер ім не ўдасца пацерці рукі, бо ў мяне засталося не дваццаць гадоў, а ў лепшым выпадку дваццаць дзён. Акурат хопіць, каб мы з табой маглі не спяшаючыся пагаварыць.

Але для такой размовы мне проста неабходна ўявіць свайго візаві. Мы развіталіся, калі табе было ўсяго дзесяць летаў і зім, і, пакуль я падарожнічаў з Еўропы ў Афрыку, а потым з кута ў кут маёй камеры (восем з паловаю крокаў), ты неўпрыкмет ператварыўся з хлопчыка ў юнака.

У маіх вандраваннях прыгады аб табе былі самым дарагім, што я меў. Вольнаю хвілінай я асцярожна перабіраў іх, як збіральнік бясконца разглядвае каштоўныя камяні са сваёй скарбонкі. Вось гэты апал — той вялікдзень, калі ты гасцяваў у мяне і мы з табою і фурманам Янкам наладзілі наезд на мой маёнтак. Замест пісталетаў у нас былі петарды і ляскоткі, у цябе адкleіліся вялізныя чорныя вусы, а пан Янушэўскі, высакародна кінуўшы жонку, скочыў у брычку і з перапуду ледзьве не загнаў коней. А вось гэты гранат — дзень, калі мы знайшлі ў архіве пірацкую мапу з пазначаным на ёй скарбам. Апоўначы мы адкапалі каля стайні зусім новы гаршчок з пяццю залатымі. «Вуек * Олесь,— шаптаў ты,— а піраты будуць нам помсціць, так?»... Прабач, я раблюся сентыментальным. Напэўна, гэта туга па сыну, якога ў мяне ніколі не будзе.

Усюды ты быў маім невідочным спадарожнікам, у любы момант я мог выклікаць з памяці дзесяцігадовага гарэзніка з каштанавымі кудзеркамі і ў запэцканых зелянінаю нагавічках, якога лёкай толькі што зняў з берaста. Такім і яшчэ крыху незадаволеным, што цябе адарвалі ад вывучэння граковых гнёздаў, ты быў у дзень нашай апошняй сустрэчы, калі ля ганка стаяў мой шасцярык.** Але аднойчы я зрабіў не вельмі прыемнае адкрыццё. Я зразумеў, што такога цябе ўжо даўно няма. І вось тут адбылося нешта цікавае...

Неяк у часы студэнцтва я ехаў з Дэрпта праз Пецярбург і ў доме, дзе спыніўся, убачыў некалькі карцін Аляшкевіча.*** Мяне вельмі ўзрушыў адзін партрэт — дама ў блакітнай сукенцы з галінкаю ў руцэ і разам з ёю дзеці: дзве дзяўчыны і два юнакі. Уражанне было моцнае і свежае, аднак найглыбей чамусьці запаў у памяць адзін з юнакоў, злёгку кучаравы, амаль круглатвары, з разумнымі вачамі і пячаткаю летуценнасці на ўсім аблічччы. Памятаю, я адразу падумаў: з такога ніколі не вырасце нягоднік. І вось праз многа гадоў, спрабуючы ўявіць цябе, я раптам убачыў не малага дзіцця ў брудных штоніках, а таго летуценнага юнака ў гафтаванай кашулі з вялікім адкладным каўняром. Мо калі-небудзь ты зможаш спраўдзіць, ці нашмат памылілася маё ўяўленне, але для мяне ты застанешся такім да астатняй хвіліны.

А зараз сядай бліжэй, вось сюды, на край майго ложка, і я гатовы адказваць на твае пытанні. Прадбачу, што іх нямала і некаторыя ты мог ужо задаць маці ці дзядзьку Канстанціну. Баюся, што іх адказы знаходзяцца ад ісціны прыкладна на такой самай адлегласці, як мой любы Нясвіж ад Парыжа.

Даруй, Ежы! Я зусім забыўся на свой партрэт, а ты ж, пэўна, таксама хочаш бачыць свайго вуйка. У мяне барада ў пояс, расчасаныя пяцярнёй брудныя валасы да плеч, вочы... Не, лепей папрасі ў маці дагератып, які я паслаў вам з Францыі (маю падазрэнне, што цяпер ён ляжыць у патайным прыскрынку бюро), і пагледзі на сур'ёзнага маладога чалавека з прычоскаю á la Sultan Machmoud. Ён даволі саманадзейна трымае ў руцэ гусінае пяро, а локцем абапёрся на стосік аркушаў. На драпіроўцы можна разабраць слова «Liberté»**** — дагератыпіст быў заўзяты рэспубліканец.

Лепей уяўляй мяне такім...

Цяпер я цалкам да паслуг васпана. Чытаю ў тваіх сініх вачах галоўнае пытанне: як я апынуўся ў адзіночнай камеры?

О, у абвінавачанні шмат пунктаў, аднак іх пералікам я займуся трошкі пазней.

Адзін разумны чалавек сказаў, што ў Расіі два праваднікі: язык — да Кіева, а пяро — да Шлісельбурга. Гэта адказ на тваё першае пытанне, бо

* Шчаслівы, хто памірае ў час (лац.).
** Старажытнарымскі імператар, вядомы крывавымі расправамі над іншадумцамі. Так называў Незабытоўскі ў сваіх лістах цара Мікалая І.
*** Цырымонія пазбаўлення дваранскай годнасці.
**** З хуткім вяртаннем (польск.).

* Дзядзька, брат маці (польск.).
** Запрэжка у шэсць коней.
*** Іосіф Аляшкевіч (1777—1830), вядомы беларускі жывапісец. Паходзіць з сям'і беднага радашковіцкага музыканта. Палотны І. Аляшкевіча знаходзяцца цяпер у мастацкіх музеях Мінска, Масквы, Варшавы, Кракава і іншых гарадоў.
**** Свабода (франц.).



Малюнак Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

турма ў Віленскіх мурах мала чым розніцца ад шлісельбургскіх казематаў. Прынамсі, выйсці адсюль не менш цяжка.

— Падсудны Незабытоўскі! Вы абвінавачваецеся ў тым, што... Пункт першы: ганьбавалі спосаб кіравання ў імперыі. Пункт другі: дзікімі лаянкамі зневажалі гасудара імператара і іншых асоб дома Раманавых, як «ныне здравствующих» так і «почивших в бозе». Пункт трэці: заклікалі да стварэння таемных таварыстваў і паўстання жыхароў усіх плямён, станаў і веравызнанняў. Пункт чацвёрты: выяўлялі зацятую варожасць да манархіі і любоў да рэспублікі. Пункт пяты... Але досыць.

Ну як, нябожа, нагнаў на цябе страху? Відаць, не надта, бо ў тваіх вачах толькі пабольшала цікавасці. Якім чынам я трапіў у рукі нашых доблесных жандараў? Між іншым, гэта сапраўды вельмі займальная і не менш павучальная гісторыя.

Ты, мажліва, чуў, што я напісаў нейкія крамольныя кнігі. Гэта праўда, твой вуек з разраду людзей, якія адважваюцца davяраць паперы свае сумненні і нават імкнуцца пашыраць іх сярод суайчыннікаў. Я аўтар сямі кніг, яны выходзілі ў Вільні і Парыжы.

— Але ніхто не ведае літаратара Аляксандра Незабытоўскага...— зусім слушна зазначаеш ты.

У адказ я мог бы сказаць, што не шукаў славы, а толькі жадаў прынесці хоць каліва карысці нашай пакутнай зямлі. Аднак тады я быў бы няшчыры. Homo sum...* Я марыў аб вядомасці. У тваім узросце за адну бяссонную ноч я напісаў параўнальны жыццяпіс Напалеона і Аляксандра Македонскага.

Усё жыццё я ўтаймоўваў прагу славы. Я пераконваў сябе, што не магу ні дня быць шчаслівы, пакуль няшчасная мая Айчына. І ўсё ж было многа дзён, калі я забываў пра гэта і адчуваў сябе шчаслівым. Я быў малады, Ежы! Але аднойчы, каб адолець свой непамерны гонар, я даў сабе абяцанне, што ні на адной маёй кнізе не будзе стаяць маё імя. І я не парушыў слова.

Мае першыя драмы былі надрукаваны ў Вільні з дазволу цэнзуры. Зрэшты, Шэкспір спакойны за свае лаўры: вялікага драматурга з мяне не выйшла. Суцяшаюся тым, што мае літаратурныя экзерсісы ўсё ж нечага вартыя. Не кожны сачыніцель атрымлівае ў якасці ганарару дваццаць гадоў катаргі.

Я стрымаў слова, хаця гэта і далося мне з пакутамі. Колькі сіл адабрала выданне рамана! Спачатку друкары не хацелі набіраць тэкст, потым крывадушная і баязлівая зграя парыжскіх гандляроў кнігамі адмовілася купіць раман, напалохаўшыся ягонай назвы...** Як я чакаў у Мадрыдзе паштовы дыліжанс, з якім адправілі маю кнігу! І вось два тамы ў мяне ў руках, і разам з усцехаю — разуменне, што апроч двух-трох сяброў ніхто на свеце не ведае і наўрад ці калі-небудзь даведаецца імя аўтара. Гаркаватая радасць.

Цяпер ты ведаеш, што я ехаў за мяжу не толькі лекаваць сухотку.

Дарэчы, вярнуўшыся памяццю ў тую пару, хачу цябе крыху развесяліць. Генерал-губернатар двойчы клаў пад сукно мае прашэнні аб выдачы замежнага пашпарта. Ніякіх падстаў для падазрэнняў у яго не было. Тады чаму? Калі здагадаешся — аддаю дамаскую шаблю з маёй гасцёўні.

Аднаго разу ў Вільні ў нас з губернатарам прычынілася векапомная сустрэча. Уяві такі малюнак. Баль у князя R. Я вяду свецкую размову з дамамі і раптам заўважаю, як усе навокал мяне праглынаюць языкі і са страхам утаропліваюцца на нешта за маёй спінай. Азіраюся — і што? Сам ясновяльможны пан Мірковіч. Вочы, як у пугача, шчокі і левая нага трасуцца.

— Как вы смели, сударь, явиться в таком виде?! Я сам, сам, сам остригу вас!

У губернатара ёсць цудоўная звычка тупаць нагамі. Князёўне зрабілася млосна. І тут я шаркаю ножкай і гэтак ветліва адказваю:

— Да вашых паслуг, пане цырульнік...

Вось табе, Ежы, выдатны ўзор таго, якія людзі займаюць у нашай імперыі дзяржаўныя пасады.

Пасмейся, хлопчык мой, пасмейся, да цябе так пасуе смех...

Як у нас кажуць, зімовы дзень, што ў вераб'я дзюба. Час запальваць свечку. Ты не разумееш, Ежы, якая гэта раскоша — свечка. Уяві сабе дванаццаць, чатырнаццаць, шаснаццаць гадзін цемры са скрабаннем у кутах, ад якога цемра робіцца яшчэ больш глухою. Уяві бясконцую ноч, калі пачынае здавацца, што ўжо ніколі не разднее. А самае жахлівае, што можна заснуць і прачнуцца па-ранейшаму ў цемрыве, не ведаючы, доўжыцца вечар ці ўжо блізка раніца. Тады нараджаецца адчуванне, што цябе проста не існуе, што ты памёр або яшчэ не паспеў нарадзіцца. Такімі хвілінамі даходзіш да таго, што шалёна радуешся, пачуўшы крокі вартавога, бо яны, прынамсі, нагадваюць, што ты ў гэтым свеце не адзіны, што ёсць не толькі морак, але й цьмяны, аплецены павуціннем ліхтар у калідоры... Аднак цяпер я Крэз! Камендант нарэшце дазволіў перадаць мне шэсць фунтаў свечак. Цэлых шэсць фунтаў, Ежы!

Ну вось, свечка ўжо гарыць, робячы маё жытло такім утульным, і мы можам працягваць размову.

Ты, вядома, не супраць пачуць аб маіх прыгодах і ў цывілізаваных краінах, і ў краях, не вельмі кранутых сумніцельнымі выгодамі нашага часу. Не, у палон да канібалаў я не трапіў, затое басконскія разбойнікі тры дні трымалі мяне ў пячоры, чакаючы выкупу. Калі застанецца час, неадменна раскажу пра гэта, а пакуль у нас ёсць больш важлівыя тэмы.

Давай перанясёмся з табою на паўтара года назад. Сядай у маю каляску! Яе верх падняты, і цёплы вецер абвявае нашы твары. Гэта вецер вяртання. Коні бягуць па дарогах Галіцыі, а ў думках я пад'язджаю да Клецка, я ўжо бачу з Ляхоўскай гары нашу дуброву і яліны смаліцкіх *** прысадаў, ужо ўзбягаю на ганак...

І раптам сэрца сціскае трывога. Я зноў у Галіцыі. Шыбеніца на мястэчковым пляцы. Спаленая вёска. Мы з Рыгорам ехалі па мясцінах, дзе летась лілася кроў. Аўстрыйцы спярша дазволілі сялянам граміць шляхецкія атрады, а потым прыйшлі імперскія войскі... Божа, калі ўжо і тут, і ў нас паны рэвалюцыянеры даўмеюцца, што перамагчы без сялянскіх косаў гэтаксама проста, як спляжыць дуб без сякеры. Калі б у 1794-м ці ў 1830 годзе **** нашы хлопы атрымалі зямлю і волю...

Аўстрыйскія жандары траплялісся нам літаральна на кожным кроку, усё паказвала, што па той бок мяжы іхніх блакітнамундзірных сваякоў з расійскай палітычнай паліцыі будзе не меней. Мой неспакой перадаўся і Рыгору.

— Глядзіце, пане Волесь, каб не пад'елі мы з вамі верашчакі,— паўтараў ён ледзь не пры кожнай сустрэчы з гэтымі панамі.

У апошнім аўстрыйскім мястэчку Бродах я затрымаўся. Трэба было нешта рабіць з маімі кнігамі і рукапісамі. Хоць яны і былі ананімныя, усё адно везці іх у Расію легальна азначала б самахоць садзіцца ў турму. Заставалася дамова з кантрабандыстамі, а хачу сказаць, што гэтым паважаным рамяством там не займаюцца хіба што немаўляты. Цэлы дзень я шукаў сярод гэтых мазурыкаў фізіяномію, якая выклікала б у мяне давер, і кожны спрабаваў мне нешта збыць. Прызнаюся, што не ўтрымаўся і купіў-такі літы ***** слуцкі пояс, які на тым баку прысвоіў зухаваты паліцэйскі прыстаў.

---

* Я чалавек... (лац.).

** Гаворка ідзе аб выдадзеным у Парыжы ў 1845 годзе рамане Незабытоўскага «Мары пра каханне, славу і свабоду».

*** У вёсцы Смалічы (цяпер Нясвіжскі раён) быў маёнтак А. Незабытоўскага.

**** Маюцца на ўвазе паўстанне Тадэвуша Касцюшкі і паўстанне 1830—1831 гадоў у Польшчы, на Беларусі і ў Літве.

***** З вялікай колькасцю залатых нітак.

Увечары ў бродаўскім шынку да майго стала асцярожліва падсеў чарнявы парабак, што адразу прыйшоўся мне да душы нейкім наіўным дзіцячым паглядам. Я не стаў таргавацца, а накінуў да яго цаны пяць флорынаў.

Назаўтра мы з Рыгорам пераехалі мяжу. Перад расійскім шлагбаумам караннік спатыкнуўся; Рыгор спалатнеў і пачаў утрапёна жагнацца. Афіцэр варты звярнуў на яго паводзіны ўвагу, і я мусіў растлумачыць іх прылівам патрыятызму.

— У такія хвіліны,— з піэтэтам сказаў я,— кожны расійскі падданы перажывае нешта падобнае.

Афіцэр ветліва згадзіўся і ўзяўся ўласнаручна трэсці мае сакпвы.

Ніякай крамолы там не было, і мытню я пакінуў, бесклапотна насвістваючы пад няўхвальнымі позіркамі Рыгора «Вэндруй, дзяўчына»...

Ад'ехаўшы дзесятак вёрст, мы спыніліся ў паветовым гарадку. Астатні багаж павінен быў прыбыць ноччу.

На чацвёрты дзень чакання за нейкую гадзіну мне тройчы папаўся на вока вяртлявы чалавек у зашмальцаваным лапсардаку. Цяпер толькі дурань мог сумнявацца, што мы з Рыгорам сапраўды пад'елі верашчакі.

Я не ведаў, што губернатар падпісаў ужо загад аб маім арышце. Мех з кантрабандай...

Прабач, Ежы, на сёння я развітваюся з табой. Старшы наглядчык загадаў гасіць святло. Аказваецца, вязні, прынамсі, палітычныя, павінны такой часінаю спаць. Зараз каля шасці вечара. Вось і ўся ўсцеха ад маіх свечак...

□ □ □

Заходзь, хлопчык мой, заходзь. Я так рады зноў бачыць цябе ў сваім самотным прытулку.

Учора я забыўся абмаляваць яго. Акрамя чатырох сцен, у мяне ёсць тапчаγі і крэсла, якое паставілі, калі хвароба больш не дазволіла мне ўставаць. Наогул, ужо цэлы тыдзень я жыву, як англійскі лорд. Замест голых дошак у мяне пярына і дзве пуховыя падушкі. На мне ядвабны шлафрок, а каля тапчагаў стаіць пара чаравікаў, у якіх я нікуды не схаджу. Дарэчы, ад мяне толькі што пайшоў турэмны капелан. Ён прынасіў навіну, што бог пачуў маю просьбу і мне вярнулі права на штодзённы шпацыр. Le bon Dieu envoye toujours des cullottes à ceaux, qui n'ont pas de derriere *.

Яшчэ ў мяне ёсць пыльнае акенца ў глыбокай нішы. Раніцой на падвоканні звінелі сініцы, значыць, маразы прыціснуць яшчэ мацней. Буду маліцца, каб не замерз атрамант і пяро не зрабілася бездапаможным. Цікава, ці чутны на небе малітвы атэістаў?

Краты на акенцы ты бачыш і сам.

У адзіночнай камеры, без кніг, без паперы і пёраў, якія з'явіліся ў мяне толькі днямі, розум заўжды павінен мець нейкі занятак, іначай ён трапіць у палон да хімераў. На шчасце, ніякім турэмшчыкам яшчэ не ўдавалася закратаваць акно памяці. Таму мая цэлля амаль ніколі не бывала бязлюднай. Я часта гутарыў з філаматамі **. Міцкевіч чытаў мне тут «Пана Тадэвуша». А часам мне робіцца цесна, і я зноў выпраўляюся падарожнічаць. У мяне багаты выбар. Бой быкоў у Кадысе, Калізей, які нагадвае, што ўсе імперыі раней ці пазней развальваюцца. Аднак ведаеш, Ежы, ужо даўно я найбольш люблю блукаць па смаліцкіх ваколіцах. Люблю сесці пад мэндлік і пагаманіць з людзьмі, якія ніколі не прачытаюць маіх кніг і наўрад ці зразумеюць, дзеля чаго я жыў на свеце. Але хіба з гэтае прычыны я маю права любіць іх меней?

Днямі я сустрэў у гэтых блуканнях маю няньку Хіму з Лявонавічаў. Адгадай, аб чым я папрасіў яе? Зноў расказаць мне казку пра цмока-трыгалова, што вартуе каралеўскі скарб. Каб ты быў меншы, хлопчык мой, я пасадзіў бы цябе зараз на калені і ты таксама слухаў бы Хіміны казкі. Але ты ўжо дарослы, і ўчора мы спыніліся на загадзе аб маім арышце.

Той чарнявы кантрабандыст з бродаўскага шынка быў чалавекам павятовага прыстава, а ў маім мяху разам з кнігамі і рукапісамі ляжала частка фамільнага архіва. Былі там і лісты на імя нейкага Аляксандра Незабытоўскага.

Напачатку следства вёў штабс-капітан Мілер. Не ведаю дзеля чаго — каб выклікаць мяне на шчырасць ці каб пачуць пікантныя прызнанні ў адказ — гэты rondelet *** сібарыт на допытах апавядаў аб сваіх поспехах у жанчын.

Вось ён пускае блакітныя кольцы духмянага дыму ад дарагой цыгары, і яго ленаваты мяккі барытон гучыць зусім лагодна:

— Аляксандр Хрыстафоравіч, ну няўжо вы верыце, што ўсталяваны ў Расіі лад можна змяніць? Яшчэ ніколі манархія не была такой моцнай. Мне здаецца, вы паводзілі сябе проста несур'ёзна. Навошта вам рэвалюцыя? Хіба для людзей нашага з вамі кола закрыты якія-небудзь магчымасці для паўнакроўнага жыцця? Паўнакроўнага ва ўсіх адносінах. Можа, вамі рухала жаданне, каб такія магчымасці былі ў кожнага? Але, згадзіцеся, тады іх не будзе мець ніхто...

Спрачацца з ім усё роўна, што прасіць ваўка не есці мяса, і таму я лічу за лепшае адмоўчвацца.

— Дарагі Аляксандр Хрыстафоравіч...— Ён знаходзіць прыемнасць лішні раз назваць мяне на свой капыл, відаць, здагадваючыся, што ў мяне гэтае імя выклікае не самыя лепшыя пачуцці. Не вялікі гонар быць аднайменнікам графа, да тытула якога я з задавальненнем дадаў бы яшчэ некалькі слоў, але, на жаль, твой юны ўзрост не дазваляе мне гэтага зрабіць.****

— Дарагі Аляксандр Хрыстафоравіч, да чаго прывяло вас ваша, мякка кажучы, неспакойнае пяро? Вы, адзін з самых багатых памешчыкаў павета, чалавек, звыклы да раскошы, бавіце час у сырой халоднай камеры. І гэта з вашым здароўем. Грубая ежа, нямытае адзенне, прабачце, насякомыя... Нават толькі дзеля захавання чалавечай годнасці я на вашым месцы зрабіў бы ўсё магчымае, каб палегчыць свой лёс. Ужо адно прызнанне віны...

Але ў нас са штабс-капітанам былі розныя ўяўленні пра чалавечую годнасць і спосабы яе захавання.

Перамогі над віленскімі дамамі відавочна даваліся Мілеру лягчэй, чым над палітычнымі злачынцамі, і наша знаёмства не здоўжылася.

Наступнага следчага прызначыў сам генерал-фельдмаршал Паскевіч, граф Эрыванскі, святлейшы князь Варшаўскі і прочая, і прочая. Аб гэтым пане Явецкім варта пагаварыць трохі падрабязней.

Калі Rondelet, не гледзячы на ўсе свае словы пра спагаду, ставіўся да мяне, па сутнасці, абсалютна абыякава (і за гэта я быў яму па-свойму ўдзячны), дык стацкі саветнік Явецкі шчыра любіў мяне. Так-так, любіў. Пратэжэ генерал-фельдмаршала любіў мяне за тое, што я так своечасова падвярнуўся яму для новага кроку наверх. Ад стацкага саветніка да сапраўднага стацкага, ад св. Ганны з каронай да св. Уладзіміра.* Напэўна, нешта падобнае адчувае да сваёй ахвяры кат, калі ведае, што пасля смерці асуджанага зможа пагрэць рукі. Хто асмеліцца назваць пачуццё ката няшчырым?

У дужках заўважу, што як літаратар я буду захоўваць пану Явецкаму вечную падзяку. Такога адданага і ўважлівага чытача не меў, пэўна, і сам пан Бальзак.

Я хутка адчуў яго любоў і тады паставіў сабе за мэту: зрабіць усё, каб следчы знелюбіў мяне, каб я стаўся на ягоным шляху прыступкаю не ўгору, а ўніз.

Не трэба было вялікага таленту, каб здагадацца параўнаць почыркі ў маім прашэнні аб паездцы за мяжу і ў захопленых жандарамі рукапісах. Да таго ж у мемуарах я імкнуўся быць дазвання праўдзівым, і следству было вельмі проста суаднесці ананімныя мемуары з жыццём нясвіжскага памешчыка Незабытоўскага. Карацей, Явецкаму мроілася, што не сёння, дык заўтра ён пачуе маё поўнае прызнанне і будзе трыумфатарам. Сапраўды, яго доказы было немагчыма абвергнуць.

Затое, Ежы, іх можна было не прызнаваць.

Уяві сабе гнуткага смуглявага мужчыну гадоў на сорак, які нечым нагадвае цыркавога артыста. На ім бездакорны светла-шэры сурдут, пашыты ў лепшага варшаўскага краўца, на гальштуку бялее вялікая перліна, і наогул ён пакідае прыемнае ўражанне чалавека, задаволенага сабою і іншымі.

Сёння Явецкі яўна ў гуморы, а ў такія дні за сталом яму не сядзіцца.

— Ну-с, пан Незабытоўскі,— весела гаворыць ён, пахаджваючы па кабінеце,— раніцою я скончыў чытаць адзін надзіва займальны раман пад назваю... хм... «Мары пра каханне, славу і свабоду». Спадзяюся, з гэтае прычыны размова ў нас атрымаецца больш змястоўнаю, чым мінулы раз.

— Мне заўсёды цікава пагаварыць з чалавекам, які чытае кнігі,— адклікаюся я.

— А яшчэ цікавей звесці знаёмства з чалавекам, які іх піша, ці не так?

— Каго пан следчы мае на ўвазе?

— У вашай нездагадлівасці сапраўды няма межаў. Але вернемся да справы. У нас цяпер тысяча васемсот сорак восьмы год. Такім чынам да прадказаных вамі рэвалюцыі застаюцца лічаныя гады, калі не месяцы.

— Не зусім разумею вас, пан следчы. Аб якім прадказанні ідзе гаворка? Мне ніколі не вабіла роля аракула.

— Аб вашым, пан Незабытоўскі.— Сашчапіўшы за спінаю дагледжаныя кароткія рукі, ён працягвае мераць кабінет. Ход гутаркі яму пакуль, відочна, даспадобы.— Я гавару аб прароцтве, якое вы робіце ў сваім рамане.

— Але я ніколі не пісаў раманаў. Прызнаюся, нават лісты да сяброў даюцца мне з цяжкасцю.

— Тым не менш почырк рукапісу,— ён ківае на дзве пульхныя папкі на стале,— супадае з почыркам вашага дзённіка.

— На жаль, пана следчага ўвялі ў зман. У мяне няма звычкі заводзіць дзённікі.

— Цудоўна, цудоўна...— Явецкага не так проста вывесці з яго настрою.— А што вы, судар, скажаце наконт гэтага аркушыка паперы? Між іншым, на ім пералічваюцца назвы раздзелаў памянёнага рамана. І, між іншым, аркушык я знайшоў у вашай спальні. У следчай практыцы гэта называецца рэчавым доказам.

— Вы ўжо дабраліся да маёй спальні? Віншую, віншую... Значыць, на думку пана следчага, я склаў змест невядомага мне рамана. Прабачце, але гэта пярэчыць логіцы.

Шэры сурдут на імгненне застывае, а затым садзіцца за свой засланы зялёным сукном стол.

— Тады як вы растлумачыце з'яўленне паперкі ў вашым маёнтку?

— Васпан жа дзеля нечага лётаў такімі маразамі за дзвесце вёрст у мае Смалічы...

Ён адкідваецца ў крэсла — яшчэ адзін знак, што яго настрой мяняецца. У звязку з гэтым у мяне мільгае бяскрыўдная ідэя.

— Прабачце, пан следчы... Раман, аб якім вы гаворыце, заняў у размове такое вялікае месца, што я насмелюся прасіць вас хаця б у двух словах акрэсліць яго сюжэт і ідэю.

— З вялікай прыемнасцю, пан падследны,— адказвае шэры сурдут з іроніяй, якая сведчыць, што птушка трапіла ў маё сіло.— У рамане апісваецца жыццё ў заходніх губернях пасля перамогі нейкай, з дазволу сказаць, народнай рэвалюцыі. Вядомы вам, напэўна, сэр Томас Мор мусіць пасунуцца, каб даць месца аўтару новай утопіі. Толькі яго фантазія, на вялікі жаль, скіраваная не на ўдасканаленне жыцця дзяржавы, а на падрыў яе святых асноў. Вось ідэя гэтага невядомага вам рамана. Вы задаволілі цікавасць?

(Заканчэнне на 32—33-й стар.)

* Міласэрны божа заўсёды дае штаны тым, у каго няма зада (франц.).

** Таемнае студэнцкае таварыства ў Віленскім універсітэце. У 1823 г. было разгромлена царскімі ўладамі.

*** Кругленькі, пухленькі (франц.).

**** Незабытоўскі гаворыць пра графа А. Х. Бенкендорфа, які ў 1826—1844 гадах быў шэфам жандараў і начальнікам Трэцяга аддзялення.

* Ордэны ў царскай Расіі.

Фота Валянціна ЖДАНОВІЧА.

Нясвіжскі замак.
XVI—XVIII стагоддзі.



СТАРАЖЫТНАЕ
ДОЙЛІДСТВА
БЕЛАРУСІ

| П | А | С | Ч | П | С | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

ЖНІВЕНЬ

Беларусь



# НАШ ВЕРНІСАЖ

# МАЯ



Сяргей АСАПРЫЛКА. Францыск Скарына.

Віктар МАРКАВЕЦ. Уладзіслаў Кандратовіч (Сыракомля).

Георгій СКРЫПНІЧЭНКА. Сымон Будны і Васіль Цяпінскі. З серыі «Выдатныя дзеячы беларускай культуры».





# СЫНАМІ СВАІМІ ТЫ СЛАЎНАЯ, БЕЛАРУСЬ !..



Уладзімір ЗІНКЕВІЧ. Партрэт Уладзіміра Караткевіча.

Міхаіл САВІЦКІ. Сейбіты.



Уладзімір АЛЬШЭЎСКІ. Партрэт Максіма Багдановіча.





# ПАД ЗЯЛЁНЫМІ ШАТАМІ



Шанцуе ж некаторым людзям! Яны нарадзіліся і выраслі каля вялікіх старых паркаў, засыналі пад лапатанне лістоты і прачыналіся ад радасных птушыных спеваў. Усе гульні іх маленства звязаны з паркам. Як зручна было гуляць там у хованкі: станеш за тоўсты камель дрэва або прысядзеш у высокай траве — і цябе ўжо не відаць! А вясной! Варта толькі патрэсці любую бярозку ці таполю, як адтуль градам пасыплюцца хрушчы!

Парк быў найлепшым прытулкам і тады, калі прыйшло першае каханне. Дзе, як не там, можна было, узяўшыся за рукі, гуляць пад засенню цяністых дрэў, падоўгу назіраць, як выплывае з-пад ніцай вярбы на сярэдзіну сажалкі месячык, слухаць, як заліваецца, ап'янеўшы ад чаромхі, салавей...

Мусіць таму, што ў маім маленстве не было такога парку, я ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціў іх вывучэнню і нават збіраюся напісаць кнігу пра старажытныя беларускія паркі. Як толькі выпадае вольны час, імчу ў незнаёмы яшчэ куток Беларусі, каб паглядзець, што захавалася ад аднаго са шматлікіх старых паркаў, пад шатамі якіх ратаваліся ад летняй спякоты нашы продкі. Месцамі ад былога парку засталіся толькі два-тры дрэвы, чые калматыя шапкі ўзвышаюцца над дахамі новых пабудоў. Пастаіш каля векавой ліпы, пагладзіш яе па шурпатай кары і падумаеш: колькі ж гадоў табе, любая! Хто пасадзіў цябе, і што гэта быў за чалавек! Чые песні ты слухала, чыйму шчасцю радавалася, чые слёзы выцірала сваім пяшчотным лісцем!..



Беларускае садова-паркавае мастацтва мае багатыя і даўнія традыцыі. Яго вытокі — у XVII стагоддзі, калі ў нас пачалі з'яўляцца першыя рэгулярныя сады. Да нашага часу рэгулярныя паркавыя кампазіцыі захаваліся ў Бачэйкаве, Дубоі, Свіслачы. Кожны з гэтых рэгулярных паркаў меў непаўторнае аблічча, нагадваў своеасаблівы палац пад адкрытым небам з крытымі алеямі, кветнікамі, скульптурамі і фантанамі. У многіх дробнапамесных парках геаметрычны прынцып кампазіцыі спалучаўся з гаспадарчымі патрэбамі і зручнасцю ў эксплуатацыі.

І ўсё ж вышэйшага росквіту мастацтва паркабудавання ў нашым краі дасягнула ў пейзажных парках эпохі рамантызму.

Кітайскія імператарскія сады, здзівіўшы





□ Свяцкі палац, помнік архітэктуры XVIII стагоддзя, размешчаны ў пейзажным парку.
□ Куток парку ля вёскі Краскі Ваўкавыскага раёна.
□ У наваколлі Мірскага замка.
□ Старыя Пяскі. Уязная брама.

уўленне еўрапейскіх падарожнікаў, знайшлі для сябе спрыяльную глебу ў Англіі, а ўжо адтуль паркавае мастацтва распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе і прыкладна ў апошняй чвэрці XVIII стагоддзя захапіла Беларусь, прыняўшы яе нацыянальныя асаблівасці і рысы.

У свабоднай і дынамічнай кампазіцыі паркаў тагачасныя дойліды імкнуліся выказаць сваё захапленне першабытным хараством прыроды, паказаць яе веліч і чароўную абаяльнасць. Ахопліваючы вялікія тэрыторыі са своеасаблівым рэльефам, гэтыя тварэнні чалавечых рук здзіўлялі бясконцым чаргаваннем разнастайных пейзажаў. У Слаўгарадзе, Гомелі, Нароўлі, Барбараве (Мазырскі раён), Кісцянях (Рагачоўскі), Хальчы (Веткаўскі) паркі занялі высокія тэрасы рэк з перспектывамі на маляўнічыя заліўныя лугі. Уздоўж возера Дрывяты на тэрыторыі каля 100 гектараў раскінуўся адзін з найбольш велічных у Беларусі пейзажны парк Бяльмонт (Браслаўскі раён). У канцы XVIII стагоддзя, акаймоўваючы рэкі і азёры, на марэнных пагорках, сярод лясных масіваў зашумелі паркі ў Старых Пясках (Бярозаўскі раён), Туганавічах (Баранавіцкі), Гарадцы (Шаркоўшчынскі), Лагойску і многіх іншых мясцінах.

Далёкія перспектывы на навакольныя ландшафты, чаргаванне адкрытых і закрытых прастор, змена пейзажаў, пабудаваных на кантрасце, гульні святла і ценю, умеранасць у скульптуры, малых архітэктурных формах з'явіліся асноўнымі прынцыпамі пабудовы пейзажных кампазіцый. Шмат увагі надавалася ў парках воднай роўнядзі, перасечаным формам рэльефу. Своеасаблівасцю мясцовай прыроды вызначалася характэрная рыса беларускіх паркаў: іх задуменнае хараство, сардэчнасць і лірычнасць.

Духоўным крытэрыем пейзажнага накірунку з'явілася ідэя культу натуральнай прыроды Ж. Ж. Русо, якая выяўлялася ва ўзнёслых адносінах да зямнога хараства ў жывапісе, літаратуры, філасофіі. Сам Ж. Ж. Русо намерваўся ў 1778 годзе пасяліцца ў Белавежы, дзе па загаду Антонія Тызенгаўза быў пабудаваны палац і фарміраваўся пейзажны сад у адпаведнасці з матывамі знакамітага філосафа. Аднак некаторыя абставіны парушылі яго планы і вызначылі месцам жыхарства Эрменанвіль пад Парыжам.

У адрозненне ад рэгулярнага парку, прызначанага для вясёлых і бесклапотных забаў, новы пейзажны парк аддаваў перавагу адзінокаму, некалькі сентыментальнаму сузіранню прыроды. Усе яго элементы (архітэктурныя пабудовы, руіны, сімвалічныя помнікі, расліны і дрэвы) служылі інтымнаму кантакту чалавека з прыродай. Доўгія пакручастыя сцяжынкі беглі ўздоўж рачулкі або рукатворнай сажалкі, міналі вясёлыя гаі і цёмныя алеі, прыводзілі падарожніка ў адзінокую альтанку на беразе возера або на вяршыню пагорка, адкуль ён мог любавацца маляўнічымі краявідамі, марыць і паглыбляцца ў роздум. Змена настрою на працягу дня, года і нават гадзіны дасягалася чаргаваннем вясёлых сонечных палян з цёмнымі масівамі, увядзеннем у кампазіцыі руін сярэдневяковых замкаў, помнікаў, змрочных камянёў з эпітафіямі, узвядзеннем убогіх збудаванняў на матывы вясковага жыцця, дрэў з цёмнай лістотай.

Ідэалізацыя эпохі сярэднявякоўя выявілася і ў архітэктурных формах уязных брам, альтанак, павільёнаў у выглядзе крапасных вежаў. На ўязных дарогах Старапяскоўскага замка, напрыклад, былі дзве каменныя брамы, якія аздаблялі круглыя вежы з зубчастым верхам, са стральчатымі праёмамі і нішамі. Як правіла, у брамах змяшчалася варта, хоць у ёй не было вялікай патрэбы і яна больш сімвалічна падкрэслівала магутнасць і непрыступнасць графскага маёнтка. Дзякуючы ўключэнню ў паркавыя ландшафты ветракоў, кузняў, вяндлярань, якія нярэдка мелі утылітарнае прызначэнне, дасягалася яшчэ большая ідэалізацыя вясковага жыцця.

Палацы класічнага стылю з 4—6-калоннымі порцікамі на фасадзе з'явіліся асноўнымі кампазіцыйнымі цэнтрамі паркаў. Яны і сёння складаюць архітэктурную спадчыну Беларусі, веліча ўзвышаюцца ў парках Гомеля, Жыліч, Суткава, Высокага, Гарадца, Хальча, Снова... У іх будаўніцтве прымалі ўдзел выдатныя рускія, замежныя і мясцовыя майстры. Творчасць мясцовых дойлідаў асабліва выявілася ў дэкаратыўным аздабленні помнікаў архітэктуры. Шырока выкарыстоўваліся жывапіс, разьба па дрэве, ажурная («флемская») разьба, кафля і мастацкая кераміка, дэкаратыўнае шкло, гравюра па медзі, дэкаратыўныя элементы з металу.

Беларускія майстры добра валодалі таксама чыгуналіцейным рамяством. Мясцовыя чыгуналіцейныя заводы ў Налібоках, Гомелі, Горках і іншых гарадах выпускалі вырабы для архітэктурнага аздаблення будынкаў і сядзібных паркаў, якія вызначаліся вытанчанасцю малюнка і разнастайнасцю форм (балконы, кранштэйны, брамы, агароджы і г. д.). У парках XVIII—XIX стагоддзя шырока ўжывалася чыгунная, так званая «вечная мэбля». Крэслы, лаўкі, столікі з дапамогай невялікіх колцаў параўнаўча лёгка перасоўваліся па алеях парку. У іх арнаментах выкарыстоўваліся формы раслін, што стварала адпаведнасць архітэктурных вырабаў прыроднаму асяроддзю.

Шмат таямніц, шмат гучных імён звязана са старымі паркамі. У іх цяністых алеях гучалі высокія словы, нараджаліся смелыя планы, з'яўляліся задумы шэдэўраў літаратуры і жывапісу. У поўным адзіноцтве, самотнай цішыні Туганавіцкага парку прайшло лета рамантычнага кахання Адама Міцкевіча, напоўненае паэзіяй, літаратурай і музыкай. «...І вечна сняцца мне Навагрудак і Туганавічы»,— пісаў ён у далёкай Лазане. Калыханкай свайго кахання ён цёпла называў альтанку пад шасцю магутнымі ліпамі, якія і сёння, амаль праз 170 гадоў, апавядаюць нам сумную гісторыю паэта.

Непадалёк у лесе добра захавалася адна з трыбун удзельнікаў патрыятычнага студэнцкага таварыства філаматаў (прыхільнікаў навукі), з якога пазней вылучылася больш канспіратыўнае таварыства філарэтаў (сяброў дабрачыннасці). Гэта вялізны валун, які ў народзе называюць «Філарэтаў камень», каля якога А. Міцкевіч і яго сябры-аднадумцы Т. Зан, Я. Чачот, І. Дамейка, Ю. Яжоўскі, Ф. Малеўскі і іншыя давалі клятву на адданасць сваім ідэалам. Тут А. Міцкевіч чытаў свае вершы, выступаў з дакладамі, рэцэнзіямі, заклікаў да самаадданасці і адвагі ў імя агульнай карысці.

Значны след у творчасці паэта-рамантыка пакінуў і Шчорсаўскі парк. Тут, у бібліятэцы яго ўладальніка графа Храптовіча, ён праседжваў цэлымі днямі, чэрпаючы гістарычную праўду ў старажытных фаліянтах. Хто ведае, магчыма, менавіта тут у яго нарадзілася задума буйнейшых гістарычных паэм «Гражына» і «Конрад Валенрод».

Будынак бібліятэкі з 6-калонным порцікам знаходзіўся ў баку ад палацавага ансамбля, перад люстэркам цэнтральнага вадаёма. Усе асноўныя выданні таго часу меліся ў яе фондах, уключаючы літаратуру грэчаскіх і рымскіх класікаў, французскай і італьянскай літаратуры, творы лепшых філосафаў і публіцыстаў. Прадметам асаблівай гордасці бібліятэкі з'яўляліся працы па гісторыі Польшчы, Літвы і Беларусі. Бібліятэкарам тут працаваў блізкі сябар А. Міцкевіча Ян Чачот, над якім апекаваў сын графа — Адам Храптовіч, чалавек высокаадукаваны, прагрэсіўных поглядаў. Ён прадставіў былому ссыльнаму магчымасць працаваць і адначасова займацца асноўнай справай свайго жыцця — вывучэннем беларускіх народных песень (шэсць кніжак іх Ян Чачот выдаў у Вільні).

З сярэдзіны XIX стагоддзя на Беларусі пачынаецца развіццё натуралістычных пейзажных паркаў, пры стварэнні якіх творчы пачатак саступіў месца простаму капіраванню прыроды. У паркавы ландшафт механічна пераносіліся прыродныя раслінныя групы, рэдкія экзатычныя дрэвы, дзякуючы чаму многія паркі паступова ператвараліся ў калекцыйныя аб'екты. Унікальныя калекцыі дрэўных раслін меліся ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя ў парках Гомеля, Станькава, Ігнацічы, Смілавіч, Чырвонага Берага, Нізгалава, Парэчча, Манькавіч, Князева, Лішак і іншых. Наогул за апошнія тры стагоддзі на тэрыторыі Беларусі было створана каля тысячы сядзібных паркаў, з якіх да нашага часу дайшло больш паловы, у тым ліку 109 параўнаўча ацалелых і 70 значна відазмененых паркаў. 134 паркі захаваліся ў выглядзе невялікіх участкаў або фрагментаў. Нягледзячы на змены, яны і цяпер уяўляюць вялікую цікавасць як помнікі садова-паркавага мастацтва.

Але многае ў садова-паркавым мастацтве беззваротна страчана. Асабліва вялікі ўрон паркам нанеслі войны. Парушана іх прасторавая арганізацыя, знішчаны многія элементы кампазіцыі, зруйнаваны палацы, замкі, малыя архітэктурныя формы, якасна змяніўся састаў насаджэнняў. Многія паркі здзічэлі і ператварыліся ў лесапаркавыя масівы.

Па-рознаму выкарыстоўваюцца ў нас старыя паркі. Яны пераўтвораны ў паркі культуры і адпачынку, дзіцячыя паркі, з'яўляюцца сядзібамі саўгасаў, тэхнікумаў, прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, дамоў адпачынку, санаторыяў, бальніц. Многім паркам пашанцавала на гаспадароў: у іх падтрымліваецца належны парадак, зялёныя насаджэнні рэгулярна даглядаюцца і аднаўляюцца. У некаторых жа парках каштоўныя пароды дрэў усё больш выцясняюцца гаспадарчымі пабудовамі, разбураюцца без догляду помнікі архітэктуры.

Вядома, разбурэнне, асабліва самых старых паркаў, працэс сам па сабе натуральны. Але ж яго можна замарудзіць ці прыпыніць, калі прыняць своечасова адпаведныя захады.

Цэнтральным батанічным садам АН БССР закончана інвентарызацыя і пярвічная ацэнка аб'ектаў, якія захаваліся і ўяўляюць сабой пэўную ландшафтна-дэкаратыўную ці дэндралагічную каштоўнасць і перспектыўныя для выкарыстання. Распрацавана інструкцыя па аднаўленню старадаўніх паркаў з выкарыстаннем адпаведных мер па іх кансервацыі, рэстаўрацыі і рэканструкцыі.

Як жа на практыцы ажыццяўляецца гэта інструкцыя? Прасочым гэта на прыкладзе самага вялікага ў рэспубліцы Нясвіжскага парку, што раскінуўся вакол былога замка Радзівілаў (цяпер санаторый «Нясвіж») на плошчы 108 гектараў. У гэтым унікальным парку рознымі майстрамі ў розны час сабрана вялікая калекцыя дрэў і кустоў (больш як 100 відаў). Парк узяты пад ахову дзяржавы, аб'яўлены помнікам прыроды рэспубліканскага значэння. І ўсё ж ён пачынае гінуць.

Улічваючы рэкамендацыі вучоных, Савет Міністраў БССР даручыў асобным міністэрствам і ведамствам прыняць адпаведныя захады для рэканструкцыі і зберажэння гэтага унікальнага помніка паркавага мастацтва. У 1982 годзе інстытут «Мінскпраект» склаў праектна-каштарысную дакументацыю (дарэчы, чацвёртую па ліку!) аднаўлення і рэканструкцыі Нясвіжскага парку. З таго часу дакументацыя «ходзіць» па інстанцыях, не ў стане пераадолець міжведамасныя межы і бар'еры. А пакуль Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі БССР, якому даручана ажыццяўляць праект, шукае падрадную арганізацыю, якая б змагла кваліфікавана весці работы па рэстаўрацыі помніка садова-паркавага мастацтва, сам помнік працягвае разбурацца. Запушчаны алеі і газоны старажытнага парку, пад паламанымі масткамі заплыў глеем і заціх ручаёк. І не відаць тут, як пісала газета «Мінская праўда» ад 16 красавіка 1986 года, ні прадстаўнікоў таварыства аховы прыроды, ні «зялёных», ні «блакітных» патрулёў, якія б маглі ўласнымі сіламі навесці ў парку элементарны парадак. Дый Нясвіжскі гарвыканкам вось ужо каторы год займае ў гэтым пытанні пазіцыю калі не старонняга назіральніка, дык арганізацыі, не надзеленай асаблівымі паўнамоцтвамі.

Не менш цяжкі лёс напаткаў і адзін з найбольш перспектыўных для выкарыстання Лошыцкі парк, які ўваходзіць у межы Мінска і мог бы стаць цудоўнай зонай адпачынку. Дзіўная рэч! Да гэтай пары горад ніяк не можа вызначыць гаспадара, які б узяў на сябе клопаты па захаванні і добраўпарадкаванні помніка садова-паркавай культуры. Чамусьці адмаўляецца ад яго і Беларускі навукова-даследчы інстытут бульбаводства і плодаагародніцтва, з якім мяжуе парк і ў якім размешчана адна з яго лабараторый.

Гэтыя абуральныя факты, на жаль, не адзінкавыя. І іх нельга замоўчваць, як нельга заставацца абыякавым да таго, што на нашых вачах гінуць помнікі зялёнай архітэктуры, якія маюць велізарнае навуковае і культурнае значэнне, з'яўляюцца найважнейшым сродкам эстэтычнага выхавання. Мы ж усе добра ведаем, што любоў да прыроды, да родных мясцін з'яўляецца неад'емнай часткай вялікага пачуцця любві да Радзімы, да Бацькаўшчыны.

**Анатоль ФЕДАРУК,**
**кандыдат біялагічных навук.**
**Фота Аляксандра ЛАБАДЫ**
**і аўтара.**



# УРОКІ ВЯЛІКАГА КРЫТЫКА

Нярэдка на нарадах, пасяджэннях і канферэнцыях, гаворачы пра крытыку, яе недахопы і задачы, успамінаюць імя В. Р. Бялінскага. Часам задаюць даволі рытарычнае пытанне: дзе наш Бялінскі ці хоць бы паў-Бялінскага?! Наўрад ці правамерныя такія пытанні. Кожны сапраўдны талент непаўторны. Кожная эпоха вылучае сваіх дзеячаў, якія служаць ёй, выяўляюць найбольш актуальныя праблемы і запатрабаванні часу. Рускай літаратуры ў свой час патрэбны быў А. С. Пушкін, у іншы час — Л. М. Талстой. Калі ж яна пачынала разбег па шляху крытычнага рэалізму, патрэбны быў і таленавіты крытык. І ён з'явіўся. Гэта быў В. Р. Бялінскі. А мог жа ён быць звычайным паэтам ці драматургам (пачынаў пісаць вершы, апублікаваў драму «Дзмітрый Калінін»), якога, магчыма, у наш час успаміналі б толькі гісторыкі літаратуры. Крытык жа В. Р. Бялінскі патрэбен нам, нашаму часу. Урокі яго творчасці і літаратурна-крытычнай дзейнасці павучальныя, неабходныя для нас.

За імя В. Р. Бялінскага доўгі час у філасофіі, эстэтыцы, літаратуразнаўстве ішла жорсткая ідэалагічная барацьба. Нам няма патрэбы спрашчаць яго ідэйныя і творчыя пошукі. Першы буйны артыкул «Літаратурныя мары» (дадатак да часопіса «Телескоп» — «Молва», 1834) быў напісаны яшчэ з неакрэсленых, шмат у чым ідэалістычных пазіцый. А потым быў складаны шлях ад ідэалізму да матэрыялізму, ад асветніцкіх ілюзій (у адпаведнасці з філасофіяй Гегеля — «усё існае разумна», г. зн. і тагачасная руская рэчаіснасць) да рэвалюцыйна-дэмакратычнай дзейнасці, страснай нянавісці да самаўладдзя і прыгонніцтва.

Найбольш плённы перыяд творчасці — праца ў часопісе «Отечественные записки» (з 1839 г.) і асабліва ў часопісе «Современник» (з 1847 г.), у якіх В. Р. Бялінскі вёў літаратурна-крытычныя аддзелы. Ён стаў, па вызначэнню У. І. Леніна, «папярэднікам поўнага выцяснення дваран разначынцамі ў нашым вызваленчым руху...» (Тв., т. 20, с. 223).

Як вынік сацыяльна-філасофскіх і літаратурна-эстэтычных пошукаў уяўляецца пісьмо В. Р. Бялінскага да М. В. Гогаля (1847), па словах У. І. Леніна, адзін «...з лепшых твораў бесцэнзурнага дэмакратычнага друку»... (Тв., т. 20, с. 223—224). Гэта страсны бескампрамісны пратэст супраць рэакцыйнай кнігі М. В. Гогаля «Выбраныя мясціны з перапіскі з сябрамі». Ярасна накінуўся крытык на любімага ім пісьменніка за згодніцтва з самаўладдзем, прыгоннікамі і славянафіламі, выклаўшы сваю праграму рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі, праграму знішчэння прыгонніцтва. Пафас пісьма — гэта вера ў рэвалюцыйныя духоўныя сілы рускага народа. Для напісання такога пісьма патрэбна была не толькі страсная бескампраміснасць, але і смеласць барацьбіта, бо гэта быў акт палітычнага характару, за які можна было паплаціцца пазбаўленнем волі...

А сёння? Гэта нікому не пагражае, але на старонках часопісаў і газет паранейшаму пераважаюць кампліментарныя артыкулы і рэцэнзіі, асабліва ў адносінах да жывых «класікаў», пісьменнікаў з пасадамі, званнямі... І выстройваюцца іх імёны ў такі звыклы рад, дзе кожнаму пісьменніку вызначана пэўнае парадкавае месца на ўвесь час жыцця, і парушыць гэты парадак лічыцца непрыстойнасцю, некампетэнтнасцю. Ці ўспомніў хто з нас, калі чытаў слабы твор вядомага, а то і любімага пісьменніка (здараецца і такое), пра пісьмо В. Р. Бялінскага. Стараемся не ўспамінаць, а працягваць хвалебную рыторыку ў друку, з трыбун, у адпаведнасці з няпісаным табелем пра рангі. Аб гэтай кампліментаршчыне, няшчырасці ў крытыцы прынцыпова і аб'ектыўна сказана ў Палітычным дакладзе ЦК КПСС XXVII з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза: «Літаратурна-мастацкай крытыцы пара скінуць з сябе заспакоенасць і чынашанаванне, якія раз'ядаюць здаровую мараль, памятаючы, што крытыка — справа грамадская, а не сфера абслугоўвання аўтарскіх самалюбстваў і амбіцый».

Варта помніць пра вопыт В. Р. Бялінскага і тады, калі імкнёмся спехам, апрыёрна вызначаць важнейшыя тэндэнцыі і заканамернасці літаратурнага развіцця. Далёка не заўсёды спраўджваюцца прагнозы нават вядомых крытыкаў і літаратуразнаўцаў: напрыклад, пра «стомленасць» сучаснай савецкай прозы пра вайну, пра «вычарпанасць» тэмы пра вёску, пра новы этап у развіцці савецкай літаратуры, які быццам бы пачаўся ўжо разам з 80-мі гадамі і г. д.

А вось В. Р. Бялінскі, глыбока адчуваючы заканамернасці і тэндэнцыі літаратурнага развіцця, патрэбы грамадскія і літаратурна-эстэтычныя, выявіў зараджэнне новага напрамку, па сутнасці, новага метаду ў літаратуры — рэалізму, хоць і не было тады гэтага тэрміна (ён з'явіўся праз некалькі гадоў у Францыі). Крытык пісаў пра натуралізм, «натуральную школу» ў аглядзе рускай літаратуры за 1843 год, падкрэсліваў, што сучасная яму літаратура паказвае рэальных людзей, а разам з гэтым — і грамадства, у якім яны жывуць. Паказваючы чалавека, пісьменнікі «імкнуцца выявіць прычыны, ад чаго ён такі або не такі»... (Поўны збор тв., т. VIII, с. 82). Па сутнасці, гэта быў прынцып рэалізму — узнаўленне тыповых характараў у тыповых абставінах.

Новы напрамак, «натуральную школу» В. Р. Бялінскі звязаў перш за ўсё з творчасцю М. В. Гогаля: у яго творах ён выявіў паэзію ў прозе жыцця, убачыў зварот да жыцця масы, жыцця «звычайнага чалавека». Найбольш выразна ён паказаў гэта ў артыкулах «Пахаджэнні Чычыкава, або Мёртвыя душы» (1842), «Тлумачэнне на тлумачэнне...» (1842), «Адказ «Москвитянину» (1847) і інш.

У з'яўленні «натуральнай школы» В. Р. Бялінскі бачыў вынік «усяго мінулага развіцця нашай літаратуры і адказ на сучасныя патрэбы нашага грамадства» (Поўн. збор тв., т. 10, с. 243). А ўжо ў 1848 г. ён доказна сцвярджаў, што гэты напрамак стаў галоўным у рускай літаратуры.

Такім жа праніклівым быў яго погляд і на рамантызм як напрамак на пэўным этапе гістарычнага і літаратурна-эстэтычнага развіцця, які з цягам часу паступова здаваў свае пазіцыі. Іншая справа — рамантыка ў літаратуры як яе пафас. Яна заўсёды жывіла і жывіць літаратуру (артыкул «Творы Аляксандра Пушкіна»).

Можна прыводзіць іншыя прыклады, якія будуць яшчэ і яшчэ раз сведчыць, што інтуіцыя, праніклівасць даследчыка грунтаваліся на высокай літаратурна-эстэтычнай культуры, на глыбокім даследаванні літаратурнага працэсу. Можна пэыгадаць сцверджанне, што прыйшоў час, калі ідэальная паэзія павінна саступіць галоўнае месца рэальнай прозе. Аб'ектыўны, тонкі аналіз творчасці А. С. Пушкіна, М. Ю. Лермантава, М. В. Гогаля дазволіў В. Р. Бялінскаму паказаць яе месца і ролю ў развіцці рускай літаратуры.

В. Р. Бялінскі па сутнасці стаў заснавальнікам новай, рэалістычнай крытыкі. Яго погляды на развіццё літаратуры непасрэдна звязаны з праблемамі яе дэмакратызацыі, з праблемамі народнасці, нацыянальнай самабытнасці, з грамадскім развіццём, вызваленчым рухам. Найбольш поўна і глыбока свае погляды В. Р. Бялінскі выказаў у артыкулах «Ідэя мастацтва» (1841), «Слова пра крытыку» (1842), у аглядах літаратуры — «Погляд на рускую літаратуру 1846 года» (1847), «Погляд на рускую літаратуру 1847 года» (1848) і інш.

Выступаючы супраць славянафілаў, якія субстанцыю народнага, нацыянальнага бачылі ў хрысціянстве, «саборнай любові», «пакорнасці», В. Р. Бялінскі імкнуўся раскрыць рэальны характар народнага і нацыянальнага ў літаратуры. І хоць вызначэнні яго не зусім дакладныя, канкрэтныя, усё ж галоўныя патрабаванні да сапраўды народных твораў выразныя: «...быць верным рэчаіснасці пры паказе і ніжэйшых, і сярэдніх, і вышэйшых саслоўяў», выявіць «рускі дух» (Поўны збор тв., т. 7, с. 439). «Сапраўды народнымі», «сапраўды нацыянальнымі» былі для крытыка творы А. С. Пушкіна, М. Ю. Лермантава, М. В. Гогаля. Ідэі В. Р. Бялінскага падхапілі і развілі далей рэвалюцыйныя дэмакраты 60-х гадоў.

Урокі В. Р. Бялінскага і рэвалюцыйных дэмакратаў — пісьменнікаў і крытыкаў — вучаць нас адрозніваць народныя творы ад падробак пад іх, калі за знешнім антуражам, за праўдападобнасцю, звычайным бытавізмам не выяўляюцца сапраўды народныя характары, надзённыя праблемы нашага жыцця, сацыяльны і эстэтычны ідэал пісьменніка. Вельмі важна, як адзначана ў Палітычным дакладзе ЦК КПСС XXVII з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, «каб здаровая цікавасць да ўсяго каштоўнага, што ёсць у кожнай нацыянальнай культуры, не ператваралася ў спробы адгарадзіцца ад аб'ектыўнага працэсу ўзаемадзеяння і збліжэння нацыянальных культур».

В. Р. Бялінскі заўсёды заставаўся суб'ектыўна сумленным крытыкам, нават калі і памыляўся. Прыгадаем, што «Казкі» А. С. Пушкіна ён лічыў псеўданароднымі. Ён жа асудзіў камедыю А. С. Грыбаедава «Гора ад розуму» за недастатковасць аб'ектыўнасці, але пазней адкрыта прызнаў сваю памылку. Ці часта сёння мы сустрэнем такую патрабавальнасць да сябе, як і да іншых? Рэдка хто здольны сярод нас на такое, каб сказаць, што я памыляўся і вельмі раскайваюся ў гэтым.

І ўсё ж В. Р. Бялінскі памыляўся рэдка. Ён па першых ужо творах распазнаў будучых таленавітых пісьменнікаў — М. В. Гогаля, М. Ю. Лермантава, І. А. Ганчарова, І. С. Тургенева, Ф. М. Дастаеўскага, А. М. Някрасава і г. д. У асобе В. Р. Бялінскага арганічна спалучаўся прынцыповы, бескампрамісны, строгі, нават ваяўнічы крытык з клапатлівым, зацікаўленым у плённым развіцці роднай літаратуры чалавекам. Ці заўсёды наследуем мы гэтыя якасці ў рабоце з маладымі пісьменнікамі, у ацэнцы іх першых твораў?

Творчасць В. Р. Бялінскага вельмі разнастайная ў жанравых адносінах. Будучы ўжо вядомым крытыкам, ён ніколі не грэбаваў напісаць рэцэнзію, нататкі, слова пра пісьменніка, рэпліку, адказ апаненту і г. д. Любое выступленне ў друку ён умеў выкарыстаць для таго, каб выкласці свае погляды, усімі магчымымі сродкамі адстойваць іх. Прыгадаем сённяшнюю аднастайнасць у крытыцы (артыкул ды рэцэнзія), нейкае пагардлівае стаўленне вядомых літаратуразнаўцаў да напісання рэцэнзій, асабліва газетных.

Ужо прайшло паўтара стагоддзя з пачатку крытычнай дзейнасці В. Р. Бялінскага, і пісаў ён усяго 15 гадоў са свайго кароткага, 37-гадовага жыцця (1811—1848) — падкасіў туберкулёз,— а лепшыя яго літаратурна-крытычныя творы жывуць, служаць агульнай справе, змагаючы за сапраўды мастацкую, народную літаратуру. Вопыт літаратара-барацьбіта вучыць нас аб'ектыўнай, глыбока навуковай крытыцы, вучыць быць сумленнымі, прынцыповымі, бескампраміснымі.

**Павел ДЗЮБАЙЛА.**

Леанід
ДРАНЬКО-МАЙСЮК

Гэта вершы з маёй другой кніжкі «Над пляцам». Яны складаліся пад уплывам жывапісу Шагала рэвалюцыйнага віцебскага перыяду і паэзіі маладнякоўцаў.
І першае і другое маюць не толькі часавую еднасць, але і адзіны эстэтычны накірунак вынайсці новае ў адлюстраванні дваццатых гадоў.

## *Віцебск. 1922*

«Картины Шагала в основном — сочетание смысловых построений, объединенных художественным единством в новое противоречие».

В. Шклоўскі,
з кнігі «Эйзенштэйн».

Да бруку ляцелі крыжы і цвікі,
Сцягі караблёў і ўчарнелыя ванты.
Не чулі, не бачылі вартаўнікі,
Як сноўдалі злодзеі і спекулянты.

Якія там зданіліся караблі,
Якія там сны залацілі дакуку —
Як золата,
Рэчы патрэбны былі,
Што валам ляжалі на віцебскім бруку.

Нічыйныя рэчы —
Аполкі, цвікі,
Загуслы пакост і ўчарнелыя ванты.
Ля жорнаў пахропвалі вартаўнікі —
Па чысты памол беглі ўноч спекулянты.

...І вось абступаюць дабро талакой,
Нішто не прапусцяць,
Усё падымуць,
І нават цацкі зламанай якой
Яны беспрытульнікам не пакінуць.

А ўранні,
Калі завірue базар,
А ў крамках яўрэйскіх запаляць аконцы,
Нагледзіцца гэты дарэмны тавар
На золата царскае і чырвонцы.

Цыраты, сурвэткі, алоўкі, цвікі
І двойчы ўжо тут называныя ванты
Купляе вядома хто — вартаўнікі,
І хто прадае не сакрэт — спекулянты.
Якое ў іх вока, якая рука...

Да іх падыходзяць з якімсьці пытаннем
Чырвонаармейцы з агітцягніка
І з блізкіх да Віцебска вёсак сяляне.

Дахаты пасунуцца вартаўнікі,
А ў нейкім закутку базарнага раю
Купляе Шагал малаток і цвікі
І слоікі з фарбамі выбірае.

Яму прапануюць найлепшы пакост,
Алей не з канапляў якіх, а з алівы,
Мядзведзеву шкуру і мамантаў хвост —
Звычайныя і незвычайныя дзівы.

Здзіўляюцца сонныя вартаўнікі,
Што ён выбірае з дарэмнага мноства
Цяжкі малаток і даўгія цвікі,
І фарбы,
Разведзеныя пакостам.

А нейкі марак пра сваё распавёў —
Пра ванты пытае,
Што складзены бантам,
З эпохі якой
І з якіх караблёў?..
Але на яго не глядзяць спекулянты.

Смяецца марак з іх,
Нібыта з варон:
«Вам лётаць нядоўга над полем, над гаем...
Я ж часу не маю...
Чакае вагон —
Да Петраграда дарога даўгая».

«Не трэба вагона,— азваўся мастак,—
Ён горшы за гэтыя поўныя высі.
Я раю вам шчыра, таварыш марак,
Да Петраграда па небу прайсціся.

І з воблака,
З вечнай блакітнай гары
Убачацца вам,
Што не бачацца доле:
Чырвоныя віцебскія муры
І ўсё беларускае наваколле...»

У кожнай складанасці ёсць прастата,
Якая звычайнай работай завецца,
І хто зразумее хоць раз мастака —
Да сэрца свайго і душы дакранецца.
Марак зразумеў,
Хоць гара мараку
Не хвалі ці бераг —
Ды справа такая:
Пайшоў па блакітнаму ён цаліку —
Да Петраграда дарога даўгая...

Падобны мастак да таго цесляра,
Які абуджае драўляныя струны
У аканіцах, у браме двара,
У кожным аполку,
Збіваючы труны.

У дужых руках малаток і цвікі,
І фарбы,
Разведзеныя пакостам,
У позірку —
Вуліцы, вартаўнікі
І Віцьба з канём,
Што ляціць па-над мостам.

Шчаслівы, бо ўнізе не чуе базар,
А ў небе —
З тужліваю думкай лунае,
Што той нешчаслівы,
Хто вечны цясляр,
Бо еднасці з пекнай красою не мае.

Рамесніцтва —
Пошук таксама красы,
Ды гэтай красе не навек заставацца,
А той,
Што пазначана знакам мастацтва,
Праз лёсы людскія прайсці і часы.

Вярнуцца да Віцебска з клічам,
Які
Узвіхрыць будзённасці шэрыя транты:
«Не спіце, лянівыя вартаўнікі,
Бо сноўдаюць злодзеі і спекулянты!»

## *Пляц Волі*

**(Успамін былога рабфакаўца)**

Спаткацца ў цукерні прыдумалі Вы,
Там шыльда з імбрычкам у місе,
Там крылы і мяккія лапы савы
З рагамі каровы спляліся.

А тут пра завод, пра плугі трактарам...
І дождж, нібы цемра на шыбы.
Аловак зламаны паперу араў,
Пасля забываўся на сшытак —

Абломаным краем пісаў па сталу,
Тупым па бліжэйшай шыбе.
І шкрэбат за мной без галёш у слату
На ганак рабфакаўскі выбег.

І вось я ў цукерні...
І змрок павуком
Снуе па забруджанай столі,
І шклянкі цукернік таўчэ кулаком,
Не адчуваючы болю.

На капялюшыку Вашым святло
І золь верасьнёвай вуліцы.
Праз пальцы цукерніка крышыцца шкло
І корак, як дробная груца.

Здаецца, і пальцы, як груца ў віне,
З абруса сцякуць на масніцы.
Цукернік няўцямна глядзіць праз мяне
На дзверы, сталы і паліцы.

Па ценю яго, на высозным гарбе,
Ці муха паўзе, ці хвароба.
Ён шкло на сваім расцірае ілбе,
Да столі ускінуўшы бровы.

Не толькі мяне, нават муху трасе
І кідае ўніз ліхаманка.
Чакаю, а колы дажджу пакрысе
Штурхае ў рыштох брукаванка.

Халоднае лісце сплывае туды,
Размоклы, абгрызены пернік,
Каштаны там нейкія ці жалуды
І словы, што кажа цукернік:

«Зусім не шкадую — хай бурыцца нэп,
Хай шыльдаў губляюцца крылы,
Хоць зараз аддам табе гэты мой склеп
З цукеркамі, дружа мой мілы.

А сам да людзей, як усе жабракі,
Ці дворнікам, спрыту ж даволі.
Хоць заўтра павешу
на дзверы замкі —
Пайду падмятаць пляц Волі!

Шкадую дачку, праз яе гэты боль...
Дзіця — а яно ж адзінае,
На што спадзяецца жабрак і кароль,
Страчаючы дні дамавінныя.

Дзіця ў капялюшыку з дому сышло
На вуліцу красагуліцца.
На капялюшыку гэтым святло
І золь верасьнёвай вуліцы».

Цукернік за пляшку бярэцца ізноў,
І кварта вінам набракае,
І ланцужок яго болесных слоў
У жмені рыштка заціхае.

А там, дзе дажджу ацяжэла крыло,
Ваш тварык уедліва хмуліцца.
На капялюшыку спее святло
І золь верасьнёвай вуліцы.

І ў гэту цукерню не зойдзеце Вы,
Дзе шыльда з імбрычкам у місе,
Дзе крылы і мяккія лапы савы
З рагамі каровы спляліся.

Дзе з Вашай гульні калыхаюся я
На моцнай падманнай вудзе.
Шкадую цукерніка, але ўдвая
Шкадую, што Вас тут не будзе.

Пра Ваша імя, можа, ў бацькі спытаць,
Прызнацца... ў каго закаханы,
Я гэты падман Вам хачу дараваць
І тыя, што будуць, падманы.

Пазнаўшы хлусівую душу здаля,
Да Вас, абнадзеены, рушу —
Скажу пра каханне сваё, а пасля
Да бацькі вярнуцца прымушу.

Калі ж у цукерні маркотна зусім —
Да нас, на рабфак запрашаю,
Па-над Беларуссю заводскі дым
Паплыве,
Над сялянскім краем!

Нам трэба вучыцца і працаваць
І новае бачыць наўкола —
Хутка, хутка па вуліцах празвіняць
Цяжкія трамвайныя колы.

І абломіцца дажджавое крыло,
І пагодным цяплом атуліцца
На капялюшыку Вашым святло
І золь верасьнёвай вуліцы.

І конаўка сонечнай сінявы
Напоўніць імбрычак у місе,
Каб з промнямі крылы і лапы савы
І рогі каровы спляліся.

# ФРАНЦЫСК СКАРЫНА І ЯГО ЧАС

Тытульны ліст кнігі «Ісус Сірахаў».


нига Ісуса Сирахова рекомая панаретосъ екклесиастикусъ или церковникъ. Зуполне выложе на рускый языкъ. Доктором францискомъ Скориною сполоцка

Так будзе названы аднатомны энцыклапедычны даведнік пра беларускага першадрукара, вучонага, асветніка і культурнага дзеяча, перакладчыка, пісьменніка і мастака-графіка эпохі Адраджэння Ф. Скарыну. Выданне прысвячаецца 500-годдзю з дня нараджэння слаўнага сына зямлі беларускай. Над ім працуе даволі моцны атрад беларускіх даследчыкаў, у які ўваходзяць доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт АН БССР А. І. Жураўскі, доктар філасофскіх навук У. М. Конан, доктар юрыдычных навук, прафесар І. А. Юхо, доктар гістарычных навук, прафесар В. У. Чапко, доктар гістарычных навук А. П. Грыцкевіч, кандыдаты навук С. А. Падокшын, Г. Я. Галенчанка, Г. У. Грушавы, В. І. Дарашкевіч, М. Ф. Спірыдонаў, В. Ф. Шматаў, В. А. Чамярыцкі і многія іншыя даследчыкі, што не маюць пакуль вучоных ступеней і званняў, але шчыра і актыўна працуюць над скарынінай, якая з'яўляецца выключнай з'явай у гісторыі культуры нашага народа і належыць усяму ўсходняму славянству.

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі з шчырай удзячнасцю адзначае сёння самы актыўны ўдзел у справе стварэння энцыклапедыі пра Францыска Скарыну вучоных Масквы, Ленінграда, Львова і ў першую чаргу дактароў гістарычных навук, прафесароў Я. Л. Неміроўскага, А. С. Мыльнікава, доктара гістарычных навук Я. Дз. Ісаевіча. Арганізацыйна работу па стварэнню даведніка ўзначальвае рэдакцыя ўсеагульнай гісторыі БелСЭ на чале з Г. К. Кісялёвым.

Перш чым прыступіць да непасрэднай падрыхтоўкі артыкулаў да такога адказнага і няпростага выдання, многія службы і супрацоўнікі БелСЭ ўдзельнічалі ў падрыхтоўчай рабоце. Яны распрацавалі методыку і структуру кнігі, вызначылі тэматыку яе раздзелаў, склалі слоўнік паняццяў і біяграфічных артыкулаў, вызначылі прынцыпы ілюстравання, адабралі і сістэматызавалі самі ілюстрацыі, арганізавалі і адмабілізавалі аўтараў, якім заказалі пэўныя цыклы артыкулаў згодна іх навуковым інтарэсам і дасведчанасці ў пэўных галінах скарыніяны.

Прайшоў не такі ўжо вялікі час, а ў рэдактарскім партфелі нашых супрацоўнікаў З. П. Кузьмічэнкі і В. В. Красновай сёння ўжо больш за 400 адрэдагаваных артыкулаў з планаваемай кніжкі.

Калі ўжо гаворка зайшла пра артыкулы, варта сказаць, што ўсіх іх у кніжцы будзе крыху менш за 800. Прыкладна столькі ж, а можа і крыху больш будзе ілюстрацый. Калі пра ілюстрацыі сказаць больш падрабязна, то асноўная большасць з іх бадай што будзе Скарынавых. Мы мяркуем змясціць у кнізе ўсе яго гравюры, усе застаўкі і канцоўкі, даць тытульныя лісты, развароты, здымкі саміх кніг. Апрача гэтага будзе мэтазгодным змясціць у кнізе факсімільныя адбіткі ўсіх старонак Скарынавых прадмоў і пасляслоўяў, якія найлепшым чынам вызначаюць светапогляд вучонага, мастака, перакладчыка, філосафа, патрыёта Францыска Скарыны.

Значнае месца ў ілюстрацыйным матэрыяле зойме мастацкая скарыніяна і кароткія даведкі пра мастакоў, што ўвасобілі вобраз асветніка ў выяўленчым і кніжным мастацтве, а таксама ў тэатры і кіно.

А зараз колькі слоў пра тэматычныя цыклы даведніка, хоць ён і будзе пабудаваны па алфавітнаму энцыклапедычнаму прынцыпу. Перш за ўсё варта сказаць пра нарыс, які дасць шырокую панараму жыцця і творчасці Ф. Скарыны, раскрые яго светапогляд, пакажа ўплыў асветніка на развіццё еўрапейскай культуры. Само сабою разумеецца, што ў даведніку будуць змешчаны грунтоўныя артыкулы (дарэчы, мы іх ужо маем у сваім выдавецкім партфелі) пра ўсе выданні Скарыны, а таксама даведкі пра бібліятэкі, дзе яны захоўваюцца. Даволі значнае месца зойме ў даведніку цыкл артыкулаў, у якіх аналізуецца вобраз Францыска Скарыны ў літаратуры і мастацтве Беларусі. Значнае месца зоймуць біяграфічныя даведкі аб вучоных-даследчыках, дзеячах культуры, мастаках, літаратарах, якія вывучалі ці вывучаюць спадчыну Ф. Скарыны, аб выдатных гістарычных асобах, філосафах, мысліцелях, якіх перакладчык і першадрукар упамінае ў сваіх прадмовах і пасляслоўях. Цікава чытачу будзе ведаць аб дзяржаўных дзеячах, буйных прадстаўніках сацыяльна-палітычнай, філасофскай, этычнай думкі скарынаўскага часу, якіх ён мог ведаць і якія маглі аказаць на яго свой уплыў. Асобае месца ў даведніку зоймуць артыкулы пра асяроддзе, у якім праходзіла станаўленне і праца Францыска Скарыны, пра паслядоўнікаў, пра развіццё ўсходнеславянскага, у тым ліку і беларускага кнігадрукавання.

Ёсць усе падставы сказаць, што і аўтары і выдаўцы скарынаўскай энцыклапедыі працуюць сур'ёзна, удумліва, без асаблівай спешкі, якая не рэдка шкодзіць справе, каб да слаўнага юбілею слаўнага сына беларускага народа пакласці перад чытачом грунтоўнае і поўнае даследаванне пра таго, хто заклаў першыя цагліны ў падмурак прафесійнай культуры свайго народа.

Для мяне асабіста праца над энцыклапедычным даведнікам «Францыск Скарына і яго час» — гэта другая сур'ёзная сустрэча са спадчынай Асветніка. Першай сустрэчай была работа над драмай «Напісанае застаецца». Тое, што ад гэтае работы засталося ў запісах, у памяці, у душы, зараз прыйшлося вельмі дарэчы. Адваяваўшы некалі невялічкі плацдарм на беразе скарыніяны, цяпер давядзецца прайсці па ўсім яе кантыненце. Справа няпростая і даволі адказная. Кніга павінна быць і поўнай, і грунтоўнай, і аб'ектыўнай. Вельмі шкада, што наша Акадэмія навук за гэтага часу так і не здолела, а магла б, арганізаваць грунтоўнае вучэнне архіваў і ў першую чаргу чэхаславацкіх, польскіх, нямецкіх, дацкіх на прадмет пошуку скарынаўскіх матэрыялаў і матэрыялаў, звязаных з яго жыццём і дзейнасцю. Што ні кажы, а карыстаемся мы ў асноўным (за невялікімі выключэннямі) тым, што было знойдзена ў канцы 19 і пачатку 20 веку. Зразумела, што да саракавых гадоў архівы названых краін для нас былі недаступныя. Але ж сёння?! Хіба можна сёння спасылацца толькі на тое, што ў нас няма лацыністаў, якія б маглі папрацаваць з фондамі 16 стагоддзя. Дарэчы, ёсць і лацыністы, і знаўцы іншых моў. Няма ахвоты. Ёсць інертнасць, нягледзячы на тое, што 500-гадовы юбілей Францыска Скарыны па рашэнню ЮНЕСКА будзе адзначацца ва ўсіх цывілізаваных краінах.

Дарэчы, калі гэтыя радкі былі напісаны, мы сустрэліся з Адамам Мальдзісам на адкрыцці ў БДУ імя У. І. Леніна выстаўкі графікі, прысвечанай жыццю і дзейнасці Францыска Скарыны. Выстаўка аказалася надзвычай цікавай. А тое, што паведаміў мне Адам Іосіфавіч Мальдзіс, сенсацыйным. Ні многа ні мала ён перадаў для БелСЭ польскі часопіс, які ўзяў інтэрв'ю ў пра... пра... пра... (не ведаю ў якой ступені) праўнука Францыска Скарыны — Станіслава Скарыны — прафесара, доктара медыцыны і біялогіі, вядомага хірурга, дырэктара Навуковага інстытута гастралогіі... у Манрэалі. Продкі Станіслава Скарыны таксама мелі справу з навукамі лекарскімі. Вось так! Значыцца, жывуць нашчадкі вялікага доктара з слаўнага горада Полацка! Значыцца, ёсць радаслоўная, ёсць звесткі, якіх мы не ведаем. Ёсць надзея, што мы іх будзем мець! Вось чаму я прашу рэдакцыю часопіса «Беларусь» дадаць гэтыя радкі да майго артыкула.

**Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ,**
**намеснік галоўнага рэдактара БелСЭ**

# ПРА БЕЛАРУСКІХ МОВАЗНАЎЦАЎ

І. К. Германовіч
БЕЛАРУСКІЯ МОВАЗНАЎЦЫ

Выдавецтва «Універсітэцкае» выпусціла ў свет кнігу нарысаў вядомага даследчыка гісторыі беларускага мовазнаўства Івана Германовіча «Беларускія мовазнаўцы. Нарыс жыцця і навуковай дзейнасці» (Мінск, 1985). Гэта першае ў беларускай лінгвістычнай літаратуры спецыяльнае навуковае даследаванне, прысвечанае вывучэнню творчай спадчыны найбольш выдатных беларускіх мовазнаўцаў XIX—XX стагоддзяў, якія ўнеслі значны ўклад у лінгвістычную навуку Беларусі. Дагэтуль у беларускім мовазнаўстве былі толькі асобныя артыкулы ці манаграфічныя нарысы аб навуковай дзейнасці таго ці іншага мовазнаўцы, артыкулы-агляды развіцця беларускай лінгвістычнай навукі за той ці іншы перыяд. Цэльных жа прац па гісторыі беларускага мовазнаўства да апошняга часу не было. Таму кніга І. Германовіча не мае аналагаў у практыцы беларускай лінгвістычнай гістарыяграфіі і набывае выключна важнае тэарэтычнае, навукова-практычнае і агульнапазнавальнае значэнне.

Апісваючы жыццёвы і творчы шлях вядомых вучоных-лінгвістаў, аўтар навуковай працы тым самым раскрывае і саму гісторыю ўзнікнення, шляхі развіцця і станаўлення беларускага мовазнаўства як асобнай галіны навукі. У гэтым вялікая заслуга даследчыка перад беларускай лінгвістыкай і гісторыяй айчыннага мовазнаўства ў цэлым. Ён першы, хто звярнуўся да гэтай праблематыкі, абагульніў і сістэматызаваў усё тое найбольш значнае і каштоўнае, што было ў беларускім мовазнаўстве на золку яго ўзнікнення і ў пазнейшы перыяд развіцця, і тым самым унёс важкі ўклад у беларускую гісторыка-бібліяграфічную лінгвістыку, у вывучэнне працэсаў фарміравання лінгвістычнай думкі ў Беларусі.

Структура кнігі простая і стройная па кампазіцыі. Яна складаецца з прадмовы і семнаццаці асобных артыкулаў-нарысаў пра жыццё, навукова-педагагічную і грамадскую дзейнасць розных мовазнаўцаў. Яе будова адпавядае ідэі і зместу працы, характару і мэтам даследавання, метадыцы разгляду матэрыялаў. Персаналіі даследавання размяшчаюцца ў храналагічным парадку. Кожны артыкул прысвечаны аднаму пэўнаму лінгвісту і ўтрымлівае надзвычай каштоўныя і змястоўныя звесткі пра жыццёвы і творчы шлях вучонага з далейшым глыбокім аналізам яго найбольш значных і менш даследаваных навуковых прац, у тым ліку і такіх, якія не друкаваліся і засталіся ў рукапісах. У артыкулах пералічваюцца сферы і галіны мовазнаўства, у якіх працаваў вучоны, адзначаецца ўклад, унесены ім у распрацоўку тых ці іншых праблем беларускай і агульнаславянскай лінгвістыкі, разам з тым разглядаюцца і слабыя бакі прац даследчыкаў, памылкі і недахопы ў іх вучэнні.

Артыкулы, змешчаныя ў кнізе І. Германовіча, вызначаюцца глыбінёй і аргументаванасцю думкі, навуковай дакладнасцю і пераканаўчасцю высноў. Цікава і змястоўна напісаны нарысы пра А. В. Багдановіча, І. К. Бялькевіча, І. В. Воўка-Левановіча, М. І. Каспяровіча, Е. Р. Раманава, А. К. Сержпутоўскага, М. В. Шатэрніка, П. М. Шпілеўскага. Падрабязна асвятляецца навуковая дзейнасць у галіне беларускага мовазнаўства М. Я. Байкова, Каруся Каганца, А. І. Крукоўскага, А. С. Саломеніка і іншых.

Чытаюцца артыкулы лёгка, бы творы мастацкай літаратуры, бо напісаны займальна і дасціпна, на высокім навукова-тэарэтычным і прафесійным узроўні. У іх не паўтараюцца звесткі, змешчаныя ў іншых літаратурных крыніцах, энцыклапедычных і бібліяграфічных слоўніках, паколькі задачы і мэты даследавання ў іх неаднолькавыя.

У канцы кожнага артыкула змяшчаецца поўны спіс прац вучонага і літаратура пра яго. Бібліяграфія змяшчае ў сабе і працы сумежных з мовазнаўствам дысцыплін, што асабліва карысна для чытачоў розных іншых спецыяльнасцей: этнографаў і фалькларыстаў, гісторыкаў і краязнаўцаў, літаратуразнаўцаў і работнікаў мастацтва.

Бясспрэчнай заслугай аўтара нарысаў з'яўляецца тое, што ім сабраны і выкарыстаны найбагацейшыя архіўныя матэрыялы, якія датычаць жыцця і дзейнасці розных мовазнаўцаў і захоўваюцца ў аддзелах рэдкіх кніг і рукапісаў многіх бібліятэк краіны.

Адшуканы шматлікія публікацыі, змешчаныя ў тагачасных часопісах «Наш край», «Узвышша», «Полымя», «Маладняк», «Савецкая краіна», «Савецкая школа», «Народная асвета», «Камуністычнае выхаванне», «Школа и культура Советской Белоруссии», «Вестник Народного комиссариата просвещения» (Минск), «Русский филологический вестник» (Варшава), «Исторический вестник», «Живая старина» (Санкт-Петербург)...

Можна не сумнявацца, што кніга нарысаў Івана Германовіча «Беларускія мовазнаўцы» знойдзе сваіх чытачоў.

Застаецца толькі пажадаць, каб пачатая справа мела свой працяг і аўтар навуковай працы прадоўжыў свой летапіс аб жыцці і дзейнасці многіх іншых мовазнаўцаў-філолагаў, якімі так багаты беларускі край.

**Аркадзь НАРКЕВІЧ.**

# ШАНУЙМА ЗВЫКЛАЕ СЛОВА

Хочацца, каб не забывалася тое, што ў нас было. Каб відно было тое, што ёсць, куды большае і багацейшае. Тым часам і ў мове.

**Слуцак, Полацак, Шацак, Клецак** — гэтак дома некалі ў нас называліся гарады. Якраз па закону мовы, калі пры збегу зычных (цк) паміж імі ставілася галосная «а» (цак), а пры пэўным павароце слова яна знікала: з **Слуцка, Полацка, Шацка, Клецка**. Гэтак гаварылася і **губеранскі**, але **губерня**, нават імёны: **Аляксандар**, але — **Аляксандра**. У гэтай традыцыі была нейкая асаблівая, каларытная характэрнасць. Ці ўсё з тае даўніны павінна бясследна забывацца? Гэта ж — гісторыя.

Усюды чытаю **шпіль**. Гэта вузкая, высокая надбудова канічнай формы. Паняцце будаўнічае, архітэктурнае. А ёсць **спічак**, з больш шырокім дыяпазонам: усё тое, што мае высокую, тонкую, завостраную форму. Нездарма паходзіць ад вострага прадмета — спіцы. Спічаком можна назваць вяршаліну яліны, калі яна мае завостраны **верх**. Звычайны высокі слуп, што вытыркае над другімі прадметамі, забытую тычку ў полі ці на лузе, нават будзёнаўскую шапку. У Паўла Ткачова, напрыклад, напісана: «На галаве спічастая шапка-будзёнаўка з вялікай чырвонай зоркай». Так што спічак і шпіль не тое самае, але выяўленчы характар у іх блізкі. Спічаком можна назваць і той самы шпіль, а наадварот — не скажаш, няма ў практыцы такога варыянта. І вось гэты спічак, хоць у яго большы дыяпазон, паціху знікае. Будаўнічая і архітэктурная папулярнасць бярэ верх. Ці ўзбагачае гэта нашу мову? Наадварот. Вінавата гіпноз моднасці?

Не так даўно мы ўсе пісалі мудрае, працавітае слова **сейбіт**, якім ганарацца ўсе падручнікі. І невядома, чым яно зганьбіла сябе, што паявілася яму замена: **сеяльшчык**. Пісалі **кавярня**, слова, учыненае натуральна ад **кавы** (па тыпу тутэйшых народных прадпрыемстваў — сталярня, ганчарня, спіжарня), і таксама невядома, чым яно сябе аканфузіла, што раптам прыйшлося замяньваць яго аж двума нетутэйшымі: французскім **кафэ** і іспанскім **кафетэрыем**, у якіх адразу чутна пазычанасць.

Уся класічная беларуская літаратура гаварыла звыклым народным словам **арганы**, якое адлюстравала ў прыгожым пісьменстве цэлую эпоху. Але турботы пра тое, каб спалучаліся даўніна і цяперашчына, у нас малыя: лягчэй стала пісаць **арган**. Тое самае робіцца і з **цягнікам**.

Усё жыццё пісалі, гаварылі, куплялі і спажывалі звычайнае наша **сала**, і раптам яно стала **шпікам**. Ва ўсіх магазінах на прылаўках стаяць таблічкі, на якіх пішацца: шпік салёны, шпік беларускі, шпік закусачны, шпік па-венгерску.

Можна толькі дзівіцца на ахвочасць падменьваць свае звыклыя словы чужымі. Атэлье. Аказваецца, слоўнік тлумачыць, што гэта наша майстэрня. Тая ўстанова, дзе шыюць адзенне, абутак, рамантуюць бытавую тэхніку, усякае начынне. Майстэрня мастака, скульптара, фатографа. Але мода не можа, каб звычайныя рэчы зваліся гэтак празаічна, ім трэба нетутэйшы бляск.

А яшчэ можна ўспомніць сэрвіс. Тыя самыя нашы паслугі, толькі прыхарошаныя нетутэйшым словам.

Усё гэта пішацца ў нашым перыядычным друку. І невядома, ад чаго гэта. Ад абыякавасці і нелюбові да мовы ці ад звычайнай непісьменнасці. Вунь жа якая індыферэнтнасць: пранікальнасць падменьваецца праніцаемасцю, кірмаш — ярмаркаю, вежа — башнёю, крыніца — ключом, кухонная соль — паваранаю соллю, падоскі — падвосінамі, кубак — чашкаю.

А яшчэ дзівіць такая не то смеласць, не то простае няведанне: прозвішча магната Вялікага княства Літоўскага Антонія Тызенгаўза перароблена на «А. Цізенгаўзена». Гэта падобна ўжо на спрэчку з навукаю, бо зусім няцяжка было б зірнуць у «Кароткую энцыклапедыю», том 5, стар. 608, каб напісаць гістарычнае прозвішча правільна, так, як усталявана гэта навукаю.

Як бы хацелася, каб з друкаваных старонак знікла свавольства, каб мы аднолькава шанавалі цяперашчыну і даўніну.

**Ян СКРЫГАН,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР,**
**заслужаны работнік культуры Беларускай ССР.**



*Да 190-годдзя Яна ЧАЧОТА*

**«Наваградскі замак» — адна з тых балад славутага беларускага паэта XIX стагоддзя Яна Чачота (пісаў ён і па-беларуску, і па-польску), якія паслужылі вялікаму Адаму Міцкевічу непасрэдным штуршком да стварэння яго «Балад і рамансаў» (1822), кнігі, што азнаменавала сабой нараджэнне на нашых землях новага літаратурнага напрамку — рэвалюцыйнага рамантызму. У аснову сваёй балады Я. Чачот палажыў як рэальныя гістарычныя падзеі, звязаныя з вайной са шведамі, так і народныя паданні і вусныя расказы старых людзей, напрыклад, пра злачынствы шведаў на Беларусі.**

# Наваградскі замак

БАЛАДА

1

Ёсць людзі, якія нічога убачыць
У свеце не ўмеюць душою.
Як вокам схопяць, так і тлумачаць
Усё, нават «дзіва» любое.
А іншыя толькі душы сваёй зрокам
На свет і глядзяць мігатлівы.
Там бачаць, дзе пуста,
дзе ўсё-ўсё пад змрокам,
І ўсюды ім мрояцца дзівы.

2

Каб гэтакіх я памірыў між сабою
(Не раз чуў між імі я звады),
Каб унаравіў ім хоць гэтай сваёю
Баладай — быў вельмі б я рады.
О божа, зміры іх — забудзьма
праклёны!
Хай з розумам сэрца сябруе:
Вы верце, калі што вам
кажа вучоны —
Збірае ён мудрасць людскую.

3

Было гэта ў горадзе
слаўным Міндоўга —
Вякоў найдалёкіх здарэнне:
На Замкавай ціхай гары
калісь доўга
Я слухаў сцен даўніх каменне.
Дзве вежы вякі тут
збіраюць на веча —
Паслухаць іх спыніцца кожны.
Руіны царквы ажываюць
штовечар —
Ад зданяў трасецца набожны.

4

Дзе продкі калісь —
не зайздросцьце іх долі —
У войнах сцякалі крывёю,
Студэнцкія нашы гады у сваволі
Прабеглі сваёй чарадою.
Мы ведалі мячык ваўняны —
не кулі,
Палянты ўсяго — не гарматы.
Гулялі, вясёлыя, дзе ў каравуле
Калісьці стаялі салдаты.

5

Калі яшчэ пры Казіміры Яне
Прыйшоў сюды Карл шалёны
І ўзяўся паіць дол крывёю, паганец,
Знішчаючы нашы плямёны,
А цар з усходу ліў кроў таксама,
Пакуль з Чарнецкім не стрэўся,
О колькі гора вось тут, дзе замак,
І далей наш люд нацярпеўся!

6

І сёння расказваюць людзі старыя,
Як шведы людзей нашых клалі
На воз, бы снапы, і жардзінай,
ліхія,
Як толькі маглі, прыціскалі.
А дзетак маленькіх стаўлялі
за лавы
І лавай давілі пад крык іх.
Такія во страшныя гулі-забавы
Былі у тыранаў тых дзікіх.

7

Напэўна, яны мелі цвёрдыя сэрцы,
Паўночныя тыя гіены.
На сорам роду свайго, людажэрцы,
Такія ўчынялі тут сцэны.
Дасюль у зямлі нашай
скарбаў нямала —
Хто кожны ўскапае дзядзінец?
Рука іх чыясьці у спеху хавала,
Калі лютаваў тут чужынец.

8

У час, як пад Слонімам
віў з маскалямі
Чарнецкі свой рэй неласкавы,
Дым па-над Навагрудкам
віўся клубамі,
Людзей выразаў швед крывавы.
Той замак здрады не ведаў ніколі,
Ды сталася раптам такое,
Каліаднойчы каханне міжволі
Укралася ў сэрца ліхое.

9

У шведку адну быў сам
князь закаханы —
А быў палкаводцам у краі.
Ах, ганьба таму, хто,
пачуццям адданы,
Свой край на дзяўчыну мяняе.
Каханка першая наша — айчына,
Ёй служым, яе мы шануем,
Ну, а другая — вядома ж,
дзяўчына,
Якую кахаем, мілуем.

10

Ужо тая хітрая шведка, якую
Так князь пакахаў безгаловы,
З сваімі на тайнай нарадзе мяркуе,
Як выманіць князя са сховы.
І вось абяцае яму, што да шлюбу
З ім пойдзе, калі ён здасць замак,
Які аніколі не дасць яна ў згубу,
Навагрудак людны таксама.

11

Не знаю, адкуль ён, з якога
ён роду —
Відаць, не літвін, не з палякаў:
У нас і не бачылі гэтакіх зроду —
Хутчэй з чужаземных ваякаў.
Ён шведам замак аддаў без бою,
І вось яны замак руйнуюць.
Ваду, што яго амывала сабою,
Спусцілі — ўсё нішчаць, рабуюць.

12

Тут сёння шкілет толькі
замка здалёку
І ўбачыш. На доле — гармата.
Маленькі струмень яшчэ
сочыцца збоку.
О божа, якая то страта!
З жалем абломак той навагрудчане
З долу наверх ускацілі.
І тая з бронзы гармата стане,
Дзе земства ў гэтай во хвілі.

13

Прахожы, ты бой гэткі жорсткі,
крывавы
Адно на паперы мо бачыў.
Калі пачынаеш ты важныя справы,
Зарок дай шчыры, гарачы:
Жыць вечна ў згодзе, калі ж
са звадай
Палезе сусед незычлівы,
Хоць не засмуці анікога ты
здрадай —
Ці ж здрайца будзе шчаслівы?

14

А вы, о людзі, якім зычу згоды,
Паверце мне, хоць не стары я:
Роў гэты высах у даўнія годы
Праз шведкі той чары ліхія.
Як чуў, вам паведаў пра
гэтыя дзівы —
У сметнік жа кіньце ўсе звады!
Калі б паміры́ў я вас,
быў бы шчаслівы,
Я вашай бы згодзе быў рады!

**Пераклад з польскай Кастуся ЦВІРКІ.**

Беларускі рэспубліканскі літаратурны музей...

Пра яго загаварылі параўнальна нядаўна. І не таму што такі музей адчыніўся, а таму што падаспеў час яго засноўваць. Гэта адпавядае натуральнаму працэсу развіцця нашай літаратуры. Вопыт музейшчыка мне падказвае, што ўжо даўно пара мець такі музей на Беларусі, прынамсі, ён мог адчыніцца гадоў 25 назад. Пры добрай арганізацыі і пры сумленных зборах матэрыялаў як шмат мы маглі б мець таго, што на сённяшні дзень лічыцца страчаным або амаль страчаным.

Зараз мы толькі спрабуем паправіць справу. І хто яе паправіць? Дзе тыя гарачыя сэрцы энтузіястаў? Патрыётаў музейнай справы да балеснага мала.

І мне здаецца, што гэта нікога асабліва не турбуе ні ў абласных упраўленнях культуры, ні ў самім Міністэрстве культуры. Я ніколі не чуў, каб на якім-небудзь узроўні хто-небудзь абуджаў людзей да арганізацыі рэспубліканскага літаратурнага музея. Наадварот, калі такая ідэя знізу падказвалася, то яна тут жа і «кансервавалася». У нашай суседкі — Літвы існуе Літаратурны музей Літоўскай ССР з пяццю філіяламі. Там вядзецца вялікая збіральніцкая і даследчыцкая работа, што спрыяе захаванасці помнікаў літаратуры і забяспечвае надзейнае дзяржаўнае захаванн...

# АБАРАНІЦЬ

Ніколі не забудуся пра тую абструкцыю, якую мне наладзілі былы начальнік Мінскага абласнога ўпраўлення культуры за тое, што я падняў голас у абарону хаткі ў Нізку, у якой нарадзіўся вядомы паэт Паўлюк Трус. На вялікі жаль, ён тут аказаўся не такі ўжо і адзінокі, той начальнік. Не пачулі, а дакладней, не захацелі пачуць мой голас іншыя зацікаўленыя асобы. А між тым, сялянская хатка паэта патрабавала догляду. Калі браць наогул літаратурныя мясціны Беларусі, то многае застаецца на ранейшым узроўні. Выключэнне хіба складаюць мемарыяльныя запаведнікі Я. Купалы і Я. Коласа. Праўда, у апошнія гады да Вязынкі ўсё больш упарта падсуседжваюц... дачнікі. Ва ўсякім выпадку пей... па другі бок чыгункі ў апошнія гады змяніўся...

Мне могуць выставіць аргумент, што літаратурныя раздзелы ёсць у абласных і раённых краязнаўчых музеях. Але якія яны? Палажыўшы руку на сэрца, магу сказаць, што не такія яны ўжо і багатыя, тыя палоскі экспазіцыі. Возьмем хоць бы Гомельскі абласны краязнаўчы музей, не бедны экспанатурай, але з мізэрным літаратурным раздзелам, хоць сам музей часам не ў меру захвальваюць. Нельга сказаць, што на высокім узроўні экспазіцыі ў Мінску, Барысаве, Ваўкавыску. Ці не таму цікавей глядзяцца экспазіцыі літаратурных музеяў у Гудзевічах, Валеўцы, Цімкавічах, дзе працуюць энтузіясты-краязнаўцы. І наадварот. Варта было адысці ў нябыт В. К. Ванчукевічу, як яго музей у Чапялях, што ў Салігорскім раёне, паціху стаў здаваць свае пазіцыі. Значыць, у музеі павінны быць энтузіясты. Іх трэба шукаць, як і унікальныя экспанаты.

Музейная справа на Беларусі не такая ўжо і бедная, са сваёй

гісторыяй. Ужо ў XVI стагоддзі зафіксаваны былі першыя калекцыі і нават «кабінеты» старажытнасцей. У пазнейшыя часы гэта стала прэстыжным захапленнем. У некаторых замках, палацах, манастырах захоўваліся помнікі пісьменнасці: манускрыпты і кніжныя фаліянты. Усё гэта належала мецэнатам. Пераход у спадчыну часта адбіваўся на захаванасці унікумаў. Прыкладам можа служыць храптовічаўская калекцыя ў Шчорсах і Вішневе і інш. Справа захавання помнікаў ва ўсе часы заставалася праблематычнай. У сілу палітычных акцый 60-х гг. XIX стагоддзя не выканаў сваіх функцый захавальніка і Віленскі музей старажытнасцей, дзе былі сканцэнтраваны рэдкасныя матэрыялы братоў Тышкевічаў з Лагойска, а таксама калекцыі А. Кіркора, У. Сыракомлі і інш. Дарэчы, туды здаў свае знаходкі гімназіст Ф. Багушэвіч, будучы паэт.

Пасля вайны існавалі толькі чатыры музеі. Тады трэба было аднаўляць многае, і ўсе разумелі цяжкасці часу. Усё ж заснаваўся музей Я. Купалы, а ў 1956 годзе і Я. Коласа. Нядаўна да сям'і літаратурных устаноў далучыўся музей П. Броўкі. З вялікімі цяжкасцямі нараджаецца музей М. Багдановіча. А што далей?

Ці не занадта доўга зацягнулася валакіта вакол адзінай літаратурнай сядзібы XIX стагоддзя ў Кушлянах? Неўзабаве — 150-годдзе з

# І ЗАХАВАЦЬ

дня нараджэння Францішка Багушэвіча. Ужо праводзяцца тут дні паэзіі, але гэта вельмі саматужна. І тут зусім нельга зразумець пазіцыі Гродзенскага абласнога ўпраўлення культуры, а заадно і абласнога музея. Складваецца такое ўражанне, што нехта спецыяльна адцягвае час, каб зафіксаваць поўнае разбурэнне Багушэвічавай хаты і на тым кропку паставіць. Стары вартаўнік сядзібы Міхаіл Ляпеха абівае парогі начальства, а зруху ніякага няма. Дык як жа і дзе будзе адзначана памятная літаратурная дата ў 1990 годзе? Застаецца толькі чатыры гады...

На наш погляд, галоўным каардынатарам літаратурна-мемарыяльнай справы і павінен стаць такога профілю рэспубліканскі музей, у які, трэба спадзявацца, прыйдуць працаваць сумленныя людзі. Энтузіясты. Патрыёты.

Хочацца верыць, што некалькі іншымі стануць і адносіны зацікаўленых інстанцый, бо мы добра ведаем выключнае выхаваўчае значэнне музеяў, у тым ліку і літаратурных. Прыклад тут ёсць з каго браць. Зрэшты і ў нас ужо ёсць свой пэўны вопыт, не адмовяць падзяліцца ім і адпаведныя музеі Расіі, Украіны, Літвы...

Часта ўсё зводзіцца да таго, дзе размясціць будучы музей. Тут таксама трэба разумна ацаніць нашы магчымасці ў выкарыстанні помнікаў архітэктуры і не толькі Мінска, але і іншых гарадоў Беларусі. І не бяда, што напачатку давядзецца панесці нейкія выдаткі, вытрымаць арганізацыйныя цяжкасці, каб пасля страчанае вярнулася з лішкам. І каб не паўтараць адвечнае: скупы траціць двойчы, варта паскорыць справу адкрыцця рэспубліканскага літаратурнага музея.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

ЗНАХОДКІ

# АЖЫЛІ РАДКІ



**На фотаздымку: першы справа — Францішак Багушэвіч, другі злева — адзін з першых расійскіх марксістаў Габрыель Радзевіч.**

**Фота з архіва аўтара.**

У канцы ліпеня 1897 года Францішак Багушэвіч разам яшчэ з васьмю сваімі віленскімі аднадумцамі зрабіў вядомае ўсім воднае падарожжа па Віліі ў Коўна. Пра гэтае падарожжа адзін з самых блізкіх Багушэвічу прыяцеляў Зыгмунт Нагродскі згадвае так. «На лодках паплылі: Фр. Багушэвіч, ягоны сваяк Габрыель Радзевіч, Зыгмунт Нагродскі, Аляксандр Давідоўскі (мянушка Ротмістр), Станіслаў Булгароўскі, Напалеон Роўба, Зыгмунт Пацкевіч, урэшце два матурысты: Баляслаў Швэнгрубэн і Вацлаў Макоўскі. Едучы, спыніліся ў Кярнове ў арт(ысты) — маляра Русецкага, дзе прылучыўся да экскурсіі вучыцель Слівінскі з Пецярбурга. Адначасна з экскурсіяй на лодках прыехала ў Коўну цягнікам каля дваццаці віленскіх польскіх дзеячаў. Ковенскае грамадзянства вельмі шчыра прыняло гасцей. На гары Напалеона (непадалёку ад места) быў зладжаны пікнік, на якім прывітаў прыезных палымянай прамовай ковенскі адвакат Міхаіл Юновіч. Адказаў яму вельмі прыгожа Напалеон Роўба. Тады шмат хто прамаўляў на бягучыя нацыянальна-палітычныя тэмы...»

Гэтак падрабязна мы працытавалі вытрымку з успамінаў Зыгмунта Нагродскага пра вандроўку віленскай дэмакратычнай інтэлігенцыі ў Коўна не выпадкова: праз шмат гадоў знайшоўся фотаздымак з той пары, з той незабыўнай вандроўкі, і мы цяпер маем магчымасць на свае вочы пабачыць усіх, хто ў ліпені 1897 года разам з нашым песняром рушыў на лодках у нялёгкае, але вельмі рамантычнае падарожжа. Вось усе яны дзевяцера. Зняліся ў часе прыстанку на якімсь крутым пагорку, каля дрэва-вываратня. Пераважна гэта ўсё малады людзі. Амаль усе апрануты па-дарожнаму, па-летняму лёгка, у белых кашулях. Толькі двое з іх у касцюмах-гарнітурах і пры гальштуках. На жаль, іх нам пакуль не ўдалося апазнаць. Затое дзве іншыя асобы — ды яшчэ якія — адкрыліся нам адразу. І найперш — наш пясняр Францішак Багушэвіч. Ён першы справа, паўляжыць, як належыць вандроўніку пасля цяжкага пераходу, на зялёнай траве. На галаве ў яго неразлучная любімая белая шапачка-панамка. Яна крыху збілася набок. Паэт у добрым настроі. Аблічча свеціцца здароўем. Аб'ектыву ён не пазіруе. Позірк яго скіраваны на суседа побач — на аднаго з тых матурыстаў (абітурыентаў), пра якіх згадвае ў сваіх успамінах Зыгмунт Нагродскі. Здаецца, паэт нават штосьць яму гаворыць.

Другі, хто нам даволі лёгка адкрыўся, быў Габрыель Радзевіч, той самы Радзевіч, які разам са сваёй жонкай Юляй у канцы васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя заснаваў у Пецярбурзе адзін з першых марксісцкіх гурткоў, пашыраў сярод піцерскіх рабочых ідэі Карла Маркса. На знойдзеным здымку Габрыель Радзевіч другі злева. Безумоўна, хацелася б аканкрэтызаваць і іншых удзельнікаў вандроўкі. Усе яны Багушэвічавы прыяцелі, яго сімпатыкі. Усе яны вартыя нашай увагі. Вядомыя нам і іхнія імёны. Але для апазнавання іх нам не стае адпраўных здымкаў, дакументальна выверaных, якія б дапамаглі нам звесці ў адно імёны з выявамі людзей. Думаецца, агульнымі намаганнямі даследчыкаў нам гэта ўдасца неўзабаве зрабіць...

Вандроўка па Віліі і Нёмане доўжылася амаль цэлы тыдзень. Яна зрабіла вялікае ўражанне на Ф. Багушэвіча і яго сяброў. Наш паэт прывёз з падарожжа цэлую нізку вершаў. Шмат у яго было цікавых сустрэч. Адну з іх ён апісаў у вершы «Сабраўшыся на тры чоўна». Але гэтая вандроўка мела для паэта і фатальны вынік. Па дарозе ў Коўна ледзь не ўтапіўся згаданы тут матурыст Швэнгрубэн. Гэта вельмі падзейнічала на песняра. З ім, згадвае Зыгмунт Нагродскі, зрабіўся нібы нервовы шок. У той жа дзень паэта падпільнавала і яшчэ адна бяда. Ён застудзіўся (начаваў на лужку, пад чыстым небам) і ў яго пачалася хвароба нырак, якая звяла Багушэвіча заўчасна ў магілу. На знойдзеным жа здымку, як мы ўжо казалі, наш пясняр яшчэ пры поўным здароўі. З яго душы праменіцца аптымізм, сіла, бадзёрасць. Ён, як згадвае яшчэ адзін удзельнік гэтага падарожжа — Напалеон Роўба, паказваў маладым у паходзе прыклад мужнасці, вытрымкі, настойлівасці. Сваімі дасціпнымі жартамі ажыўляў самых зморaных, самых стомленых. Здаралася, што Францішак на сваёй лодцы вырываўся далёка наперад — плыў ён разам з Габрыелем Радзевічам — і даганялі іх толькі апоўдні.

І апошняе. Знойдзены здымак, думаецца,— не адзіны з той вандроўкі. Мабыць, іх была цэлая серыя і шукаць іх найперш трэба, пэўна, у архівах непасрэдных удзельнікаў падарожжа. Прынамсі, здымак, пра які ў нас ідзе гаворка, напачатку, як мы маркуем, належаў Зыгмунту Нагродскаму, а ўжо ад яго патрапіў у колішні Віленскі беларускі музей. Перакананы, далейшая расшыфроўка фатаграфіі дасць нам новыя звесткі не толькі пра асоб, якія зняты на ёй, але дапаможа нават вызначыць месца, дзе быў зроблены гэтыя здымкі.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

АНКЕТА

ШТО ПАКІНЕМ У СПАДЧЫНУ?



# Наш патрыятычны абавязак

Напэўна, не толькі мне, але і кожнаму з маіх калег — мастакоў цяжка было б некалькімі словамі выказаць сваё адносіны да культурнай спадчыны. Хіба толькі вось гэтымі радкамі:

> *И храм старины, удивительный, белоколонный,*
> *Пропал, как виденье, меж этих померкших полей,—*
> *Не жаль мне, не жаль мне растоптанной царской короны,*
> *Но жаль мне разрушенных белых церквей!..*

Гэта словы Мікалая Рубцова. Гэта боль чалавека за зямлю, якая яго нарадзіла, за нашу нацыянальную культуру. А мы перад ёй у неаплатным даўгу.

Што ж такое наша культура? Гэта — Пушкін і Леў Талстой, гэта Ламаносаў і Мікалай Вавілаў. Гэта храм Пакрава на Нерлі і царква ў Сынкавічах. Гэта — Кастрычніцкая рэвалюцыя і сацыялізм. Культура — тое, што вызначае веліч народнага генія, захоўвае душу народа, вянец славы яго. Гэта — вечная крыніца, традыцыя, без якой няма і быць не можа будучыні.

Помнікі дойлідства захоўваюць у сабе высокія памкненні продкаў нашых, майстэрства іх рук, тонкі густ і веды. Веліч духу.

Дык чаму ж і раней і цяпер разбураюцца сцены храмаў нашай памяці? У чым прычына?

Чаму гэта адбываецца, калі з першых дзён сваіх Рэвалюцыя абвясціла помнікі гісторыі і культуры нацыянальным набыткам, ахову і захаванне іх — патрыятычным абавязкам?

Давайце прыгадаем: кожны помнік разбураўся па сваёй, толькі яму аднаму характэрнай прычыне. Гэта былі і вайна, і невуцтва, і неабдуманасць, і злосны намер. А апраўданне было адно — барацьба са спадчынай «праклятай мінуўшчыны». Але ж «праклятая мінуўшчына» — гэта эксплуатацыя чалавека чалавекам, а помнікі — гэта іншае. Ці ж можна набыткі сваёй Айчыны называць праклятымі?

І ўсё ж большая частка помнікаў гісторыі і культуры загінула па віне архітэктараў. Яны прысвоілі сабе права адзіных заканадаўцаў густаў. І, дагаджаючы буржуазнаму канструктывізму, адмовіліся ад нацыянальных традыцый.

Дэградацыя гарадскога асяроддзя выклікае псіхічныя і фізічныя расстройствы. Гарадскія зоны перастаюць адпавядаць жыццёвым запатрабаванням чалавека. Пазбаўлены характва горад робіцца безаблічным, ён пазбаўляецца гістарычнай, ідэалагічнай і эстэтычнай інфармацыі, без якой немагчыма духоўнае фарміраванне чалавека.

Абліччa горада, якое стваралася стагоддзямі, разбураецца пад прэсамі шматпавярховых будынкаў. Бетонныя джунглі ўсюды аднолькавыя — што ў Беларусі, што ў пустынях Сярэдняй Азіі. Гётэ некалі пісаў: «У кепска пабудаваным горадзе... жыхары, самі таго не падазраючы, жывуць у пустыні змрочнага існавання».

І калі горад будуюць, ахвяруючы помнікамі гісторыі і культуры,— будуюць не горад, а жылплошчу.

Прывяду толькі адзін прыклад. Найноўшы. У Мінску зараз фарміруецца ансамбль Кастрычніцкай плошчы. А манумент Кастрычніцкай рэвалюцыі архітэктары маюць намер узвесці за трыбунамі, на месцы гістарычнага сквера. Гістарычнага не толькі для Мінска — для ўсёй Беларусі.

Не буду яшчэ раз паўтараць, з чым звязаны гэты сквер у нашай памяці. Сутнасць у тым, што рашэнне, якое пагарджае гісторыяй горада, заганнае ва ўсіх адносінах. Узводзіць манумент не на плошчы, а за ёй — нетрадыцыйна. Але традыцыя не стэрэатып, а ісціна. А яе нельга адкінуць убок.

Галоўны і, па сутнасці, адзіны доказ архітэктараў наступны: манумент Кастрычніцкай рэвалюцыі будзе засланяць Палац культуры рэспублікі, які ўвасабляе змест Кастрычніцкай плошчы. Але ж манумент і ўвасабляе сабой галоўны змест ансамбля! Менавіта ён, а не Палац прафсаюзаў, аблвыканком або Палац культуры рэспублікі, які будуецца на плошчы, павінен несці высокі ідэйны сэнс. Да манумента — не да будынкаў, не да трыбуны — павінны звяртацца душы людзей. Гэта і ёсць традыцыя, гэта і ёсць загад часу.

Культурная дзяржава захоўвае, узбагачае і паляпшае сваю спадчыну, ператварае ў свае набыткі ўрокі, атрыманыя ад сусветнай культуры. Але навошта ж іншы раз мы бяром урокі ў пошлай, гаворачы словамі Льва Талстога, свінскай заходняй цывілізацыі? У архітэктуры і жывапісе, кінематографе, тэлебачанні, у вопратцы, нарэшце...

Гэты шабас брыдоты выклікаў да жыцця абывацельшчыну, з яе бясконцай прагай спажывання. Мяшчанскае мысленне нівеліруе розумы і душы людзей, абясцэньвае нацыянальныя святыні. Самазадаволенасць і невуцтва губяць здзяйсненні продкаў. «Невуцтва — гэта дэманічная сіла, і мы асцерагаемся, што яно будзе прычынай яшчэ многіх трагедый»,— пісаў Карл Маркс.

Для таго, каб надалей на нашай зямлі жыў народ, а не насельніцтва, наш абавязак — пераадолець самазадаволенасць, невуцтва і злісці нейтралітэт некаторых мярзотнікаў. І захаваць тое, што яшчэ магчыма.

Зараз у рэспубліцы на ўліку амаль 1800 помнікаў гісторыі і культуры. З іх узята пад дзяржаўную ахову прыкладна трэцяя частка. Лёс нашай культурнай спадчыны выклікае асаблівую трывогу. Што азначае сёння ўзяць пад дзяржаўную ахову? У асноўным гэта зводзіцца да ўстаноўкі ахоўнага знака. А знак гэты ўспрымаецца як пасведчанне аб нічыйнасці помніка. З усім, што адсюль вынікае.

Стала відавочнай неабходнасць стварэння арганізацыі, якая будзе адзіным гаспадаром усіх помнікаў — і ўзятых пад ахову, і не ўзятых. У адпаведнасці з артыкулам 21 Закона аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры арганізацыя гэта павінна быць гаспадарчаразліковай. Яна павінна мець цэнтралізаваную сетку тэхнічна аснашчаных рэстаўрацыйных майстэрань і службу кансервацыі. Яна ж павінна будзе займацца і выяўленнем новых помнікаў.

На маю думку, вельмі неабходна аб'явіць гісторыка-архітэктурнымі і гісторыка-археалагічнымі запаведнікамі цэнтры гарадоў Гродна, Мінск, Магілёў, Мсціслаў, Полацк, Пінск, Нясвіж, Навагрудак і Слонім, якія склаліся гістарычна.

Без культуры, без мастацтва чалавецтва не змагло б сфарміравацца і развівацца. Мы рухаемся наперад дзякуючы сіле традыцый, дасягненняў і адкрыццяў мінулага. Мы бачым далей таму, што «стаім на плячах гігантаў». І таму без мінулага няма і не можа быць будучыні. Вось чаму ашчаднае захаванне спадчыны — патрыятычны абавязак кожнага. А ён — як сумленне, не дзеліцца на часткі розных вартасцей: на тыя, за якія спытаюць, і на тыя, за якія не пытаюцца.

**Міхаіл САВІЦКІ,**
**народны мастак СССР,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета БССР**

**П**олацк — самы старажытны на тэрыторыі Беларусі і адзін з самых старажытных і некалі магутных у славянскім свеце гарадоў — упершыню ён згадваецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862 годам.

На ўвесь славянскі свет грымела адсюль слава легендарнага князя Усяслава Чарадзея, апетага ў «Слове пра паход Ігаравы». Гэта па яго волі нашы таленавітыя продкі-майстры ўзвялі ў далёкім адзінаццатым стагоддзі Сафійскі сабор, на сённяшні дзень — самы старажытны на Беларусі помнік дойлідства. Полацкая Сафія — малодшая сястра Кіеўскай і Наўгародскай. Збудаваць такі велічны храм магло толькі вельмі магутнае і багатае княства, у якім былі створаны пэўныя ўмовы для развіцця матэрыяльнай і духоўнай культуры. Не выпадкова менавіта Полацк даў першую ў гісторыі славянства жанчыну-асветніцу.

Храм Спаса, узведзены ў тым дванаццатым стагоддзі палачанінам Іаанам,— сама дасканаласць архітэктурнай думкі. А арганічнае зліццё яго з навакольным ландшафтам — сведчанне высокаразвітога адчування нашымі продкамі прыгажосці і неабходнасці гармоніі дум і здзяйсненняў з роднай зямлёй.

Дванаццатае стагоддзе дало нам яшчэ аднаго выдатнага мастака — Лазара Богшу. Адзіны дайшоўшы да нас твор яго — неацэнны крыж Ефрасінні — знік у віхуры другой сусветнай вайны.

А палачанін Францыск Скарына — адзін з тытанаў думкі ўсяго еўрапейскага Адраджэння. Ён першы ў 1517 годзе даў усходняму славянству друкаваную кнігу, уразіўшы сучаснікаў сваёй шырокай адукаванасцю, шматпланавасцю інтарэсаў, талентам пісьменніка і перакладчыка.

Крыху больш як праз стагоддзе з Полацка выходзіць яшчэ адзін выдатны грамадскі і культурны дзеяч, педагог, публіцыст, першы рускі пісьменнік Самуіл Пятроўскі-Сітняковіч, вядомы пад псеўданімам Сімяон Полацкі...

Гэты горад вабіць да сябе архітэктараў і археолагаў, мастакоў і пісьменнікаў, музыкантаў і проста турыстаў — усіх тых, каго цікавіць мінулае роднага краю, жыццё і дзейнасць яго лепшых людзей. Вабіць багатай гісторыяй і маўклівымі яе сведкамі, натхняе на творчасць.

На працягу апошніх дзесяці гадоў полацкая мінуўшчына стала прадметам пільнай увагі і клопатаў рэстаўратараў. Іх дбаннем некаторыя з ацалелых помнікаў ужо вернуты да дзейснага жыцця. Цяпер у выніку стварэння ў Полацку першага ў рэспубліцы гісторыка-археалагічнага запаведніка (пасля заканчэння рэстаўрацыі ўсіх помнікаў яму маркуецца надаць статус гісторыка-архітэктурнага) работы па аднаўленні помнікаў старажытнасці набылі больш планамерны і мэтанакіраваны характар. Запаведнік стаў паўнапраўным гаспадаром гістарычнай часткі горада агульнай плошчай амаль у 45 гектараў.

Давайце і мы пройдземся па яго ўладаннях.

Пачнём з комплексу Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Перад намі бялюткае дзіва — храм Спаса. Храм дзейнічае і зараз, а таму знутры пабачыць яго можна пакуль што толькі ў час набажэнства. Але ў хуткім часе царкоўная абшчына з яе згоды будзе пера-







Увасабленне гармоніі задум і здзяйсненняў старажытных дойлідаў — помнікі Полацкага гісторыка-архітэктурнага запаведніка.

# ЗЯМЛЯ ЗАПАВЕДНАЯ

ведзена ў так званую зімовую або цёплую Спаскую царкву і тады можна будзе пачаць работы па выратаванню — кансервацыі, рэстаўрацыі — унікальных фрэскавых роспісаў у храме дванаццатага стагоддзя.

Бездакорная прыгажосць архітэктурнага аблічча Спаскай царквы асабліва выразна ўспрымаецца побач з яшчэ адным храмам комплексу — Крыжаўзвіжанскім. Гэты гмах дзевятнаццатага стагоддзя пануе над усім наваколлем. Здалёк бачны яго цэнтральны купал, увянчаны сферычнай выявай сонечнай сістэмы. Чатыры малыя купалы завершаны спічакамі і пакрыты ліставой меддзю. Тут мяркуецца адкрыць гарадскі планетарый.

Выпраўляемся на адну з самых старажытных вуліц горада, якая цягнецца ўздоўж Дзвіны і носіць цяпер імя Леніна. Багаяўленскаму сабору, пабудаванаму ў васемнаццатым стагоддзі ў стылі класіцызму, аднаму з чатырох помнікаў, што захаваліся на ёй, пашчасціла раней за іншых вярнуцца да жыцця. Пяць гадоў назад па праекту архітэктара Валерыя Рыгоравіча Слюнчанкі сабор быў адрэстаўрыраваны, і цяпер тут — адна з лепшых у Беларусі карцінных галерэй. Раўнамерна струменіць праз высокія вокны святло, цудоўная акустыка (супрацоўнікі галерэі яе ўдала выкарыстоўваюць, уключаючы пад час экскурсій запісаную на плёнку музыку барока з так званага «Полацкага сшытка») стварае атмасферу высокай эмацыянальнасці пры ўспрыманні твораў жывапісу, графікі, скульптуры. Багаяўленскі сабор і размешчаная ў ім карцінная галерэя ўвайшлі ў склад запаведніка на правах аддзела выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Побач будынак былой Брэсцкай школы або, як яго называюць некаторыя даследчыкі, дом Сімяона Полацкага. Пабудаваны крыху раней, у семнаццатым стагоддзі, ён разам з Багаяўленскім саборам утварае адзіны архітэктурны комплекс. Да 500-годдзя ўсходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны тут мяркуецца адкрыць музей беларускага кнігадрукавання. Рэстаўрацыйныя работы па наданні будынку школы першапачатковага выгляду плануецца пачаць сёлета, а збор матэрыялаў і падрыхтоўка экспазіцыі музея — адна з галоўных на бліжэйшы час задач супрацоўнікаў запаведніка.

Крыху далей ад школы, на другім баку вуліцы — так званы дом Пятра I, помнік архітэктуры ў стылі барока, пабудаваны ў канцы семнаццатага стагоддзя. Пакуль што ў ім гарадская дзіцячая бібліятэка, але ў будучым тут мяркуецца стварыць музей быту Полаччыны. Жыхары наваколля з вялікай ахвотай дораць гэтаму будучаму музею многія цікавыя рэчы свайго побыту, узоры народнага мастацтва. Ніна Якаўлеўна Шлюмер з вёскі Дзёрнавічы падарыла ткацкі станок з усім неабходным для работы на ім начыннем, а таксама некалькі сваіх лепшых саматканых посцілак. Народная майстрыха выказала вялікае жаданне перадаць і сваё майстэрства супрацоўнікам музея, каб станок у яго сценах не быў «мёртвым». А пакуль што яна навучае народным рамёствам дзяўчатак са сваёй вёскі, таксама па сваёй ахвоце і бескарысліва...

На супрацьлеглым беразе Дзвіны, уверх па яе цячэнню, у прыгарадзе Бельчыцы ёсць яшчэ адзін лапік полацкай зямлі з вельмі даўняй мінуўшчынай. Гэта комплекс Барысаглебскага манастыра. Праведзеныя там археалагічныя раскопкі, а таксама летапісныя і літаратурныя крыніцы ўказваюць на мноства манументальных пабудоў у гэтым раёне, пацвярджаючы думку аб існаванні тут княжацкай рэзідэнцыі. На жаль, ніводзін з чатырох помнікаў культавага будаўніцтва дванаццатага стагоддзя ў гэтым месцы не захаваўся, і Барысаглебскі комплекс увайшоў у запаведнік толькі як помнік археалогіі.

Вуліца Леніна вядзе нас да самай старажытнай часткі горада — Верхняга замка. Справа ўвагу затрымлівае арыгінальны будынак. Гэта Лютэранская кірха, у якой размешчаны гарадскі краязнаўчы музей. Цяпер ён зачынены на змену экспазіцыі. А якраз насупраць музея, толькі на тым беразе Дзвіны, мінулай вясной пасля рэканструкцыі адкрыўся музей баявой славы з багатай і цудоўна аформленай экспазіцыяй, якая расказвае аб змаганні з ворагам у гады Вялікай Айчыннай вайны. Краязнаўчы музей з музеем баявой славы ўвайшлі ў склад запаведніка на правах філіяла.

Дамінуючая частка запаведніка, яго навуковы, метадычны і экскурсійны цэнтр — Сафійскі сабор, як самы старажытны, самы велічны, самы багаты па арганічнаму зліццю ўсіх мастацтваў. Ужо два сезоны вабіць сюды аматараў музыкі яго канцэртная зала з арганамі. Са стварэннем часовай экспазіцыі Сафія адкрыта нядаўна для наведвальнікаў і як музей. На думку дырэктара запаведніка Т. Д. Рудавай, яго стварэнне дае магчымасць для каардынацыі ўсёй работы па далейшым вывучэнні і аднаўленні помнікаў мінулага, а таксама іх шырокай прапагандзе і захаванні. У гэтага запаведніка — вялікія правы. Вызначаны ахоўныя зоны горада, межы новых забудоў, у якіх любыя работы можна пачынаць толькі са спецыяльнага дазволу кіраўніцтва запаведніка, пры ўмове папярэдняга правядзення археалагічных і іншых навуковых даследаванняў.

Тысячагадовы горад даўно цікавіць вучоных. Шмат захапляючых старонак яго гісторыі раскрылі Л. В. Аляксееў, В. Я. Данілевіч, Г. В. Штыхаў і многія іншыя дарэвалюцыйныя і савецкія даследчыкі. Але час і людзі не заўсёды былі літасцівыя да гэтага горада. Шмат якія унікальныя помнікі архітэктуры, багацейшыя бібліятэкі Сафійскага сабора і Кадэцкага корпуса, іншыя мастацкія і навуковыя каштоўнасці Полацка зніклі для нашчадкаў незваротна. Аб'яднанне ў запаведнік тых, што захаваліся, дазваляе спадзявацца, што болей страт не будзе, што помнікі полацкай мінуўшчыны будуць служыць будучыні і апавядаць наступным пакаленням пра нашых мужных, мудрых і таленавітых продкаў.

**Валянціна АРЛОВА.**

# ГІСТАРЫЧНАЕ ПАДАРОЖЖА



Аўтар першай «Гісторыі Расійскай» і першага рускага энцыклапедычнага слоўніка «Лексікон», вучоны і літаратар, дыпламат і падарожнік, ваенны дзеяч і асветнік — прырода шчодра надзяліла гэтага чалавека талентамі. Імя Васіля Мікітавіча Тацішчава — сёлета адзначаецца 300 гадоў з дня яго нараджэння — залатымі літарамі ўпісана ў скрыжалі айчыннай гісторыі.

Аднак мала хто ведае пра сувязі вучонага з Беларуссю. Дарэчы, вось як тлумачыць паходжанне назвы гэтага краю сам Тацішчаў у сваім «Лексіконе»: «Белая Россия есть средняя часть в Российском государстве, между Великою и Малою... От имени же, от чего и когда названа Белая, неизвестно, некоторые мнят от множества снегов, другие — от белого платья...»

Шырока вядома, што В. М. Тацішчаў прымаў гераічны ўдзел у Палтаўскай бітве. Менш вядомы той факт, што паручнік драгунскага палка Тацішчаў камандаваў у бітве ротай, якая складалася з конных драгунаў — выхадцаў з Беларусі. Вучоны зазначыў: драгуны-беларусы, апынуўшыся разам з камандзірам у самай гушчы бою, паказалі сябе з найлепшага боку, і Тацішчаў «храбростию отменной оных воинов зело доволен был». Разам з драгунамі Васіля Тацішчава рынуўся ў бітву сам Пётр I. Змагаючыся поплеч з царом, Васіль Мікітавіч быў цяжка паранены, і Пётр, пад'ехаўшы, пацалаваў яго па сваёй звычцы ў лоб, віншуючы з раненнем за Айчыну.

Тацішчаў быў у такім захапленні ад храбрасці і мужнасці сваіх салдат, што пераканаў камандзіра драгунскага палка Аўтанома Іванавіча Іванова накіраваць яго, паручніка Тацішчава, за папаўненнем у Беларусь. Улетку 1710 года, ачуняўшы ад ран, атрыманых пад Палтавай, Васіль Тацішчаў накіроўваецца на Палессе, у горад Пінск,— па навабранцаў. Вядомы маршрут Тацішчава ад Пскова ў Пінск.

У чэрвені прыйшло пісьмо з Масквы. Паручніку Тацішчаву, «коли укрепился в здравии и бодр», загадана было неадкладна выехаць у Пінск і набраць там каманду ў 300 чалавек, аб чым была дамоўленасць паміж рускім царом Пятром і польскім каралём Аўгустам. З тым Васіль Мікітавіч і паехаў. Вярхом, разам з верным сябрам Аляксандрам Васільевым. Ад Полацка — да Мінска, і далей, не спыняючыся ў Мінску,— да старажытнай вёскі Узда. Тут Тацішчаў запісвае ў дзённік аб вёсцы, спаленай ушчэнт шведамі. Вяскоўцы расплаціліся за тое, што вышлі сустракаць нязваных гасцей не хлебам-соллю, а дубінкамі ды косамі. Каля вёскі Магільна Тацішчаў зарысоўвае старажытныя курганы, узрост якіх вызначаў не менш як тысячу гадоў.

«Немон,— запісваў у сшытку драгунскі паручнік,— значит «нем он», от корня словенского немота происходит имя сей реки, длиною она в тыщу верст уходит ко Литве. Начало же ея стремления — у села Песочное, от коего обозревал в тридцати верстах». На востраве пасярэдзіне ракі выявілі пакінуты замак. У сшытку з'явіўся расказ мясцовых жыхароў пра аблогу замка войскамі Карла XII, і пра тое, як князь — уладальнік замка — вырataваўся ад чужынцаў, уцёкшы па падземным ходзе на драбінках, у якіх запрэжаны былі мядзведзі.

Падарожнікі пераначавалі ў вёсцы Прусінава, а на наступны дзень, мінуючы Мікалаеўшчыну, спыніліся на абед у мястэчку Стоўбцы, дзе дзякі маскоўскага пасольскага прыказа старанна выпісвалі доўгія і вузкія лісты паперы — стоўбцы, паведамляючы ў іх замежныя весткі для царскіх «Ведомостей», і амаль штодня адпраўлялі іх у сталіцу. На наступны начлег спыніліся ўжо ў гарадку Лунінец, на краі Пінскіх балот. У маёнтку князя Друцкага-Любецкага Парахонск Тацішчаў і яго спадарожнік спыніліся на пастой. Тут Тацішчаў перадаў князю царскую грамату на бяспошлінны гандаль з бровараў і палатняных заводаў, якой ён быў узнагароджаны за ўдзел у баі з ворагам пад Лясной, за дзевяць месяцаў да Палтаўскай бітвы.

Набраўшы папаўненне, Тацішчаў будуе невялікі флот на рацэ Бобрык, адлівае ў Пінску некалькі гармат і неўзабаве выводзіць па Бобрыку ў Прыпяць сем суднаў з трымастамі палешукамі-навабранцамі на борце. Стругі і боты спорна ішлі пад парусамі да самага Дняпра. Невялікі прыпынак каля Мазыра і — зноў у дарогу. Неўзабаве, звяраючыся з картай і Брусавым календаром, паручнік прывёў сваю флатылію ў Кіеў. Тут, пад Корасценем, Тацішчаў вучыў маладых беларусаў коннаму строю. 20 верасня 1710 года драгунскі полк, які атрымаў назву Азоўскага, выступіў з Кіева ў Азоў, а адтуль — у Пруцкі паход...

Вывучэнне гісторыі і культуры Беларусі зрабіла значны ўплыў на фарміраванне будучага выдатнага вучонага, да чыёй «Гісторыі» натхнёную прадмову напісаў сам М. В. Ламаносаў. Але гэта было ўжо ў падмаскоўным Болдзіне, дзе В. М. Тацішчаў правёў у напружанай працы апошнія пяць гадоў жыцця і дзе памёр 15 ліпеня 1750 года.

«Амаль рэвалюцыйны заклік» бачыў у творах Тацішчава Г. В. Пляханаў і пісаў пра яго: «Тацішчаў з'яўляецца нібыта галавою шматлікага роду асветнікаў, які доўга адыгрываў уплывовую і плённую ролю ў нашай літаратуры». І назіраў услед за Тацішчавым імёны М. Г. Чарнышэўскага і М. А. Дабралюбава. А. С. Пушкін адзначаў: «Ці звярнуся я да гісторыі айчыннай? І што скажу пасля Тацішчава?»

**Георгій БЛЮМІН.**

г. Масква.





**На здымках: В. М. Тацішчаў, 1720 г.; надмагільны помнік Тацішчаву каля Болдзіна; урывак з пісьма ў Акадэмію навук, 1733 г.**

**Фотарэпрадукцыі аўтара.**

# У СВЯТЛЕ ПАЭТЫЧНАЙ ДУШЫ

Алена Лось — чалавек надзвычай добры, інакш як магла б яна бачыць хараство? І не толькі бачыць, але і любіць яго і перадаваць сваю любоў і захапленне нам. Амаль за 30 гадоў творчай дзейнасці яна аформіла больш як 80 кніг, якія выйшлі ў выдавецтвах Масквы, Вільнюса, Мінска. Разлічаныя на дзіцячае ўспрыманне, яны цешаць вока яркімі фарбамі, радуюць канкрэтнасцю вобразаў, жыццярадасным настроем.

Мастакоўскае бачанне Алены Лось падобна на позірк дзіцяці — добры, адкрыты, гатовы да ўспрымання цуду. Сабраныя разам кнігі ў яе афармленні ствараюць вялікі, цэласны партрэт маленства, адкрываюць насычаны радасцю пошуку і адкрыцця шчаслівы свет дзіцяці.

У мінулым годзе Алена Лось звярнулася да новай для яе тэмы — стварыла ілюстрацыі да юбілейнага выдання «Слова пра паход Ігаравы». Да старажытнарускай паэмы звярталіся многія вялікія савецкія майстры, цудоўную інтэрпрэтацыю «Слова» стварыў выдатны гравёр У. А. Фаворскі. Але гэтыя абставіны не збянтэжылі мастачку, не напохалі магчымасцю паўтарыцца. Яна пайшла сваім шляхам...

Ілюстрацыі Алены Лось не падобны ні на адну з папярэдніх работ на гэту тэму. Высокая паэзія літаратурнага твора арганічна зліласе з характэрнай для творчасці мастачкі пластычнай выразнасцю: кожная лінія, штрых, дэталь касцюма, зброі або пейзажа, кожны колеравы акорд (літаграфіі чатырохколерныя), рытмічна выверданы, успрымаюцца ў кантэксце твора цэласна, пераканаўча і ў вышэйшай ступені эмацыянальна.

— Калі выдавецтва «Мастацкая літаратура» прапанавала мне праілюстраваць падарункавае выданне «Слова пра паход Ігаравы»,— расказвае мастачка,— надзвычай узрадавалася. Даўно ўжо я была ўнутрана падрыхтавана да гэтай работы: вельмі люблю рускую фрэску, абразы, дойлідства, захапляюся гісторыяй матэрыяльнай культуры таго часу, археалогіяй. Уявіце сабе — 12 стагоддзе! Магутная Русь на грані распаду. Потым чорныя часіны мангола-татарскай навалы. І раптам высокая і страсная паэзія «Слова», якое адзінокай квітнеючай галінкай дацягнулася да нашых дзён. Цэлая паэма аб зямлі рускай, твор, які ўзнімае адвечныя праблемы: дабра і зла, любові і нянавісці, сумленнасці і адданасці Радзіме, ганьбы і гонару.

Галоўным героем паэмы,— працягвае Алена Георгіеўна,— з'яўляецца ўся руская зямля, і ў стварэнні яе вобраза аўтар узнімаецца да вяршынь сапраўднага майстэрства. Прыгадайце, як незвычайна ён адухаўляе прыроду, прымушаючы яе адгукацца на чалавечае гора і радасць. Птушкі, жывёлы, дрэвы, воблакі і нават гарадскія сцены шчодра надзелены чалавечымі пачуццямі, здольнасцю суперажываць, папярэджваць аб небяспецы. Адсюль незвычайная напружанасць і драматызм падзей, якія я імкнулася раскрыць сродкамі графікі, пачынаючы з супервокладкі і вокладкі з белым цісненнем у стылі старажытнарускай разьбы 12 стагоддзя і канчаючы кампазіцыямі, прысвечанымі вузлавым момантам паэмы: вешчаму слову Баяна, пачатку паходу, «залатому слову» Святаслава, бітве, плачу Яраслаўны і вяртанню Ігара з палону...

Кожная з літаграфій здзіўляе высокім майстэрствам, глыбокім пранікненнем у сутнасць паэмы, адкрывае новыя грані таленту мастачкі. Пад яе натхнёнай рукой ажываюць старонкі старажытнай паэмы, зачароўваюць тонкай і страснай паэзіяй, хвалююць высокімі пачуццямі. Нават той, хто не раз зачытваўся «Словам», нібы наноў убачыў злавеснае сонца над дружынамі Ігаравымі, пачуў рыпенне палавецкіх колаў і крык напалоханых лебедзяў за Донам, здрыгануўся сэрцам ад горкага плачу Яраслаўны, адчуў горыч на душы Святаслава і яго рашучасць змагацца супраць агульнага ворага, каб адпомсціць «за зямлю рускую, за раны Ігаравы, храбрага Святаславіча».

Фарбам і алоўкам даверыла Алена Лось сваю захопленасць паэмай, перанесла на паперу агонь свайго добрага сэрца, святло сваёй паэтычнай душы.

**Барыс КРЭПАК.**



**Ці не добра
было бы нам, брацці,
Старадаўнымі словы пачаці...**



**Тады вялікі Святаслаў
Азваўся словам залатым,
Змяшаным з горкімі слязьмі...**



**«Паляту я ўдаль зязюляй
Па Дунаю за дубровы,
Памачу ў рацэ Каяле
Рукавок я свой бабровы...»**

Фотарэпрадукцыі Віктара ГАНЧАРЭНКІ.

ЛЁСЫ СЯМЕЙНЫХ РЭЛІКВІЙ

# КАРАЛІ І





Бразнула недзе клямка, нясмела зарыпела фортка. І амаль адначасова загарэўся, забегаў па зямлі вузкі праменьчык святла: мажны, сярэдняга росту чалавек уключыў кішэнны ліхтарык.

Гэта — Мікалай Каленікавіч Кароль. Калгасны конюх.

Калі добра прыглядзецца, то можна заўважыць у цемры: правай рукой ён трымае, як трымаюць дужыя людзі немаўлят, белы мяккі пакунак. Дакладней, нешта загорнутае ў пуховую хустку.

Куды трымае шлях Кароль? І што гэта за рэч у яго, якую трэба так старанна, нібыта дзіця, ахутваць мяккім казіным пухам?

□ □ □

**Час ад часу негацыянт Паола прапаноўваў бацьку прадаць сваю тайну, свае веды. Атрымаць за гэта гару залатых манет і стаць шаноўным галавой новага гандлёвага дома.**

**І кожны раз той не пагаджаўся і нагадваў сыну, што той уцёк з бацькоўскага дома. Уцёк, а быў жа самым здольным сярод братоў! Цяпер яго караблі спяшаюцца з афрыканскіх портаў у далёкую Амерыку. Вялікі шлях. Але не трэба мець вялікага розуму, каб зразумець: так хутка ўзбагачаюцца альбо ашуканцы, альбо злачынцы.**

**Сямейныя скандалы ў гэтым доме здараліся нярэдка. У доме скрыпічнага майстра Страдывары.**

□ □ □

— Вось бачыш, дзед, як табе пашанцавала! На такой дарозе спадарожную машыну сустрэць...

— Які ж я табе дзед?

— А што? Унукі ж, пэўна, ёсць?

— Унукі ёсць. Вось ім я сапраўды дзед. А табе...

— Зразумеў. А мне — прыемны спадарожнік! — зухавата падміргнуў вадзіцель грузавіка.

— Ты лагішынскі або з самога Пінска?

— З Брэста я, таварыш немалады пешаход. У камандзіроўцы.

— І часта ў камандзіроўках бываеш?

— Часта.

— А жонка, значыць, сумуе.

— Халасты пакуль.

— Пагуляць даўжэй вырашыў? Табе ж ужо, як пагляджу, за трыццаць. Узрост.

— Трыццаць два.

— Мая старэйшая — равесніца твая. Шасцярых дачок гадуе. Да іх і іду.

— Нічога сабе! Адны шчабятухі і аж паўтузіна! А завуць як?

— Марына, Галя, Арына, Рэня, Аня...

— Хопіць, хопіць! Не дзяцей. Маці іх як завуць?

— Вольга.

— Вось няшчасная. І не спрачайся. Напэўна, нічога акрамя пялёнак ды смаркатых насоў у маладосці не бачыла. А юнацтва — яно, як птушка. Усцешыла сэрца і — да пабачэння! Жывуць хоць нішто сабе? Мужык не ўцёк ад гэткай радасці?

— Дружна жывуць. У дастатку, культурна.

— Гэта гледзячы што называць дастаткам і культурай. У пасёлку кіно, танцы або, на крайні выпадак, заезджыя артысты бываюць?

— А як жа! Аркестр народных інструментаў ёсць. І не абы-які, а прызёр абласных аглядаўконкурсаў. Выпускнікі Лагішынскай музычнай школы па артыстаў і кампазітараў вучацца. Стадыён, Дом культуры, ансамбль, танцавальныя гурткі...

— Ты, можа, і сам па выхадных «Лявоніху» скачаш? Альбо вальсам аддаеш перавагу?

— Бывае — і скачу. Але больш іграць люблю. Для іншых.

— Для ўнучак? Каб засыналі хутчэй?

— На жарты такія і пакрыўдзіцца можна. А ўнучак, скажу табе, музыкай узрадаваць — што душой памаладзець.

□ □ □

**Чацвёра дзяцей у Страдывары. Даўно ўжо немалыя людзі. Кім жа сталі яны!**

**Паола страшэнна разбагацеў. Але мара яго пра дваранства так і засталася марай. З-за таго, што ён — нашчадак рамесніка. Чалавека нізкага звання.**

**Джузепе — манах. Самаадданы, фанатычны. І да таго ж паслухмяная марыянетка ў руках бацькоў каталіцкай царквы. Гэта ён перадаў тысячу пістоляў юнаму сыну Гварнеры з умовай пахіснуць славу дрэннага католіка Антоніо Страдывары.**

**Франчэска і Амабона так і засталіся ў бацькоўскай майстэрні. Але ўжо даўно зразумеў чараўнік з Крэмоны: дрэнныя гэта вучні. Хоць і родныя. Няма ў іх той божай іскры, якая кожны раз запальваецца ў яго ўласных вачах, калі бачыць ён яшчэ незавершаную работу.**

**Зусім не здзівіўся Антоніо, калі сыны спыталіся, чаму ён жыве ў палацы, казачна багаты, але працуе штодня, як галернік.**

**І адказваў геній: купіў палац таму, што абяцаў яго маці сваіх ужо дарослых сыноў.**

**Абяцаў даўно. У тыя дні, калі на абед часта быў толькі хлеб, сыр з таннай крамы ды крыху вінаграду. Беднай была ежа і вопратка. Затое багата было даўгоў. Абяцаў ёй, гледзячы на свае скрыпкі, якія ніхто не купляў. Таму што зрабіў іх нікому не вядомы майстар Антоніо. Іх было шмат, цэлы склад скрыпак, калі ён прадаў свой першы інструмент. Прадаў за два пістолі...**

□ □ □

— А мы ўжо бедавалі, што ты не прыйдзеш. Адліга такая дружная... Яшчэ чаю?

— Падлі гарачага... А я на машыне спадарожнай сёння. Шафёр добры сустрэўся. З Брэста. Пагаварыць ахвочы...

— Малады?

— У адзін год з табой школу скончыў. Халасты, вясёлы.

— Вось ужо такой весялосці не пазайздросціш. Адзінокі чалавек.

— А ён цябе няшчаснай назваў. Маўляў, сямёра па лаўках — і гэтак далей. Жыццём вашым цікавіўся.

— А ты?

— А што я? Расказаў... Пра ўнучак, гаспадарку, як весяліцца ўмеем. Пра гэта расказваць не сорамна. А наогул, дачка, стамляцца я пачаў хутка. Вядома ж, ногі не маладыя... Калі ўжо на сваёй машыне пракацімся?

— Вось яшчэ адну карову ды пару свіней здадзім — купім «Масквіч».

Вячэра. Дзесяць чалавек за вялікім сталом. Але размаўляюць цяпер толькі двое — бацька і дачка. Стары Кароль і Вольга.

— Што вы ўсё пра справы? — перапыніў іх муж Вольгі, хударлявы, жылісты чалавек.

Сёння ён паспеў аб'ехаць на сваім пазіку тры брыгады, памыць аўтобус, дапамагчы сябрам, якія замаркоціліся, рамантуючы камбайн, нарыхтаваць кубаметр дроў у лесе, праверыць дзённікі ў Марыны, Галі і Арыны і, нарэшце, апрануць разам з жонкай да вячэры Волечку, Рэню і Аню.

Многае паспеў калгасны механізатар Мікалай Сінькоўскі. Значыць — цудоўны быў дзень.

— І праўда,— узрадавана падтрымала яго маладая, прывабная жанчына, якая да гэтай пары моўчкі сядзела за сталом.— Дарэмна я цяжар такі несла, ці што?

— Прынесла і — малайчына. Вазьмі яго ды паглядзі, што там пад хусткай бабулінай,— паскорыў хаду падзей Мікалай Каленікавіч.

Тое, што яны з Галінай Васільеўнай загадзя дамовіліся прыйсці сёння ўвечары да Сінькоўскіх са сваімі інструментамі, было маленькім сюрпрызам. «Маленькім», таму што такое здараецца даволі часта. Яшчэ часцей, праўда, бярэ ў рукі акардэон адзінаццацігадовая Марынка. І тады Кароль любіць пытацца:

— Чаму новаму, унучка, цябе ў музычнай школе навучылі?

# СТРАДЫВАРЫ

Хітруе крыху дзед. Бо побач з ім сядзіць педагог Марыны. Галіна Васільеўна, жонка Пятра, сына Караля, працуе выкладчыкам у музычнай школе.

Выключылі тэлевізар, абляпілі дзеда дзяўчаткі. Праціраe фланеллю акардэон Галіна Васільеўна. Усё — як у тэатры за некалькі хвілін да канцэрта. Гэтак жа ўрачыста і крыху таямніча. Нават дзесяцімесячная Аня заціхла.

Лёгка, асцярожна дакранаецца смычок да струны. Але незадаволена хітае галавой Кароль:

— Не, настроіць крышку трэба. Стамілася італьянка мая за дарогу.

Асцярожна, беражна дакранаюцца дужыя сялянскія рукі да крохкага інструмента, нібы лашчаць тонкі, зграбны грыф. Збегліся маршчынкі каля вачэй Мікалая Каленікавіча. Цяпер ён увесь — слых, адно цэлае з інструментам.

Голас скрыпкі вясковы маэстра ведае з калыскі. Яна — адзінае, што засталося яму ў спадчыну ад бацькі, акрамя ведаў ды любові да зямлі, працы і музыкі.

□ □ □

**...І быў дзень, калі ў шырокую, цвёрдую, у застарэлых мазалях далонь лягла маленькая, зграбная, амаль бязважкая рука. Пяцідзесяцігадовы Антоніо Страдывары — муж семнаццацігадовай прыгажуні Марыі.**

**Ці падорыць яна яму сына? Таленавітага, настойлівага, здольнага спасцігнуць сакрэты майстэрства і прадоўжыць бацькоўскую справу?**

**Не, відаць, не дачакацца Антоніо дастойнага пераемніка — занадта позні шлюб. А тут яшчэ маладая жонка скардзілася: на вуліцах Крэмоны пра сям'ю Страдывары гавораць рознае...**

**Зусім небеспадстаўны страх чароўнай Марыі. Ёсць людзі, якія жадалі б бачыць вялікага майстра ў горы. Хто яны! Набожныя фанатыкі, вяльможныя махляры, злосныя зайздроснікі. Яго абвінавацілі ў змове з д'яблам, вядзьмарстве. Спрабавалі спаліць майстэрню Страдывары, абвясціўшы гараджанам, што там схавалася чума. Цудам спыніў натоўп з факеламі Антоніо.**

□ □ □

Яго твар не помніла больш нават жонка. Спрабавала ўспомніць і — не магла.

А ён знайшоўся.

Прыехаў на новай брычцы з вялікай паклажай. Праз дзесяць гадоў заробкаў на чужыне, зусім хворы, кашляючы крывёю, вярнуўся дадому ...овы бондар Антон Смушкевіч.

...браліся ля брычкі суседзі, дзеці пад нагамі блытаюцца. А ў хаце — слёзы ды галас. Ад неспадзяванай сустрэчы, нечаканай радасці.

— Дзе пабываць давялося, Антон, у якіх землях?

— У Германіі быў, і ў Італіі. Потым да Канады дабраўся...

— Грошай ці многа прывёз?

— Грошы па цяперашнім часе — рэч ненадзейная. Я на іх тое-сёе каштоўнае купіў — скрыпку, машыну швейную, гадзіннік... Усё пакажу потым.

Слова сваё стрымаў. Запрасіў неяк увечары аднавяскоўцаў...

Скрыпка аказалася вельмі старой. Але якая ж яна прыгожая, зграбная, залацістая!..

— Хто ж у нас цяпер першы скрыпач на вёсцы? — спытаўся ў гасцей расчулены Антон.

Смычок узяў Кароль. І адбыўся цуд. Загарэлася, паплыла мелодыя, нібы сонейка з-за хмар выбліснула, зямлю сагрэла. Галасы птушак у паднябессі, усплёскі рачных хваляў, мацярынская калыханка, пяшчотны шэпт закаханых загучалі пад пракуранай столлю. А смычок усё лятаў над тонкімі дрыжачымі струнамі... Як зачараваныя, слухалі сяляне дзівосны спеў заморскай скрыпкі, забыліся, дзе яны і што робіцца наўкол.

Не вытрымаў, заплакаў Антон. Абарвалася мелодыя.

— Я ж паміраць... Не жылец я...

Зімой 1913 года сустрэў ён свой апошні світанак.

— Скрыпку Каленіку, Каралю прадай. Толькі яму. Колькі зможа — столькі і заплаціць. Сапраўднай жа цаны ёй у нас усё роўна ніхто не дасць...— наказваў жонцы, заходзячыся кашлем, Антон.

Дзвюх кароў прывёў да яго ў двор старэйшы з Каралёў. Не пашкадаваў, аддаў.

Вось так і апынуўся дзівосны інструмент у гэтай сям'і. Гучаў ён на вяселлях і вясковых святах, з ім выходзіў сустракаць Кароль першы чырвонаармейскі атрад і хаваў у ліхую гадзіну.

Скрыпка перажыла Каленіка. Гаспадаром яе напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны стаў дзесяцігадовы Міколка.

У сорак другім прычапіліся да хлапчука двое паліцаяў:

— Дзе скрыпка, шчанюк?

— Выменяў на соль і муку.

— У каго?

— У праезджых.

— Глядзі, знойдзем — павесім, як сабаку!..

Не знайшлі. Бо ўжо год ляжала яна ў незвычайным футляры. Зрабіў яго Міколка Кароль з тоўстай і сухой бярозавай плахі.

□ □ □

**Багатыя негацыянты Крэмоны прыйшлі аднойчы ў госці да Антоніо. Гаворку завялі пра тое, што здараліся выпадкі, калі майстры куплялі яго скрыпкі ў складчыну і... разбіралі іх на часткі. І па іх узору рабілі свае віяліны. Але іх нельга было слухаць. Яны вісклівыя і бяздушныя... Чаму так!**

**Сёння, на жаль, мы можам толькі здагадвацца, як адбывалася гэта размова. Здагадвацца на падставе розных апублікаваных артыкулаў і кніг пра вялікага майстра. А яшчэ — узяўшы пад увагу ўспаміны сведак, яго землякоў. Калі верыць легендзе, «кароль скрыпак» казаў на гэта, што можна ўкрасці памеры. Здагадацца, з якіх парод дрэва зроблен інструмент. А як даведацца пра ўзрост клёна, ігрушы альбо сасны! На якіх глебах шукаць іх! Ён, майстра, нават сыноў не змог навучыць беспамылкова выбіраць неабходнае дрэва, дакладна знаходзіць месца для зрэзу. Тут патрэбна асаблівае пачуццё, якое, як і талент, нельга перадаць у спадчыну... І лак у Страдывары кожны раз крыху іншы — заўсёды менавіта такі, без якога нованароджаная віяліна не заспявае чалавечым голасам. А яшчэ ж — майстэрства прамыўкі загатовак, іх далейшай апрацоўкі і сушкі...**

**Вочы Антоніо загараліся тым агнём, які заўсёды асвятляў яго твар, калі ён майстраваў новую скрыпку. Майстраваў і верыў: яго скрыпкі здольны навучыць многія пакаленні людзей тонка адчуваць і любіць музыку. Любіць сэрцам, а не так, як любяць яе багатыя франты-мецэнаты, якія плацяць за кляймо з мальтыйскім крыжам, бо інакш не здольны адрозніць работу Страдывары ад вырабу бяздарнага рамесніка.**

**Страдывары ведаў, што скрыпкі яго каштуюць дорага. Але гэта сведчыла за тое, што маленькіх пяюх будуць берагчы і ашчаджаць не адно стагоддзе.**

□ □ □

На вяселлі або кірмашы ў Лагішыне можна зняць цудоўны тэлефільм і паказаць яго ў цыкле перадач пра народную творчасць. А калі сам апынешся ў стракатым, вясёлым святочным карагодзе — не заўважаеш, як ён уладарна зацягне ў сваё кола, не дазволіць заставацца пасіўным назіральнікам. І раптам выявіцца, што і ты спяваць і танцаваць умееш. А чаму ж раней не спрабаваў? Або спрабаваў, ды паспяшаўся пераканаць сябе, што атрымліваецца дрэнна, няўмела?

Сам і здзіўляешся і не знаходзіш адказу.

Вось такія тут святы, такія вяселлі.

Ёсць, вядома, у кожнай хаце радыё, прайгравальнікі. У многіх — магнітафоны, стэрэафанічныя музычныя цэнтры.

— На сапраўднай урачыстасці і музыка павінна быць сапраўднай, жывой,— гавораць у Лагішыне.

Пачынаючы з нялёгкай восені сорак чацвёртага, іграе на ўсіх навакольных вяселлях скрыпка Караля. І вось што пачалі прыкмячаць людзі: дзе гучаў яе чароўны голас, цешачы маладых і гасцей,— там назаўсёды пасяліліся згода, шчасце, адданасць.

Браў у рукі смычок Мікалай Каленікавіч і на вяселлях сваіх дзяцей. Шчасліва і ў дастатку жывуць яны.

Спытайцеся ў працаўнікоў калгаса «Шлях да камунізму», як знайсці дом Караля.

— Гэта той, што конюхам працуе? — перапытае адзін.

— Той, які добра фатаграфуе? — удакладніць другі.

А трэці... Трэці абавязкова скажа:

— Вам патрэбен музыка? Дык вунь яго дом з верандай!

Настаў час растлумачыць: не толькі сваёй ігрой на скрыпцы ды выдатным веданнем коней заваяваў павагу людзей гэты чалавек. За якую б справу ні ўзяўся — абавязкова давядзе да канца. Знайшоў аднойчы на агародзе сцёртую манету пачатку XIX стагоддзя, зацікавіўся, вырашыў сабраць калекцыю. І сабраў. Хоць і невялікую, але цікавую.

А яшчэ захапіўся Кароль фатаграфіяй. І гэта яго захапленне ўхваляюць аднавяскоўцы. Чаму? Вёска невялікая, ад горада далёка. Аўтобусы сюды не заварочваюць. Што рабіць, калі, напрыклад, трэба фатаграфію немаўляці сваякам паслаць? Вось і завуць тады на дапамогу Мікалая Каленікавіча.

Або нядаўняя гісторыя з баянам.

Зайшоў аднойчы Кароль у магазін і вачам сваім не паверыў: стаіць на вітрыне прыгажун-баян, а цана на ім — 10 рублёў. Прадавец растлумачыў, што інструмент новы, ды бракаваны.

Купіў Кароль баян. Адрамантаваў. І іграць навучыўся. Ды ўсё ж скрыпку сваю дастае з футляра часцей.

□ □ □

**Час падводзіў вынікі жыцця Страдывары: чатыры сыны і ўжо чатырыста дачок-скрыпак... Інструменты непераўзыдзеныя. А вось кляймо яго спрабавалі падрабляць. Дарэчы, фальсіфікацыя аўтографа майстра — справа не такая ўжо рэдкая. Прыклад! Калі ласка. Надзвычай красамоўны і нават... забаўны.**

**— У дзевятнаццаць гадоў Страдывары стаў вучнем славутага Амаці. Працаваў за хлеб і навуку. І быў надзвычай задаволены. Таму што лічыў сябе адзіным яго вучнем. І толькі праз гады даведаўся: да яго ў Амаці быў у чалядніках... Андрэа Гварнеры. Амаці прагнаў яго і ніколі не ўспамінаў пра таленавітага легкадумца.**

**У чым жа правініўся Андрэа! Аднойчы ён узяў скрыпку настаўніка і напісаў на ёй сваё імя...**

□ □ □

Дом Сінькоўскіх падрыхтаваўся слухаць музыку.

Мякка ліецца святло таршэра, нягучна цікае гадзіннік. Слухачы і выканаўцы сядзяць побач, чакаюць. Настрой дарослых перадаецца і самым маленькім дачушкам Вольгі.

І вось смычок упэўнена слізгае па струнах. Скрыпка прачынаецца. Велічная і пяшчотная мелодыя запаўняе пакой, то сціскае сэрца невыказным сумам, то падступае да горла высокай, аж кружыцца галава, хваляй радасці.

Час спыніўся. Ва ўсім свеце існуе толькі гармонія гукаў...

Так было, пакуль Кароль не апусціў рукі. Сонечны прамень слізгануў па бліскучых баках скрыпкі, зазірнуў праз проразі на яе дно. І высвятліў на імгненне надпіс: «Antonius Stradivarius Cremonensis. Faciebat anno 1713». І побач з ёй — шырокі мальтыйскі крыж пад ініцыяламі «A. S.».

**Валерый ЛАПІН.**

**Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.**

# Пакуль не згасла свечка

(Заканчэнне. Пачатак на 16-й стар.)

— Збольшага. Аднак, пан следчы, дазвольце заўважыць, што ў вашых паводзінах ёсць пэўная дзіўнасць. Наперш вы безапеляцыйна заявілі, што раман напісаў я, а потым згадзіліся расказаць аўтару сюжэт. Вы не адчуваеце тут супярэчнасці?

Рабаціністы пісарчук, які ў чаканні паказанняў ловіць мух, пакутліва моршчыцца, каб не засмяяцца. Следчы ўспыхвае, як дзяўчына ад скаромнага слова, і колер сурдута падкрэслівае малінавую чырвань яго твару. Мінае не менш хвіліны, перш чым ён здольны весці допыт далей.

— У такім разе...— Пан Явецкі імкнецца гаварыць па-руску лепей за прыроднага русака, але ў раздражненні ў яго непазбежна вынырвае аднекуль польскі акцэнт, і гэта толькі прыспорвае пану следчаму злаславасці.— У такім разе, міласцівы гасудар, я таксама адзначу адну дзіўнасць. У нататках нейкага падарожніка ёсць згадка, што па Егіпце ён вандраваў у турэцкім уборы. А сярод вашых рэчаў, адпраўленых у Смалічы пасля арышту, знайшлі дакладна такі ж убор. Вось шаравары, вось зялёны турбан, вось такія самыя похвы з зорачкамі...

Ён выкладвае свае трафеі з шуфляды на стол, які робіцца падобным да прылаўка на ўсходнім базары, і працягвае:

— На вашу думку ўсё гэта з'явілася ў маёнтку таксама ў выніку майго візіту?

— Цалкам магчыма.

Пісарчук у кутку прыкусвае губу і адварочваецца да сцяны...

Зразумей мяне правільна, Ежы. Я не строю з сябе героя, я проста хачу пераканаць цябе, што нават у самым цяжкім, невыносна цяжкім становішчы, калі ўжо, здаецца, няма і не можа быць ніякага выйсця, у чалавека абавязкова застаецца магчымасць барацьбы.

Чую тваё пытанне:

— А дзеля чаго, вуек, ты вёў гэтую барацьбу? Ці не разумней было б прызнаць неабвержныя факты?

Ты кажаш, што тады яны, ва ўсякім выпадку, пакінулі б мяне ў спакоі і не цягалі на бясконцыя допыты. А ведаеш, якую шалёную радасць чуў Мікалай, калі пасля Сенацкай плошчы сябры рускіх таварыстваў давалі свае паказанні? Мы з табой не маем права папракаць гэтых пакутнікаў, але я ні за якую ўзнагароду не згадзіўся б падараваць падобную радасць рыцарам з Трэцяга аддзялення. Лёс даў мне выпадак паказаць стаўпам прастола іх бяссілле, і адмовіцца ад такога шанцу было б злачынствам перад сумленнем.

І потым, допыты падабаліся мне. Не рабі круглыя вочы — сапраўды падабаліся. Не толькі таму, што я бачыў перад сабой ворагаў і мог з імі змагацца. Наглядчыкам і канваірам забаранілі са мною размаўляць, і допыты сталі адзінаю ніткай сувязі са знешнім светам. Тут я мог уведаць хоць кроплю з таго, што чыніцца па-за межамі маёй клеткі. Часам я чакаў допыту, як вандроўнік у пустэльні чакае глытка цёплай вады з амаль пустой біклажкі.

Аднойчы новы ўжо следчы, відаць, маючы на мэце паказаць мне, які лёс чакае любое паўстанне, паведаміў, што ў Вене быў мяцеж, але войскі імператара ўзялі горад.

— Думаю, у Венгрыі ім будзе цяжэй,— ва ўладзе нейкага натхнення заўважыў я, хаця на самай справе не меў аніякага ўяўлення аб тым, што адбываецца ў Венгрыі.

— Разгром угорцаў — справа самай блізкай будучыні,— адчаканіў чапурысты следчы.— Тым больш, імператар Франц Іосіф звярнуўся па дапамогу да нашага гасудара.

— Значыць, у Венгрыі таксама рэвалюцыя?! — Я не мог дый не хацеў хаваць радасць.

— Але ў Расіі мы яе не дапусцім, пан Незабытоўскі.

Праз некалькі дзён я неспадзявана змог выкарыстаць навіну. На мяне заманулася паглядзець усяму сінкліту. Я кажу пра Віленскую следчую камісію. Напачатак яе старшыня Чаваці — яўны ўгорац і прозвішчам і аблічам — дзеля праформы пацікавіўся, якія пытанні ёсць у падследнага. Тады я і спытаў, што пан падпалкоўнік адчувае ў дні, калі яго браты па крыві ваююць за свабоду.

Трэба было бачыць, як ён ускочыў з крэсла.

Дарэчы, той допыт фактычна пачаўся і скончыўся маім пытаннем.

□ □ □

Ты змеціў, Ежы, што ў палове папярэдняй старонкі літары раптам пачалі падскокваць і напаўзаць адна на адну, нібы іх выводзіла чужая рука, а потым зноў выраўняліся. Я дапісаў тую старонку цяпер, а тады, учора, знячэўку праваліўся ў нейкі нязвычны сон, дзе мая свядомасць растала, як сняжынка на нечай далоні. Нам з табой пашанцавала: на варце быў якраз мой дабрадзей. Ён забраў спісаныя аркушы, а апошні схаваў у мяне на грудзях. Сёння я распароў край пярыны, і на будучае мы дамовіліся, што тут будзе наша схоўка.

Гэта глухое забыццё было так падобна на смерць... Затое цяпер, быццам у адплату, я чую прылiў сіл, напэўна, здолеў бы нават падняцца і зрабіць колькі крокаў. Але не буду рызыкаваць, бо павінен закончыць гэты ліст. Суткі нябыту — папярэджанне, што трэба спяшацца.

Яшчэ два словы аб следстве. Пан Явецкі вярнуўся ў Варшаву залагоджваць незадаволенага патрона. Справу перадалі ў ваенны суд, я адмовіўся даваць паказанні, і абвінавачы акт стаўся ў адначас прысудам. Што, што, а судзіць у нашай імперыі ўмеюць. Але хопіць пра гэта.

Дык вось, Ежы, сёння я прачнуўся з дзіўным адчуваннем, што ў сне рака́ часу зрабіла плаўны паварот і я зноў трапіў у блаславёную пару дзяцінства. Я ляжаў з заплюшчанымі вачамі і быў дванаццацігадовым хлопчыкам, што часта прахопліваўся сярод ночы ад нейкай шчымлівай радасці. За вокнамі пансіённага дартуара гуляў вецер, сябры спалі, а я ляжаў пад цёплаю коўдрай і думаў, што мне наканавана незвычайнае, не такое, як у другіх, жыццё. Я не разумеў і не мог разумець, у чым яго незвычайнасць, трагічным ці шчаслівым яно будзе, але я і не прагнуў такога разумення — было дастаткова радасці, ад якой замірала душа.

Сёння я зноў перажываў тыя хвіліны. І раптам час абрынуўся на мяне шалёным вятрыскам, і за адно імгненне пранесліся ўсе астатнія гады.

Я адплюшчыў вочы: на цёмнай сцяне зімовы ранак ужо накрэсліў аконца з кратамі. Допусцім немагчымае, падумаў я. Той хлопчык у хвілю шчаснага бяссоння ўбачыў камеру і сябе самога на гэтых тапчагах. Як бы ён жыў далей?..

Мне здаецца, у кожнага чалавека быў ці яшчэ будзе дзень, гадзіна або момант, пра якія мы можам узгадаць часам толькі праз многа гадоў, а мо і зусім не ўзгадаем, але менавіта ад іх пачынаецца, па сутнасці, наша жыццё.

У Італіі я быў знаёмы з невідушчым жабраком. Вінчэнца — так звалі гэтага старога, якому не было і сарака,— распавёў мне сваю гісторыю. У маленстве, гуляючы ў руінах замка, ён міжволі стаў сведкам расстрэлу. Каля абымшэлай сцяны аўстрыйскія салдаты расстрэльвалі трох італьянцаў. Самы малады з іх перад залпам крыкнуў: «Перадайце маёй маці, што я нікога не выдаў!»

Вінчэнца павінен быў атрымаць спадчыну ад дзядзькі-банкіра і стаць добрапрыстойным буржуа. Замест гэтага ў няпоўныя пятнаццаць гадоў ён стаў карбанарыем, а ў дзевятнаццаць узначаліў венту.* Сляпым яго зрабілі аўстрыйскія астрогі.

Такі дзень ёсць і ў мяне. Мне было сем ці восем гадоў, якраз той узрост, калі чалавек яшчэ неўміручы і жыве ў суладнасці з усім светам. Я гойсаў па маёнтку і забег на псярню пагуляць са сваім сетэрам. Ежы, тое, што я ўбачыў, і цяпер стаіць уваччу. На псярні секлі прыгоннага хлопа. Ягонае маладое цела было распнутае на шырокай лаве, і па спаласаваных рамёнах бег тонкі чырвоны струмок.

Потым я бачыў гэта ў сне, адно там прывязаным да нахіленай лавы чалавекам быў я сам. Я прачынаўся не ад болю, а яшчэ ад свісту бізуна... Сон паўтараўся шмат разоў, нібы нехта дбаў, каб я заўсёды памятаў той дзень і чорныя ад болю і нянавісці вочы таго чалавека... Ён ненавідзеў і мяне, дагледжанага паніча, які ў жаху знерухомеў на парозе.

Можа, цяпер я заслужыў ягонае дараванне?

Я пабадзяўся па свеце, Ежы, але нідзе не бачыў большага здзеку з чалавечае годнасці, чым у гэтай імперыі. За самае мізэрнае непаслушэнства чыноўніка — на гаўптвахту, студэнта — у салдаты. Гэта, так бы мовіць, свабодных падданых. А што казаць пра рабоў?

Ты не чуў, як аднаму тамбоўскаму памешчыку прыйшло ў галаву пажыць турэцкім пашою? Завёў сабе сераль з трыма дзесяткамі прыгожых сялянак, выпісаў аднекуль еўнухаў, а вёску пачаў пераварочваць у магаметанства. Дзякаваць богу, суседзі падалі скаргу ў сінод.

А ў нашых губернях хіба нашмат лепей? Раней праваслаўных ва уніяцтва загналі, цяпер уніятаў назад у праваслаўную веру перахрысцілі з-пад палкі. Неяк зайшоў я на ка́зань у царкву — трохі з цікаўнасці, трохі з ахвоты пацвяліць прававерных католікаў. Паслухаў бы ты, як святар распінаўся, даводзячы, што пад царом нашаму мужыку вальней жывецца, чым пад каралём. Я ледзьве сам не паверыў. А адзін з гэтых ашчасліўленых мужыкоў потым на цвінтары другому і кажа: «Даўней хаця ў салдаты не бралі, а цяпераka Петрачка майго на дваццаць пяць гадоў у рэкруты павялі. Ужо на небе з сынком убачымся».

Вось і ўсё, што атрымалі.

Ежы, ужо два разы свой дзень анёла я сустракаў у нявол. Восенню мне споўніцца трыццаць гадоў... Прабач, я агаварыўся... Я не ўбачу не толькі восені, але і вясны.

Трыццаць гадоў... Здаецца, у стольki ўзышоў на эшафот смаленскі дваранін Кахоўскі. Той самы, што на Сенацкай плошчы ці не адзіны з паўстанцаў адважыўся націснуць на курок.** Столькі ж было Канарскаму *** і Савічу.**** Спадзяюся, ты ведаеш гэтыя імёны.

---

* Так называліся арганізацыі італьянскіх рэвалюцыянераў у час барацьбы за незалежнасць і ўз'яднанне краіны.

** Дзекабрыст Пётра Кахоўскі (1797—1826) у часе паўстання забіў пецярбургскага генерал-губернатара Міларадавіча і параніў двух афіцэраў, якія спрабавалі ўтаймаваць паўстанцаў.

*** Сымон Канарскі (1808—1839) — чынны ўдзельнік паўстання 1830—1831 гадоў. Вёў нелегальную рэвалюцыйную дзейнасць на Беларусі. Прыхільнік супольнай барацьбы рускага і польскага народаў супраць царызму. Расстраляны ў Вільні.

**** Францішак Савіч (1815—1845) — беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат, паэт і публіцыст. У Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі арганізаваў «Дэмакратычнае таварыства», якое працягвала ідэі філаматаў і дзекабрыстаў. Арыштаваны і высланы ў салдаты на Каўказ.

Герой — не той, хто зрабіў больш, чым іншыя. Герой — той, хто зрабіў усё, што мог. Таму я не магу назваць сваё жыццё незвычайным. Што я паспеў? Напісаў праект вызвалення сялян і не паспеў даць вольную сваім прыгонным. Склаў план чыну нелегальнага таварыства і не паспеў заснаваць яго. Марыў узяць у рукі зброю, а цяпер ледзьве трымаю пяро...

І ўсё ж, Ежы, я без сораму зірну ў вочы хлопчыку, што прачынаўся сярод ночы ў пансіённай спальні.

Уяўляю, як дзесьці ў салоне, паміж дэсертам і вістам узнікае размова пра маю асобу, і нехта, прыкрываючы далонню позех, падрахоўвае: «Я не разумею, панове, дзеля чаго пражыта жыццё...» Ежы, я веру, што ты змог бы...

□ □ □

Хлопчык мой, я пішу пасля доўгага перапынку. Тры дні і тры ночы мяне як быццам не існавала. Прадчуваю, што наступны раз магу ўжо не вярнуцца з гэтага чорнага прадоння, а мне яшчэ трэба сказаць табе нешта важнае.

У мяне эйфарыя, але розум мой ясны. Менш за ўсё я хачу, каб ты бачыў у гэтым лісце штосьці ментарскае. Сёння ў мяне зноў быў капелан. Я адмовіўся ад споведзі. Калі жадаеш, лічы ўсю нашу размову споведдзю табе.

Ежы, не перабівай мяне і даруй, калі сёння ў маіх словах не будзе той паслядоўнасці, да якой ты прывык.

Памяць пераносіць мяне на сваіх крылах у спякотны паўднёвы дзень. Мы са слугой адпачывалі ў халадку платана каля таверны. Побач спявалі некалькі маладых італьянцаў. Не магу пахваліцца дасканалым веданнем італьянскай, але ўпэўнены, што жандары не ўхвалілі б гэтае песні. Яна была аб падарожніку, які марыць вярнуцца дадому, але яго зямля ў няволі, і толькі птушкі там свабодныя.

Цяжка вытлумачыць, што адбылося са мною ў той момант. Я пачуў раптам зусім іншую песню. Я ведаў яе, але ніколі не лічыў сваёй. А цяпер мне здавалася, што я не змагу далей жыць, калі не заспяваю яе, гэтую песню, якую пяюць у нас простыя людзі.

— Рыгор, ты ведаеш такую песню? — страшэнна хвалюючыся, я напеў яму першыя словы.

— А няго ж, паночку,— уразіўся ён.— У нас яе ўсе ведаюць.

— Спявай, Рыгор!

І мы заспявалі, Ежы. Магчыма, гэта былі лепшыя хвіліны майго жыцця, хвіліны, за якія не шкода аддаць гады.

**Сакол, сакол,**
**Высока лятаў,**
**Высока лятаў,**
**А што ж ты відаў!**
**Ой відаў, відаў**
**Зялёна жыта,**
**А ў тым жыце**
**Казака забіта.**
**Забітага, несхаронена,**
**Ой парасла трава**
**Скрозь рабёрачкі,**
**Ой адкіпела кроў**
**Кругом сэрданька.**
**Прыляцелі ой**
**Да тры пташачкі,**
**Тры пташачкі —**
**Родны сёстрачкі.**
**Адна пташачка**
**Села ў ножанькі,**
**Друга пташачка —**
**У галованькі,**
**Друга пташачка —**
**У галованькі,**
**А трэцяя каля сэрданька...**

Я не заўважыў, як італьянцы абступілі нас. Калі песня скончылася, да мяне звярнуўся гаспадар таверны:

— Grazia, signor *. Мне невядома, якога народу гэта песня, але вы спявалі душой.

Сэрца так часта апярэджвае наш розум... Менавіта тады я ўпершыню засумняваўся: хто я?

Пасля я шмат думаў аб гэтым. Я прыгадваў, як у варшаўскім пансіёне сябры кпілі з майго працяжнага вымаўлення, успамінаў, як выкладчык гісторыі заўжды казаў пра вялікую Польшчу, быццам нашай зямлі проста не існавала. Я ўжо не мог заставацца спакойным, калі на нас глядзелі звысоку, калі гэтыя пыхлівыя паны велягурыста разважалі аб сваёй гістарычнай місіі. У такіх выпадках я пытаўся, а што рабіў бы пад Грунвальдам кароль Ягайла, калі б наш Вітаўт не прывёў свае сорак палкоў?

Мы называем сябе ліцвінамі, але з вуснаў аднаго чалавека я чуў іншае слова — беларусы. Ты не ўяўляеш, як бы я хацеў пагутарыць з ім цяпер. Калі не памыляюся, яго прозвішча было Марцінкевіч. Тады ён служыў у Мінску, а я ў канцылярыі ігуменскага маршалка. Памятаю, на губернскім з'ездзе з пана Марцінкевіча пасміхаліся, што світка яму бліжэй да душы, чым сурдут. Ён пісаў вершы на сялянскай гаворцы. Чамусьці я пэўны, што, калі ён не пакінуў свайго занятку, ты пра гэтага чалавека яшчэ пачуеш.

Памятаю, за сталом ён сказаў тост папросту, і была бура рогату.

Следчы Явецкі рабіў мне вочныя стаўкі з фурманам Янкам і слугамі з маёнтка. Якімі вачамі глядзелі яны на мяне, калі я таксама загаварыў на іхняй мове! Хутчэй за ўсё, падумалі, што пан крануўся з розуму. А пан проста зразумеў, што ён адной з імі крыві, што ў яго ёсць свой народ, без якога чалавек падобны на матылька, якога нясе вецер...

Ежы, хлопчык мой, свечка дагарае, а дацягнуцца да новай сам я не змагу.

Я хачу, каб ты запомніў: нельга служыць чалавецтву, не служачы свайму народу...

Свечка пагасла. Пішу гэтыя словы ў цемры. Можа, заўтра мы яшчэ сустрэнемся, але я баюся пайсці, не развітаўшыся.

Дай мне тваю руку, Ежы!..

---

* Дзякуй, сіньёр (італ.).





**УДЗЯЧНАСЦЬ.** Кіраўнік дзіцячага народнага ансамбля танца «Равеснік» Марына Бяльзацкая.

Фота Рамана КРАКАВА.

## ВЯСЁЛЫ КАЛЕЙДАСКОП

### ЧЫЯ КАРОВА ЛЕПШАЯ!

Двое прывялі на кірмаш кароў прадаваць.

— Во ў мяне карова дык карова,— кажа адзін.

— Што за яна?—пытае другі.

— Па трынаццаць літраў малака дае.

— Знайшоў чым хваліцца! Мая і на дваццаць не скупіцца.

— А мая жонка ад каровы пасля ацёлу па дваццаць чатыры нацырквае.

— Цьфу! Летам мая да дваццаці сямі даганяе.

— К-хы, у ліпені? А трыццаць не хацеў ад маёй летам?

— А што яна дае?

— Як — што? Малако!

— Я так і думаў.

— А твая?

— Мая, даражэнькі, смятанку.

### ЦЯРПЛІВЫ

— Голай авечкі не астрыжэш.

— Пачакаю, пакуль абрасце.

### ПАСПРАБУЙ

— Кінь за сабою — знойдзеш перад сабою.

— Ты кінь, а я пагляджу.

### РАЗЛІК

Нашто прадаваў сабаку, калі шкадаваў?

— Мой сабака не дурны, усё роўна дадому прыпрэцца.

### ГЭТА ДОБРА!

— Якія грошы, такі і тавар.

— Гэта добра! Я табе ў два разы дзешавей заплачу.

### РАНА ЗАМУЖ

— Хочаш замуж, дачушка?

— Хачу, мамачка!

— А ці не рана, родная?

— Рана, мамачка, рана! Ты ж пральную машыну і спальны гарнітур не купіла.

**Браты БАРОЎКІ.**




## БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ!

Жартаўнік. Прадавец усмешак. Вясёлы букініст. Гэтыя і яшчэ дзесятак іншых «пасад» на нашым яркім літаратурным кірмашы пакуль вакантныя.

Тут не гандлююць добрым настроем — тут яго дораць.

Тут можна кожнаму самастойна вызначыць кошт афарызма, пародыі, фельетона, гумарэскі, дружалюбнага шаржа, сатырычнага малюнка.

Тут дазваляецца (і нават знаўцам этыкету не пашкодзіць) паказваць пальцам на раскрадальніка, прагульшчыка, бракароба, падхаліма, хабарніка, гультая...

Такі гэта кірмаш.

Сёння яго адкрыццё.

Што наконт гэтага хочацца сказаць? Ёсць такое ходкае выслоўе: «людзі ўсіх узростаў і прафесій». Хто яго аўтар — невядома. І паколькі няма небяспекі быць абвінавачаным у плагіяце, мы смела можам сказаць:

— Якіх толькі людзей не сустрэнеш на кірмашы! Людзей самых розных узростаў і прафесій.

І — не памылімся.

Стракаты — любы кірмаш. І колькі пацешнага (а бывае — зусім не забаўка) адбываецца тут вакол кожнай лаўкі, кожнага гандлёвага рада — мяркуйце самі. Такая магчымасць у вас ёсць: перад вамі — «Кірмаш».

Калі пасля сённяшняга наведвання яго ў каго-небудзь з'явіцца жаданне змяніць ролю чытача «Кірмашу» на ролю аўтара — будзем рады. Пішыце, званіце, заходзьце!

І апошняе. Павінны прызнацца, што няма ніякай магчымасці адразу прыглядзецца да ўсёй разнастайнасці кіпучага жыцця кірмашу. А раз так — будзем прыглядацца паступова.

Пагутарым з літаратарамі, артыстамі, урачамі. Затым — са спартсменамі, работнікамі сферы абслугоўвання, транспарту. Сустрэнемся з кавалямі, механікамі, ткачамі, ганчарамі. Пазнаёмімся з аптымістамі-студэнтамі і школьнікамі, эрудзіраванымі вучонымі і настаўнікамі, якіх ужо нічога не здзіўляе. Літаральна з усімі, каго сустрэнем.

— Ага! — усклікне зараз прафесійны сатырык.— Значыць, будуць тэматычныя выпускі «Кірмашу».

Так, будуць і тэматычныя. А цяпер... А цяпер запрашаем на «Кірмаш»!

● **Аднаму селяніну трэба было паслаць пісьмо ў Слуцк, і ён папрасіў свайго суседа напісаць адрас.**

**— Слухай, адказаў сусед,— давай лепш напішам у Оршу: я вельмі прыгожа пішу літару «О».**

● **Пятро Хведаравіч, ці збылася хоць адна ваша дзіцячая мара!**

**— Збылася! Калі мяне ў дзяцінстве цягалі за валасы, я вельмі марыў стаць лысым.**

(Беларускія народныя жарты).







### НЕПРЫЧАСАНЫЯ ДУМКІ

● **Сатырыкі, абыходзьцеся без слоў, хай гавораць лічбы!**

● **Жалезны рэпертуар не павінен ісці ў металалом.**

● **Бываюць п'есы такія кволыя, што самі не могуць сысці са сцэны.**

● **Тое, што адзін паэт кажа пра другога, можна сказаць не будучы паэтам.**

**Станіслаў Е. ЛЕЦ.**
**Пераклад з польскай.**

### ФРАЗЫ

● **Калі вам не дадзена, то і не патрабуйце.**

● **Калі ўсё праяснілася, у яго пацямнела ў вачах.**

**Марына НІКІЦІНА.**

● **Адны шукаюць месца ў жыцці, другія... месца для пражывання.**

● **Далей пакладзеш — даўжэй паляжыць.**

**Яўген ГНІЛЯКОЎ.**



**Мал. Наталлі ДОРАШ.**

### РАЗВАЖАННІ

● **Як часта цяга ўвысь абмяжоўваецца пацягваннем!..**

● **Барабаншчык рэдка іграе першую скрыпку.**

**Барыс ХУСІД.**

### ДУМКІ ЎГОЛАС

● **Збіўся з дарогі — давялося стаць першапраходцам.**

● **Добра, калі задзяўбала жыццё — значыць, не прайшло міма.**

**Віталь НАЎЛЯНКІН.**






## ПАД КРЫЛОМ МУЗЫ

Масціты паэт Лявон Дурэйка дзяліўся з паэтам Жоржам Цыбуляй сакрэтамі творчасці.

— Галоўнае для паэта знайсці сваю музу. Колькі мне сустракалася таленавітых хлопцаў, а без музы згубіліся на хвалях паэтычнага мора. Шчыра кажучы, я і сам боўтаўся, бы кацяня. І тут сустрэў яе,— Лявон летуценна паглядзеў кудысьці ўдалячынь,— яна працавала рэдактарам і была самая што ні ёсць сапраўдная муза. Два зборнікі вершаў і адну паэму стварыў пад яе крылом. Ніхто не мог устаяць перад ёю. Адчыняла мне любыя брамы. Рэцэнзент Дубасек, які ўчыняў лупцаванне і не гэткім малайцам, як я, здаўся на міласэрнасць маёй музе і, спасылаючыся на хваробу, адмовіўся мяне рэцэнзаваць,— Дурэйка ўсміхнуўся і дадаў: — Без музы ў паэзіі могуць жыць толькі класікі.

— Але,— пагадзіўся Цыбуля.— Учора з часопіса «венік» даслалі.

— Адмовілі,— зразумеў Лявон.

— Ага,— кіўнуў Жорж.— Літаратурны кансультант Ціт Вершалюб упляжыў анізавошта.

— А чаго дзівіцца,— супакоіў Жоржа Дурэйка.— Без музы з тваімі вершамі далёка не пойдзеш. На адным натхненні не ўзляціш. Не тое ў цябе натхненне,— ён паблажліва паглядзеў на Жоржа.— Не журыся. Малады яшчэ, халасты: шукай сабе музу і пад паху! Вось Язь Шчуплік аж тры музы змяніў: зараз па збор твораў цягне! — Лявон падміргнуў Цыбулю і хітравата спытаў: — А мо нагледзеў ужо!

Жорж перасмыкнуў плячамі і прамаўчаў. Праз месяц у кабінет да Дурэйкі наведалася яго дачка Святлана.

Радасная, зачырванелая, яна з парога сказала:

— Татачка, я з Жоржыкам Цыбуляй аднесла заяву ў загс. Ты ж яго ведаеш, ён да нас заходзіў... Ой, як ён мяне кахае! Проста жжудасць! Ён кажа, што я яго натхненне і муза! Як ты лічыш, татачка, я падыходжу на ролю музы!

— Падыходзіш! — буркнуў Лявон і чамусьці зусім не паэтычна вылаяўся.

Марат БАСКІН.

**У МАЙСТЭРНІ ВЯСЕЛАГА МАСТАКА**



Здзіслаў СТОМА.
Сяброўскі шарж Канстанціна КУКСО.




АДДЗЕЛ ВЯДЗЕ ЗАСЛУЖАНЫ ТРЭНЕР БССР АРКАДЗЬ РАКІТНІЦКІ.

**У канцы мінулага стагоддзя ў «Литературных приложениях» да часопіса «Нива» з'явіўся папулярны шашачны аддзел. Тут жа ў 1894 годзе апублікавана першая задача, складзеная беларусам А. Міхельскім з Гродна, а следам паявіліся творы віцябчаніна В. Занеўскага, Я. Гордзіна і А. Сітнікава з Бабруйска, магіляўчаніна Л. Калманоўскага.**

## З ЧАГО ПАЧЫНАЛІСЯ ШАШКІ

Цікавыя ўспаміны аб гульні ў Віцебску на пачатку нашага стагоддзя пакінуў бацька вядомага зараз майстра спорту, доктара філасофскіх навук Івана Сцяпанава — Андрэй Іванавіч Сцяпанаў: «Шашкі былі распаўсюджаны ў карчмах, крамах, у друкарні, дзе я працаваў. Гулялі дваяка: калі «на цікавасць», то з запіраннем, калі на «сілу», то проста, хто пераможа. Лічылі шашкі, якія заставаліся на дошцы «сухарамі».

Вучыўся я гуляць у аднаго моцнага старога шашыста. За кожную запёртую шашку ён браў пяць капеек».

Але хоць у Маскве, Пецярбургу і Кіеве ўжо не раз праводзіліся першынствы гарадоў, а з 1894 года ў Маскве і чэмпіянаты Расіі, на Беларусі першыя шашачныя спаборніцтвы адбыліся толькі ў 1922 годзе. Гэта быў чэмпіянат Мінска, у якім прынялі ўдзел 15 аматараў. І арганізатарамі яго былі браты Аляксандр і Барыс Круталевічы. Круталевічы — патомныя мінчане. Старэйшы, Аляксандр, дарэчы, удзельнік грамадзянскай вайны, закончыўшы Маскоўскі універсітэт, разам з братам вяртаецца ў 1921 годзе ў Мінск, і яны адразу разгортваюць кіпучую дзейнасць. Яны выступаюць з лекцыямі і сеансамі адначасовай гульні, праводзяць шашачныя вечары, конкурсы рашэнняў, рэдагуюць шашачныя куткі ў газетах і часопісах, выяўляюць лепшых шашыстаў горада, якія і сталі ўдзельнікамі першага беларускага турніра.

Такім чынам, званне чэмпіёна сталіцы заваяваў 22-гадовы Барыс Прохаравіч Круталевіч, які выйграў 24 партыі і толькі 4 звёў унічыю. Ён набраў 26 ачкоў з 28 магчымых (гульні праходзілі ў два кругі). На два ачкі ад яго адстаў А. Круталевіч.

Вось адна з лепшых партый, у якой Б. Круталевіч перамог А. Бычкоўскага. 1. c3—d4 d6—e5 2. d2—c3 e7—d6 3. e3—f4 b6—a5 4. f2—e3 c7—b6 5. e1—f2 (зараз тут гуляюць 5. c1—d2 або 5. g1—f2) 5...b6—c5 6. d4:b6 a5:c7 7. e3—d4 a7—b6 8. a3—b4? (гэты, як быццам моцны, ход дазваляе чорным правесці бліскучую камбінацыю. Бычкоўскаму належала адказваць 8. f2—e3). Гл. дыяграму.



З'явілася: 8...d6—c5!! 9. b4 : d6 (не выратоўвае белых і ўзяцце 9. f4 : d6 з-за 9... c5 : a3 і г. д.) 9...h6—g5! 10. f4 : h6 e5—f4 11. g3 : e5 f6—g5 12. h6 : f4 g7—f6 13. e5 : g7 c7 : a5.

Гэта партыя была прызнана самай прыгажэйшай, і Б. Круталевічу быў уручаны за яе спецыяльны прыз.

Праз два гады браты Круталевічы былі запрошаны ў Маскву на першы чэмпіянат СССР. І тут чэмпіён Мінска, сярод 20 удзельнікаў, дабіваецца выдатнага поспеху. Апярэдзіўшы многіх славутых шашыстаў, Б. Круталевіч нечакана займае пятае месца і першым у нашай рэспубліцы атрымоўвае пачэснае званне майстра. Ягоны брат быў на 14-м месцы.

У другім чэмпіянаце СССР, які праходзіў у 1925 годзе і таксама ў Маскве, Б. Круталевіч зноў становіцца пятым і пацвярджае свой высокі клас гульні. Але таленавітаму майстру суджана было кароткае жыццё. У 1928 годзе ён памёр ад сухотаў горла. Балюча перажываючы страту любімага брата, Аляксандр Прохаравіч (пазней прафесар матэматыкі Белдзяржуніверсітэта) паступова адыходзіць ад шашачнай дзейнасці, хоць і працягвае цікавіцца шашкамі ўсё жыццё.

І ўсё ж першы падмурак шашачнага руху на Беларусі заклалі браты А. і Б. Круталевічы. І гэты рух набыў шырокае, не толькі ўсесаюзнае, але і міжнароднае прызнанне. Гэта вядома нават і па бліскучых дасягненнях нашых гросмайстраў, удзячных нашчадкаў Круталевічаў, Анатоля Гантварга і Алены Альтшуль, якія адпаведна чацвёрты і пяты раз сталі чэмпіёнамі свету сярод мужчын і жанчын па міжнародных шашках.

## КРАСВОРД

Склаў Вячаслаў ІГНАЦЮК.



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Адна з тых прылад, якія «Магутную волатаў сілу далі» (верш «Мая навука»). 6. Значная з'ява ў асабістым, грамадскім жыцці. 9. Зборнік вершаў паэта. 10. Псеўданімнае імя пісьменніка, грамадскага дзеяча, які першы свой верш на беларускай мове «Бяздомны» прысвяціў Янку Купалу. 12. Форма верша Купалы «Маё цярпенне, мой крывавы боль...» 14. Верш аб настроі, ад якога «Думаць будзеш усё, як памерці скарэй». 15. Літоўскі паэт, з якім сябраваў Купала. 17. Дзейная асоба камедыі «Паўлінка». 18. Вынік працы літаратара, мастака. 19. Літоўскі клуб, які наведваў паэт. 21. Прылада, якую моладзі на памяць падарыла доля ў вершы «Арлянятам». 24. Польскі пісьменнік, аўтар анталогіі «Беларускія вершы». 26. Верш аб тым, хто «стаў з трудоў гарбаты, хоць яшчэ не стар». 27. Верш аб тым, каго «Выгналі з хаты, выгналі людзі, выгналі косці жывыя». 28. Верш аб драпежнай птушцы. 29. Прыём, метад.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Персанаж драмы «Раскіданае гняздо». 2. Рака, над якою адбываюцца падзеі паэмы. 3. Герой паэмы, прысвечанай памяці выдатнага ўкраінскага паэта. 4. Персанаж твора Е. Жулаўскага, перакладзенага Купалам на беларускую мову. 7. Персанаж празаічнага і вершаванага перакладу паэтам выдатнага помніка літаратуры Кіеўскай Русі. 8. Матэрыял, з якога беларусы выраблялі лапці. 11. Прафесар, выкладчык на курсах Чарняева ў Пецярбурзе, на якіх навучаўся паэт. 13. Грамадская роля Незнаёмага ў драме «Раскіданае гняздо». 16. Бог кахання ў рымскай міфалогіі. 17. Верш паэта, надрукаваны ўпершыню — у «Нашай ніве» ў 1909 г. з паметкай: Янук Купала. 20. Паэма Я. Купалы. 21. Верш, напісаны ў Ляўках у 1935 г. 22. Збудаванне для сена. 23. Дзейная асоба ў драме «Раскіданае гняздо». 25. Беларускі савецкі скульптар, аўтар партрэта Я. Купалы. 26. Мясцовасць, у якой пражывала маці паэта і дзе ён спыніўся пры пераездзе з Вільні ў Маскву ў 1915 годзе.

**АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ У № 6**

**Па гарызанталі:** 4. Корсіка. 7. Крачка. 8. Карсак. 9. Пастарнак. 12. Бяроза. 16. Суслік. 18. Пудзель. 19. Лакавіца. 20. Агератум. 22. Дрыжаты. 23. Баабаб. 25. Цыкада. 29. Андрамеда. 30. Махаон. 31. Іматра. 32. Аднарог.

**Па вертыкалі:** 1. Скасар. 2. Баклан. 3. Кратэр. 5. Страказа. 6. Байкал. 10. Дзікабраз. 11. Тушканчык. 13. Ясельда. 14. Гусяра. 15. Алігатэ. 17. Ізумруд. 21. Авіфауна. 24. Анабас. 26. Амшара. 27. Ананас. 28. Адліга.



ТЭАТР

# Калі лялькі былі малыя...







**На здымках: выступае батлейка з Залесся; у іхніх руках ажываюць лялькі...; пасябравала з батлейкай Яўгенія Ліс.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

Адна з самых яркіх старонак у гісторыі беларускага народнага тэатра — мастацтва батлейкі. Творчасць гэтага старажытнага тэатра лялек адыграла выключную ролю ў станаўленні і фарміраванні нацыянальных традыцый.

Батлейка з'явілася на Беларусі ў XVI стагоддзі. Першапачатковы яе рэпертуар складаўся пераважна з біблейскіх сюжэтаў, інсцэнізацыя якіх была падрыхтавана ў значнай ступені спектаклямі-містэрыямі з удзелам акцёраў-выканаўцаў.

У канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзяў батлейка перастае быць захапленнем толькі шкаляроў і семінарыстаў, яна трапляе да мястэчковых рамеснікаў, а пазней і да сялян. З гэтага часу яе рэпертуар актыўна папаўняецца народна-камедыйнымі, свецкімі па свайму характару, сцэнамі. Менавіта гэты перыяд характарызуецца даследчыкамі як «бліскучая пара ўжывання вяртэпаў».

На Беларусі былі вядомы некалькі тыпаў батлейкі. Аднапавярховая, двухпавярховая і трохпавярховая батлейкі своеасабліва адлюстравалі архітэктурную эвалюцыю тэатра і істотныя змены ў яго рэпертуары. Прынцыпова адметным тыпам батлейкавага тэатра з'яўляўся так званы «жлоб», які атрымаў найбольшае пашырэнне на Віцебшчыне. Па свайму знешняму выгляду ён нагадваў архітэктурны вобраз царквы з трыма купаламі. На яго гарызантальна размешчаных сцэнах-экранах узнікалі (па прынцыпу тэатра ценяў) выявы асобных эпізодаў містэрыяльнай драмы «Цар Ірад».

Розныя тыпы батлейкавага тэатра мелі свае сістэмы лялек. Акрамя плоскіх, выразаных з бляхі ці кардону, ценявых фігурак, марыянетак, пальчаткавых лялек, шырока выкарыстоўваліся і лялькі так званага шпеневага тыпу. Асаджаныя на драўляным альбо металічным шпяні, яны ўяўлялі найбольш распаўсюджаны варыянт лялек народнай батлейкі, якіх лялечнік вадзіў па шчылінах у падлозе верхняй і ніжняй сцэны.

Асноўныя тэкставыя варыянты батлейкавых прадстаўленняў былі запісаны ў другой палове XIX стагоддзя. Па сваім паходжанні і тэматычна-стылявых асаблівасцях драматургія батлейкі дзеліцца на тры часткі: сцэны і песні рэлігійнага зместу, містэрыяльную драму «Цар Ірад» і народныя інтэрмедыі.

Асабліва цікавы раздзел драматургіі батлейкі складаюць фальклорныя па паходжанню і камедыйныя па характару сцэны. У іх знайшлі выразны адбітак народны светапогляд і густ, народныя прынцыпы асэнсавання жыццёвых з'яў. Заснаваныя на бытавых жартах, анекдотах, камічных здарэннях і апавяданнях гэтыя творы вызначаюцца асаблівай свежасцю, іскрыстасцю народнага гумару. На першы погляд гэта частка батлейкавай драматургіі здаецца выпадковым наборам розных жанравых сцэн, якому не стае пэўнага кампазіцыйнага цэнтра. Кожная сцэна тут — маленькая самастойная п'еса, нічым з іншымі не звязаная. Але гэта толькі першае ўражанне, так сказаць, погляд зблізку, знешні бок з'явы. Калі ж прыгледзецца больш пільна, то перад намі адкрываецца яркая, шматфарбная мазаіка, кожная частачка якой мае сваё месца і прызначэнне.

Разам з тым батлейцы не ўласціва кампазіцыйнае выдзяленне якога-небудзь аднаго драматургічнага накірунку, канцэнтрацыя сцэн па прынцыпу агульнага выяўленчага сродку: камедыйная сцэна ў ёй змяняецца песняй, песня — сатырычным маналогам, маналог — танцам і г. д.

У камедыйным рэпертуары батлейкі многія сцэны носяць яркі сатырычны характар, у іх востра высмейваюцца такія сацыяльныя тыпы, як доктар-шарлатан, карчмар-яўрэй, фанабэрысты франт-шляхціц і іншыя. Рассыпаныя па ўсім народным рэпертуары, «прыпраўленыя» шматлікімі песнямі і танцамі, гэтыя сцэны ў аснове сваёй захавалі агульны для ўсіх іх прынцып мастацкага асэнсавання жыцця і выразны сатырычны характар абагульнення.

Асаблівa часта ў батлейкавых тэкстах сустракаюцца сцэны з доктарамшарлатанам. Усе яны ў вядомай ступені з'яўляюцца дапаўненнем да шырокавядомай сцэны «Мацей і доктар», у якой знайшлі яркае ўвасабленне характэрныя рысы беларускай народнай мастацкай традыцыі. Дзякуючы непаўторнаму нацыянальнаму каларыту, дакладнасці і дасціпнасці вобразнай характарыстыкі, яна па праву заняла ў народным батлейкавым рэпертуары адно з вядучых месц.

Кампазіцыйны цэнтр «Мацея і доктара» — маналог селяніна, дзе ён дае сабе характарыстыку. З гэтага маналога беспамылкова ўгадваецца натура па-сялянску разважлівага героя, пачуццё гумару для якога — не столькі своеасаблівая рэакцыя на цяжкае жыццёвае становішча, колькі прыроджаная рыса характару. З іранічнай усмешкай апавядае Мацей аб сваёй прыгодзе, аб прычыне сваёй бяды: ён залішне пад'еў куццi ў пана Бараноўскага.

Ляпнэне героя паказваецца ў большасці выпадкаў прыёмамі буфанады. Звычайна доктар б'е селяніна, забірае ў яго грошы і знікае. Апошняму нічога не застаецца, як пасылаць наўздагон «доктару» розныя праклёны, перапаказваючы яго мудрагелістыя, парадаксальныя рэцэпты.

Нязменным удзельнікам батлейкавага прадстаўлення быў невялікі інструментальны ансамбль. Звычайна ён складаўся з двух ці трох чалавек, іншы раз іграў адзін музыкант. Найбольш папулярныя інструменты аркестра батлейкі — скрыпка, цымбалы і бубен.

Мастацтва батлейкі — мастацтва сінтэтычнае. Гэта было «запраграміравана» ў драматургіі і яскрава выяўлялася ў творчасці батлейшчыка, які сумяшчаў мастацтва акцёра, рэжысёра, мастака, скульптара і драматурга-сцэнарыста. Сінтэтычнасць мастацтва батлейкі выяўлялася і ў выкарыстанні ў адным прадстаўленні розных па жанрава-стылістычных асаблівасцях выяўленчых сродкаў.

У пачатку XX стагоддзя батлейкавы тэатр як мастацкая з'ява ў асноўным перастаў існаваць. Сёння мы з'яўляемся сведкамі не толькі ўсё ўзрастаючай цікавасці да народнай творчасці, але і працэсу адраджэння яе традыцыйных форм. Здаецца, ёсць усе падставы для таго, каб і батлейка, мастацтва якой вызначалася шмат якімі характэрнымі для традыцыйнай нацыянальнай тэатральнай творчасці рысамі, была вернута да жыцця. І як цікавая мастацкая з'ява колішняй народнай творчасці, і як тэатр, патэнцыяльныя творчыя магчымасці якога маглі б даць у спалучэнні з сучаснай эстэтыкай тэатра цікавыя вынікі.

**Міхась КАЛАДЗІНСКІ.**



# ОЙ, РАНА НА ІВАНА...

Сярод старажытных абрадаў, дайшоўшых да нашых дзён, купалле па праву займае адно з ганаровых месц. Гэта цікавае і прыгожае свята, напоўненае паэзіяй і музыкай, прасякнутае любоўю да роднай зямлі, да чалавека на ёй, з цягам часу набыло ў кожнай мясцовасці адметныя, толькі яму ўласцівыя рысы, гарманічна спалучыўшы старыя і новыя абрады, гульні і танцы, элементы тэатральных паказаў, карнавалаў і народных жартаў, сучасную і фальклорную музыку. Усю кароткую летнюю ноч гараць на ўзлесках, па берагах рэк купальскія агні, вабяць да сябе маладыя гарачыя сэрцы, запальваюць іх неадольнай прагай жыцця, шчасця, кахання, упартым жаданнем шукаць і абавязкова знайсці сваю папараць-кветку...

Фота Яўгена КОКТЫША.

Рэпартаж аб абноўленым абрадзе купалля чытайце на 10—11-й стар.